ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

5 СНЕЖНЯ 2003 г. № 49/4234

**АНОНС!**

Набліжаецца 60-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 60-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Установа «Літаратура і Мастацтва» праводзіць агульнанацыянальную акцыю па стварэнні кнігі «Наша Перамога». Запрашаем усіх, хто зацікаўлены, да супрацоўніцтва.



*У рубрыцы "Два погляды" — новае прачытанне асобных твораў Янкі КУПАЛЫ.* 6-7



ПРЭЗІДЭНЦКАЯ БІБЛІЯТЭКА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



# ЗАХАВАЛЬНІЦА ДУХОЎНАСЦІ

*Адной з галоўных бібліятэк нашай краіны — Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь 10 снежня спаўняецца 70 гадоў.*

СТАР. 3

## КАЛОНКА ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

Не ведаю, як для каго, а асабіста для мяне было поўнай нечаканасцю знаёмства з дадзенымі Камісіі ААН па народанасельніцтве. Аказваецца, што ў 2003 годзе на нашай "маленькай" планеце жывуць больш за 1,2 мільярда людзей ад 10 да 19 гадоў, пры тым дамінуюць дзяўчаты.

З аднаго боку, гэта не можа не радаваць, а вось з другога, – наводзіць на роздум: ААН прызнае, што соцыум апошнія 50 гадоў быў скіраваны на каго заўгодна, але не на падрастаючых юнакоў і паненак. Маецца на ўвазе, што адукацыйныя, медыцынскія, выхаваўчыя праграмы, якія датычацца падрастаючых пакаленняў, ва ўсіх краінах, без выключэння, фінансуюцца па астаткавым прынцыпе. Незалежна Амерыка гэта ці Азія, арабскі свет або "славутае" Зімбабве. Паўсюль так званыя "малалеткі", а дзеля паліткарэктнасці іх часцей называюць цінэйджэрамі, кінутыя на волю лёсу, самі на сябе. Вядома, калі маладыя людзі пакінуты без увагі грамадстваў, дзяржаў, не працаўладкаваны, а цалюткімі днямі швэндаюцца з кутка ў куток, з вуліцы на вуліцу, абы нешта знайсці, хоць чымсьці заняцца, то бязмерна павялічваецца ў маладым арганізме агрэсіўнасць і лібіда, жаданне "прыкалоцца" не так ужо важна над кім ці над чым. Галоўнае – заняць саміх сябе. Таму, відаць, ад гэтага і назіраем мы навокал павелічэнне правапарушэнняў, злачынстваў, нарказалежнасці, распаўсюджанне СНІДа ў маладзёжным асяродку. Так у Беларусі (афіцыйна) на сённяшні дзень налічваецца больш пяці тысяч хворых на гэту "снідную чуму" канца дваццатага і пачатку дваццаць першага стагоддзяў. А рэальна — каля пятнаццаці тысяч носьбітаў хваробы. І гэта на няпоўных дзесяць мільёнаў насельніцтва. У параўнанні з іншымі краінамі, здавалася б, што лічбы не такія ўжо і катастрафічныя, калі ўлічыць, што ў свеце ВІЧ-інфіцыраваных пражывае зараз 11,8 мільёна чалавек, з іх 430 тысяч прыходзіцца на Усходнюю Еўропу. Калі зрабіць акцэнт на тым, што 16 адсоткаў "спіданосцаў" не дасягнулі пятнаццацігадовага ўзросту, а 42 адсоткі – 24 гадоў, то робіцца млосна.

Нехта можа запярэчыць, што Бог з імі: з Еўропамі ды Амерыкамі, Афрыкамі ды Азіямі. Мы ад іх далёка і нас гэта не датычыцца, што там робіцца. Але... свет не такі вялікі, як нам таго хацелася б. Варта ўзгадаць, што ў нашай бліжэйшай суседкі Расіі павелічэнне хворых на СНІД штогод узрастае на 1,85 працэнта (у маладзёжным асяродку).

На сённяшні ж дзень прынцып жыцця сярод моладзі даволі няхітры (не мая гэта выдумка, а дадзеныя статыстычных арганізацый) кіно, віно, даміно і абартарый, то даўно надышоў час, калі кожнай дзяржаве неабходна задумацца пра сваю будучыню, якая заўсёды за маладымі.

Зараз жа, па тых жа дадзеных ААН, ледзь не палова насельніцтва планеты – людзі маладзейшыя дваццаці пяці гадоў. Як бачым, лічбы гавораць самі за сябе.

Для нас, беларусаў, гэта праблема таксама стаіць не на апошнім месцы, калі згадаць пра дэмаграфічны спад, пра смяротнасць у дзіцячым узросце, вялікай колькасці пенсіянераў і грамадзян перадпенсійнага ўзросту. Толькі ў гэтым, бягучым годзе, у Беларусі народжана хворымі 363 дзіцяці ад інфіцыраваных маці. Усе жанчыны вельмі ж маладыя, але нарказалежныя. Спрагназаваць, які лёс у будучым чакае немаўлят — не патрабуе вялікіх намаганняў.

Таму, відаць, больш уважліва неабходна адносіцца да сацыяльных праграм, хоць у нас, нашай дзяржаве, у параўнанні з іншымі краінамі былога СССР, многае робіцца ў сацыяльным плане для падрастаючых пакаленняў. Вялікую ролю ў выхаванні і станаўленні юнакоў і дзяўчат адыгрывае Беларускі Рэспубліканскі Саюз Моладзі, клубы па інтарэсах і захапленнях, спартыўныя аб'яднанні, сярэдняя і вышэйшая школы, урэшце кожная сям'я, але занадта заспакойвацца не варта.

Адным, адведзеным 1 снежня Міжнародным днём барацьбы са СНІДам, – чалавецтву аніяк не спраўціца з гэтай бядою...

**Анатоль КАЗЛОЎ**

## ФЕСТЫВАЛІ

***Адыходзячы, пакінула восень на ўспамін яркую палітру сёлетняга Мінскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад".***

# УСЕ ФАРБЫ ЛІСТАПАДА

***Як паведамлялася напярэдадні яго адкрыцця ў "ЛіМе" (гл. нумар за 21.XI.2003 г.), конкурсная калекцыя юбілейнага, 10-га кінафоруму ўражвала багаццем экранных фарбаў. Хаця б таму, што былі ў ёй і фільмы, ужо ганараваныя міжнароднымі лаўрамі.***





Колішнія адкрыцці "дзесятай музы" пацвердзілі сваю творчую каштоўнасць і грамадскую значнасць у Мінску — праз рэакцыю публікі (апладысменты пасля сеансаў, вынікі інтэрактыўнага апытання кінаманаў), праз ацэнкі журы.

"Лістапад" урачыста завяршыўся 28-га. І назаўтра газеты ўжо не толькі паведамлялі, але і каменціравалі вынікі размеркавання сімпатый і прызоў.

"Золатам "Лістапада", галоўным прызам, ганаравана сенсацыя сёлетняга кінагода — драма "Вяртанне" расійскага рэжысёра А. Звягінцава. Яшчэ раз "пазалаціць" фільм, які не так даўно атрымаў "Залатога Льва" на прэстыжным фестывалі ў Венецыі, — рашэнне глядацкага журы на чале са знаным беларускім мастацтвазнаўцам Р. Смольскім. Фільм расійскага дэбютанта Г. Сідарава "Бабулі" ("Старухи"), ужо адзначаны "Залатой ружай" дванаццатага "Кінатаўра", атрымаў "Серабро "Лістапада". Наша глядацкае журы не пакрыўдзіла і "Анастасію Слуцкую", адзначыўшы фільм Ю. Яхлова "Бронзай "Лістапада".

А што ж сказала журы, прадстаўленае кінапрэсай на чале з Л. Перагудавай? "Фільмам, як творам мастацтва" яно назвала ўсё тое ж "Вяртанне", "магіяй кіно" прызнала працу А. Учыцеля "Прагулка", прызам "За веру ў чалавечнасць" ганаравала "Бабуляў".

Журы прафесійнае, у якім старшыняваў рэжысёр І. Масленнікаў (Расія), адзначыла як лепшую рэжысуру В. Мельнікава — фільм "Гароты, гаротны Павел". У гэтай жа стужцы за лепшую мужчынскую ролю ўзнагароджаны В. Сухарукаў. Прыз за лепшую жаночую ролю атрымала Д. Стэнка, якая знялася ў фільме Е. Антчака ды Я. Баранскай "Шапэн. Прага кахання".

І яшчэ адна, скажам так, пазаконкурсная выснова. Нягледзячы на магію хатніх тэлеэкранаў і відэа, нягледзячы на распаўсюджванне чараў Інтэрнэта, людзі актыўна ходзяць у кіно. Іх вабяць жывыя фарбы "Лістапада"...

**Я. КАРЛІМА**

***Урачыстае закрыццё. У цэнтры — прэзідэнт фестывалю народны артыст СССР Р. ЯНКОЎСКІ; спецыяльны прыз Прэзідэнта Беларусі народнай артыстцы СССР К. ЛУЧКО ўручае намеснік прэм'ер-міністра РБ У. ДРАЖЫН; акцёры — выканаўцы роляў у фільме "Анастасія Слуцкая".***

***ФОТА А. ДЗМІТРЫЕВА***



## УШАНАВАННЕ

# У ГОНАР ПІСЬМЕННІКА І ПАРТЫЗАНА

***Днямі на доме № 28, што па праспекце Ф. Скарыны ў Мінску, была ўрачыста адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар пісьменніка Уладзіміра КАРПАВА, які доўгі час жыў у гэтым будынку.***




Ініцыятарамі гэтай акцыі сталі Саюз беларускіх пісьменнікаў, сям'я Ул. Карпава ды гарвыканкам, які забяспечыў фінансавы бок добрай справы. Аўтарам мемарыяльнай дошкі, што нагадвае сабою раскрытую кнігу, на адной старонцы яе — барэльеф пісьменніка, на другой — выявы літаратурных герояў ягоных твораў, стала малады скульптар Вольга Мурашка. Гэта яе першая (і даволі ўдалая) манументальная работа.

Урачысты мітынг, на якім прысутнічалі прадстаўнікі грамадскасці, упраўлення культуры гарвыканкама, аддзела культуры Ленінскага райвыканкама, пісьменнікі, жонка Ул. Карпава Марыя Міхайлаўна і дачка Людміла, адкрыў уступным словам старшыня праўлення СБП Алесь Пашкевіч.

Дацэнт БДУ Вольга Казлова — вельмі блізкі сябра сям'і Карпавых — распавяла пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Ул. Карпаў быў падпольшчыкам, партызанскім разведчыкам, намеснікам камандзіра спецгрупы Мінскага абкама КПБ. З разведкай Чырвонай Арміі ўвайшоў у Мінск у першы дзень яго вызвалення і застаўся тут працаваць — спачатку настаўнікам, потым завучам СШ № 42, дзе вучыўся будучы Нобелеўскі лаўрэат Ж. Алфёраў. Адначасова супрацоўнічаў у газетах "Звязда" і "Советская Белоруссия", нейкі час быў адказным сакратаром газеты "Літаратура і мастацтва", з 1947 года — загадчыкам аддзела прозы часопіса "Полымя".

Ул. Карпаў быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, у мірны час — Працоўнага Чырвонага Сцяга і медалямі.

Усе этапы ягонага жыцця знайшлі адлюстраванне ў празаічных творах — вядомых раманах з цыкла "На пераломе стагоддзя": "Нямігі крывавыя берагі", "За годам год", "Вясення ліўні", "Сотая маладосць". Пра Уладзіміра Карпава як чалавека і сябра расказаў у заключным слове ягоны таварыш па пяру, пісьменнік Алесь Савіцкі.

**Н. К.**

ЮБІЛЕІ

***10 снежня спаўняецца 70 гадоў Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь (да 1994 года Урадавая бібліятэка).***

# ЗАХАВАЛЬНІЦА ДУХОЎНАСЦІ



Сёння гэта адзін з буйнейшых у Беларусі навуковы даведкава-інфармацыйны цэнтр з універсальным фондам у вобласці Дзяржаўнага кіраўніцтва эканомікі і права.

У яе кнігасховішчах звыш 1,5 млн. дакументаў на традыцыйных і электронных носьбітах, 11 тысяч чытачоў.

Асаблівы гонар бібліятэкі — гэта старадаўнія рарытэты. Фонд старадрукаў і рэдкіх выданняў налічвае каля 20 тысяч экземпляраў кніг, часопісаў, газет, улётак. Сярод самых бясцэнных выданняў — 12 кірыліцкіх старадрукаў XVII—XVIII стст., у іх ліку "Служэбнік" (М., 1602), "Анфалагіён" (Кіеў, 1618), "Трыадзіён" (Львоў, 1664) і інш.

Бібліяграфічную каштоўнасць прадстаўляюць і такія выданні, як кнігі: Пушкін А. С. "Руслан і Людміла" (1817), Горкі М. "Мать" (1907), Колас Я. "Новая зямля" (1923), Купала Я. "Жалейка" (1908), Бядуля З. "Абразкі" (1913), Бурачок М. (Багушэвіч) "Дудка беларуская" (1896), першая беларуская газета "Наша ніва" за 1920—1933 гг., часопісы за даваенныя гады "Асвета". "Маладняк" і многія іншыя унікальныя выданні.

Тут захоўваюцца фондавыя часткі бібліятэк Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, Супрасльскага і Баркулабаўскага манастыроў, кніжных збораў вядомых навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў Б. Эпімах-Шыпілы, В. Ластоўскага, К. Езавітава і інш.

Словам, "пакапаўшыся" ў рарытэтах бібліятэкі, можна знайсці неабходную і грунтоўную базу для навуковай і творчай працы.

Між іншым, у даўгу не застаюцца і пісьменнікі: дораць бібліятэцы свае новыя творы. Больш за 210 кніг з дарчымі надпісамі складаюць у фондзе рэдкіх і каштоўных выданняў асобную калекцыю. Так, у 1954 годзе бібліятэцы падарыла "Вибрані твори" Янкі Купалы на ўкраінскай мове верная спадарожніца народнага песняра Уладзіслава Луцэвіч. У 1977 г. "з добрымі пажаданнямі" падарыў зборнік вершаў "Калі ласка" Пятрусь Броўка. "Чытачам бібліятэкі Дома Урада, каб весялей жылося" прапанаваў Андрэй Макаёнак свае "Выбраныя творы" у 1981 г., Максім Танк падарыў "Збор твораў (1958) з аўтографам "На добры ўспамін паважаным чытачам Урадавай бібліятэкі".



Адзін з актуальных напрамкаў функцыянавання бібліятэкі — камп'ютэрызацыя яе тэхналагічных працэсаў. Парк машын налічвае 85 камп'ютэраў і складаецца з чатырох інтэграваных між сабой падсістэм: "Серыйныя выданні", "Кнігі", "Электронная картатэка артыкулаў" і "Чытач". Выкарыстоўваюцца тэхналогіі штрыхавога кадзіравання ўсіх адлюстроўваемых у ЭК выданняў і чытацкіх білетаў, рэтраспектыўнай канверсіі карткавых каталогаў, электроннай замовы і дастаўкі дакументаў, інтэрнет-доступу, скanіравання і капіравання інфармацыі.

Калектыў Прэзідэнцкай бібліятэкі падтрымлівае цесныя кантакты з бібліятэкамі ЗША, Польшчы, краінамі Балтыі і СНД.

Сярод яго партнёраў — Бібліятэка Кангрэса ЗША, Парламенцкая бібліятэка РФ, Нацыянальная Парламенцкая бібліятэка Украіны, Бібліятэка Сейма Польшчы і іншых краін свету.

Славу бібліятэкі складалі і складаюць руплівыя і энергічныя працаўнікі. Напрыклад, вялікі ўклад у развіццё бібліятэчнай справы зрабілі супрацоўнікі бібліятэкі Е. Гурская, Н. Пульманоўская, Л. Штэрн, С. Цлаф, Е. Гатоўка, А. Апенгейм, Л. Віленчык, Г. Чаркас, Р. Барташ, Т. Лаўрыновіч, кіраўнікі бібліятэкі С. Ашаровіч, П. Архіпец, Э. Цыганкоў, С. Юдо і іншыя цудоўныя бібліятэкары па прафесіі і па прызванні.

**Іосіф ПАЖОГА**

ВІНШУЕМ!

## "ЗОЛАТА" З ЛЮКСЕМБУРГА

Маладая піяністка Марыя Пракоф'ева (студэнтка-пяцікурсніца Беларускай акадэміі музыкі, клас прафесара Валерыя Шацкага) з трыумфам выступіла на Еўрапейскім конкурсе музыкантаў-выканаўцаў у Люксембургу (Concours Luxembourgeis pour jeunes solistes). Удзельнічалі ў ім 25 спаборнікаў, якія прадстаўлялі Беларусь, Бельгію, Германію, Іспанію, Люксембург, Францыю.

Марыя Пракоф'ева атрымала вышэйшую ўзнагароду: залаты медаль ды спецыяльны прыз журы.

**Н. К.**

ВЫСТАВЫ

## ЭКСПАЗІЦЫЯ ДА ЮБІЛЕЮ

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі з 27 лістапада адкрыты мастацкая і кніжная выставы, прысвечаныя 200-годдзю з дня нараджэння рускага паэта Фёдара Цютчава.

Мастацкая экспазіцыя прадстаўляе 25 эстампаў беларускага мастака Уладзіміра Правідохіна на тэму жыцця і творчасці Ф. Цютчава. Трэба адзначыць, што У. Правідохін працуе ў тэхніцы ксілаграфіі і лінагравюры, што рэдка выкарыстоўваецца сярод мастакоў-графікаў. Яго інтэлектуальная графіка напоўнена глыбокім філасофскім асэнсаваннем твораў рускага паэта, звязана з тэкстам тонкімі асацыяцыямі вобразнага абагульнення пачуццяў і меркаванняў, што стаяць па-за радкамі вершаў.

Кніжная выстава ўключае ў сябе каля 300 дакументаў з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі: кнігі, брашуры, перыядычныя выданні, ілюстраваны матэрыял. Да ўвагі наведвальнікаў прадстаўлены выданні твораў Ф. Цютчава з канца XIX стагоддзя да нашых дзён, літаратурна-крытычныя працы пра жыццё і творчасць паэта, аўдыёматэрыялы і іншае.

**В. К.**

# ІДЗЕ ПАДПІСКА НА І-ае ПАЎГОДДЗЕ 2004 ГОДА!

***Шаноўныя чытачы! Пачалася падпіска на першае паўгоддзе 2004 года. На выданні Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні нашай краіны. Для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адкрыта льготная падпіска.***




**«Літаратура і мастацтва»**

Індывідуальная (індэкс — 63856)
**на 1 месяц — 2600 руб.**
**на 3 месяцы — 7800 руб.**
**на 6 месяцаў — 15600 руб.**
Ведамасная (індэкс — 63857)
**на 1 месяц — 4100 руб.**
**на 3 месяцы — 12300 руб.**
**на 6 месяцаў —24600 руб.**
Льготная (індэкс — 63880)
**на 6 месяцаў — 16800 руб.**

**«Полымя»**

Індывідуальная (індэкс — 74985)
**на 1 месяц — 2600 руб.**
**на 3 месяцы — 7800 руб.**
**на 6 месяцаў — 15600 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00141)
**на 1 месяц — 3600 руб.**
**на 3 месяцы — 10800 руб.**
**на 6 месяцаў — 21600 руб.**
Льготная (індэкс — 00727)
**на 6 месяцаў — 16800 руб.**

**«Маладосць»**

Індывідуальная (індэкс — 74957)
**на 1 месяц — 2700 руб.**
**на 3 месяцы — 8100 руб.**
**на 6 месяцаў — 16200 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00137)
**на 1 месяц — 3900 руб.**
**на 3 месяцы — 11700 руб.**
**на 6 месяцаў — 23400 руб.**
Льготная (індэкс — 00731)
**на 6 месяцаў — 16800 руб.**

**«Нёман»**

Індывідуальная (індэкс — 74968)
**на 1 нумар — 2600 руб.**
**на 3 месяцы — 7800 руб.**
**на 6 месяцаў — 15600 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00238)
**на 1 месяц — 3600 руб.**
**на 3 месяцы — 10800 руб.**
**на 6 месяцаў — 21600 руб**
Льготная (індэкс — 00728)
**на 6 месяцаў — 16800 руб.**

**«Всемирная литература»**

Індывідуальная (індэкс — 74863)
**на 1 нумар — 2600 руб.**
**на 2 нумары — 5200 руб.**
**на 3 нумары — 7800 руб.**
Ведамасная (індэкс — 00135)
**на 1 нумар — 3600 руб.**
**на 2 нумары — 7200 руб.**
**на 3 нумары — 10800 руб.**
Льготная (індэкс — 00729)
**на 6 месяцаў — 8400 руб.**

**УВАГА!**

**Пачынаючы з Новага года будзе максімальна скарочана паступленне выданняў Рэдакцыйна-выдавецкай установы ("ЛіМ", "Маладосць", "Полымя", "Нёман", "Всемирная литература") у розніцу. Адзіная магчымасць застацца нашымі чытачамі — ПАДПІСАЦЦА!**

# З ВЫРАЮ ВЕЧНАСЦІ

*І слухаў Рым нячутай пушчы пахі,*
*Туровы гром, алені бег ракі.*
*Ляцелі ў вырай з Белай Русі птахі,*
*А ў вырай вечнасці — твае радкі.*

Рыгор Барадулін, "Міколу Гусоўскаму"

Мінула ўжо 480 год з таго часу, як упершыню пабачыў свет у Кракаве геніяльны твор Міколы Гусоўскага "Песня пра Зубра". Эпічная паэма, напісаная на лацінскай мове, прагучала для ўсёй Еўропы як сапраўдны гімн Вялікаму княству Літоўскаму, яго багатай прыродзе і магутнаму народу.

Усіх, каму цікава гісторыя творчасці вядомага паэта-лацініста, Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры запрашае наведаць новую экспазіцыю "Мікола Гусоўскі. Голас XVI стагоддзя". Гэта выстава распавядае пра гісторыю стварэння і выдання шэдэўра беларускай рэнесансавай паэзіі — "Песні пра Зубра".

Навукоўцы музея пры дапамозе Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі зрабілі вельмі цікавую, пазнавальную выставу. Адно за адным спяшаюцца ў музей падлеткі і дарослыя — апынуцца ў XVI ст. побач з Міколам Гусоўскім, ні на хвіліну не спыняюцца экскурсіі. Паглядзець тут сапраўды ёсць на што.

Прадстаўлены муляжы старажытных кніг: статут ВКЛ 1529 г., грамата Жыгімонта І, Друцкае Евангелле XIV ст., Беларуска-літоўскі летапіс 1446 г. ("Пахвала Вітаўту"); пераклады паэмы, зробленыя Я. Парэцкім, Я. Семяжонам, Н. Арсенневай і У. Шатонам, крытычныя працы беларускіх і замежных даследчыкаў. Можна пабачыць тут і фотаздымкі са сцэнічнай пастаноўкі паэмы "Песня пра Зубра" (ТЮГ, 1994 г.), якую паклаў на мову драматургіі Аляксей Дудараў, ілюстрацыі да выдання паэмы і шмат чаго іншага.

Асобна адзначу цудоўнае афармленне мастака Генадзя Чыстага, якое надае выставе асаблівую прывабнасць. І без сумненняў, плённая праца аўтараў экспазіцыі Паліны Саўген і Ірыны Лапцёнак вызывае шчырую ўдзячнасць наведвальнікаў.

Алеся ГРЫЧЫК



# ЛЕГЕНДАРНЫ ПАРТЫЗАН

Зіма 1943-га акупацыйнага года на Палессі выдалася надзвычай марознай і завірушнай, а месяц люты дык і зусім адпавядаў сваёй назве: бясконцыя бураны і завеі, глыбокія сумёты, што ні праехаць, ні прайсці. Але менавіта ў гэты сцюдзёны і халодны час, як згадваюць старажылы, на лясных дарогах, перамеценых снегам, можна было назіраць незвычайны канвой. Фашысцкі картэж з грузавікоў, а то і фурманак рухаўся ад вёскі да вёскі, якія ў лясах і балотах гібелі вакол Ганцавіч, невялікага тады палескага мястэчка. Запалохваючы непакорны тутэйшы народ, акупанты ў спецыяльна скляпанай клетцы, ды яшчэ закаванага ў ланцугі вазілі палонага партызана, ужо замардаванага і знявечанага на допытах у гестапа. Ахова, узброеная да зубоў, пільна глядзела па баках, таму што на мэце ў фашыстаў было адно: патрапіць на след народных мсціўцаў і знішчыць іх. Калі правакацыя не ўдалася, жалезную клетку з яшчэ жывым партызанам павезлі назад у Ганцавічы. Дарэчы, тут і да сённяшняга дня захаваўся змрочны драўляны дом, дзе размяшчалася нямецкае гестапа і дзе цэлымі суткамі чуліся стогны і лілася кроў нявінных ахвяр.

Гэта ніякая не легенда, а жорсткая суровая рэальнасць мінулай вайны. Партызанам, якога нават палоннага баяліся гітлераўцы, аказаўся Велька Мікалай Якімавіч — жыхар вёскі Боркі, старажытнага паселішча, што і напраўду згубілася сярод гонкіх хваёвых лясоў непадалёк ад Ганцавіч. Вядома, што ў часы Вялікага Княства Літоўскага праз вёску пралягаў паштовы тракт з Пінска на Мінск, а жылі тут у беднасці і нястачы працавітыя, свабодалюбівыя палешукі. Прычынай іх галечы была ў асноўным адсутнасць ворнай зямлі. Памяркуйце самі: і справа, і злева вакол Борак раскінулася неабсяжная дрыгва — Качай-балота, Галь, Зеленец. Толькі праз адвечную дрыгву можна было выйсці на Свяціцу, Навасёлкі, Хатынічы, Раздзялавічы і далей аж да Выганаўскага возера. Забягаючы наперад, можна зазначыць, што іменна гэтыя дзікія нетры і непраходныя нерушы ў гады фашысцкай акупацыі далі прытулак і надзейны схоў дзесяткам малых і вялікіх партызанскіх атрадаў.

Радня Мікалая Велькі, зрэшты, як і ўсе яго аднавяскоўцы, не магла пахваліцца лішнім багаццем, бо кармілі палешукоў усё тыя ж грыбныя бары і журавінавыя балоты. Вось чаму ён, незаможны і малазямельны сялянскі сын, шчыра прыняў новую ўладу, якая незадоўга да пачатку вайны прыйшла на змену польскай. Мікалай Велька незаўважна для сябе стаў боркаўскім актывістам і як чалавек пісьменны быў нават выбраны дэпутатам сельскага Савета. Але над палескімі балотамі ўжо грымела ваенная навальніца. У многіх суседніх вёсках фашысты бязлітасна распраўляліся з савецкім актывам — старшынямі калгасаў, дэпутатамі, вясковымі настаўнікамі. На першы раз Мікалаю Вельку ўдалося пазбегнуць арышту, аднак выпрабоўваць далейшы лёс ён ужо не мог. Аднойчы, гукнуўшы сваіх верных паляўнічых сабак — Лялюса і Цыгана, боркаўскі актывіст развітаўся з сям'ёй і са стрэльбай на плячах надоўга знік у глухіх навакольных лясах.

Бывалы паляўнічы каля вёскі Забалоцце на так званым Мядзведжым востраве зрабіў будан, дзе і жыў амаль год у адзіноце. Халоднымі начамі ўцекача сагравалі Лялюс і Цыган, якія спалі побач. Дамоў, у свае Боркі, Мікалай Велька наведваўся рэдка, і толькі тады, калі заканчваліся соль і запалкі. Мсцівец ведаў, што яго не перастае шукаць ганцавіцкае гестапа. Аднаго разу, у мароз і завіруху, ужо ў родных ваколіцах, ён выйшаў проста на фашысцкую засаду, але захопнікаў своечасова пачулі ў цемры верныя паляўнічыя сябры. Мікалай Велька акурат быў на лыжах і таму лёгка па глыбокім снезе ўцёк ад пагоні. Трэба сказаць, лясны самотнік на глухім балоцісто-лясным востраве не толькі ратаваўся сам: як мог, ён помсціў ненавісным ворагам. На шашы Брэст — Івацэвічы партызан-адзіночка неяк падпільнаваў нямецкую легкавую аўтамашыну і знішчыў двух фашыстаў, якія сядзелі ў ёй. Паляўнічая стрэльба больш не спатрэбілася, бо першымі баявымі трафеямі Мікалая Велькі сталі аўтамат, два рэвальверы і дзве ручныя гранаты. Няроўная барацьба з акупантамі працягвалася.

Цяпер добра ўзброены, партызан яшчэ не адзін раз рабіў смелыя вылазкі супраць фашыстаў, пакуль у вёсцы Залужжа, што над Шчарай-ракою, не выйшаў на групу партызан, якой камандавалі лейтэнанты Анішчанка і Гусеў. Разам яны, знішчаючы фашыстаў і паліцаяў, праз лясы і балоты прабіваліся з акружэння і на Выганаўскім возеры ўліліся ў баявы атрад капітана Каплуна. У партызанскіх паходах нязменна ўдзельнічаў і Мікалай Велька, заўсёды паказваючы асабістую храбрасць і выдатнае веданне палескай мясцовасці. На радзіме героя, у вёсцы Боркі, тым часам адбывалася сапраўдная трагедыя. Гестапаўцы выдалі боркаўцам загад: жывым або мёртвым даставіць ім свайго непакорлівага земляка. Нават прызначылі тэрмін: май 1942 года. Здраднікаў, вядома, не знайшлося, і сёмага ліпеня ў Борках з'явіўся карны атрад. Фашысты закатавалі жонку Мікалая Велькі, расстралялі яго дзяцей, знішчылі ўсіх родзічаў. У той жахлівы дзень загінулі 49 жыхароў Борак, што ж да людзей з прозвішчам Велька, то яны былі расстраляны ўсе.

За смерць сваіх родных і блізкіх адважны партызан жорстка помсціў акупантам. Па некаторых звестках, быў забіты і афіцэр-эсэсавец, які камандаваў лютай распраўй у вёсцы Боркі. Мікалай Велька трапіў у лапы гітлераўцаў выпадкова, калі з групай партызан больш як праз паўгода пасля боркаўскай трагедыі кіраваўся на баявое заданне. На развілцы лясных дарог народных мсціўцаў завірушнай ноччу чакала засада. Мікалай Велька першым заўважыў ворагаў, апранутых у маскіровачныя халаты, і паспеў папярэдзіць сваіх таварышаў, але сам не ўратаваўся, аглушаны ўдарам прыклада. Народнага героя ў жалезнай клетцы вазілі, як ужо гаварылася, па навакольных вёсках, потым доўга катавалі і мучалі ў гестапа, патрабуючы звестак пра партызан, і тады ж, у лютым 1943 года расстралялі ў Ганцавічах.

Магілы ў Мікалая Якімавіча няма, бо фашысты, як вядома, не хавалі сваіх ахвяр. Але на шматпакутнай ганцавіцкай зямлі засталася памяць пра мужнага партызана, а на помніку ў вёсцы Боркі выбіта ягонае прозвішча. У свае родныя мясціны герой вярнуўся жывой легендай, якую людзі расказваюць з пакалення ў пакаленне, цяпер ужо сваім унукам і праўнукам. Застаецца дадаць, што да 49 чалавек, расстраляных фашыстамі, на франтах Вялікай Айчыннай вайны загінулі яшчэ 19 жыхароў вёскі Боркі.

Алена ГАРДЗЕЙ

АНОНС

# У МАКСІМАЎ ДЗЕНЬ...

Прыгожа і годна будзе адзначаны дзень нараджэння Максіма Багдановіча ў Беларускім паэтычным тэатры аднаго акцёра "Зьніч". 9 снежня тут адбудзецца музычна-паэтычны монаспектакль "У краіне светлай..." Выканаўца — Вячаслаў Статкевіч, партыя гітары — Сяргей Сарокін. Класіка нашай паэзіі будзе гучаць і ў саюзе з мелодыямі цудоўных песень, створаных на вершы Максіма Багдановіча ў розныя часы. Іх аўтары — Сымон Рак-Міхайлоўскі, Мікола Самохін, Мікола Шчаглоў-Кулікові ч, Уладзімір Мулявін, Ігар Палівода, Ігар Лучанок, Іван Раманчук.

Спектакль адбудзецца ў зале тэатра (касцёл св. Сымона і св. Алены на плошчы Незалежнасці).

Пачатак у 18.30.

С. Б.

АФІША СНЕЖНЯ

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР ОПЕРЫ РБ**
*(пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41)*

6 — Д. Вердзі, "Аіда"
7 (раніца) — А. Будзько, "Пітэр Пэн", мюзікл для дзяцей
11 — Вечар старадаўняга раманса
13 — Д. Пучыні, "Турандот".

З ЧАСУ — У ЧАС



**Варлен БЕЧЫК:**

*"Ты вымушаны пісаць і гаварыць пра творы, якія не маюць права на тваю павагу. Разумееце, без павагі да зместу і формы твора я мушу разглядаць і аналізаваць гэтыя радкі, гэтыя старонкі... Чаму? Толькі таму, што "тэма" і закранутыя "надзённыя пытанні" забяспечылі таму твору пэўнае месца ў бягучым літаратурным працэсе. Аўтар адгукнуўся на запатрабаванне часу, трапіў у пералік імёнаў, без якіх... немагчыма.. менавіта немагчыма... весці размову пра цяперашнюю паэзію або прозу...*

*Натхненне не любіць гасцяваць у сытых. Ці не праўда? І натхненне, здараецца, не дае спакою... І сытаму! Яно — нібы сумленне. Абуджаецца і вымагае, каб паэт рабіў тое, да чаго той мае прызванне. Не вымушае, а патрабуе! Пад прымусам жа працуе версіфікатар, не паэт. Але, праўда ваша, бывае, адмысловы версіфікатар выглядае паэтам. І мы, бывае, яго называем паэтам. Ды толькі гэта... так сабе... звычай... рабочая тэрміналогія. Паэту наканавана прыродай здольнасць здзіўляць і апяваць тое, чым ты засмучаны... Спачуваць і ставіць самога сябе на месца таго, каму ты спачуваеш..."*

**(з эсэ Барыса Бур"яна "Акрыленае слова")**

ВЫСТАВЫ

# СА СКАРБНІЦЫ ЛАТЫШОЎ

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстаўка "Гістарычны партрэт Латвіі XVII—XVIII стст. з калекцыі Музея гісторыі Латвіі". Невялікая экспазіцыя складаецца з жывапісных партрэтаў дваран і курляндскіх герцагаў, выкананых Ф. Х. Барызьенам, Л. Шорэрам, І. Г. Бекерам. Гэта каштоўная частка спадчыны латышоў, якая не толькі характарызуе развіццё мастацтва, але і дае ўяўленне пра гістарычныя падзеі таго часу.

Гістарычныя партрэты ўпершыню пакінулі сцэны музея і, як адзначыў яго дырэктар Арніс Радыньс, выстаўляюцца яны ўпершыню ў такім вялікім музеі, як наш. І самі "гаспадары" бачаць свой скарб у такім зборы ўпершыню.

Наведвальнікі выстаўкі могуць пабачыць цудоўныя жывапісныя партрэты гістарычных асоб Курляндска-Земгальскага герцагства, а таксама партрэты ў гравюрах, якія адлюстроўваюць агульныя мастацкія тэндэнцыі, характэрныя для еўрапейскага мастацтва таго часу. Прадстаўлены таксама манеты і медалі XVII—XVIII стст. з выявамі курляндскіх герцагаў, карты, віды гарадоў — Рыгі і Елгавы. Экспазіцыя працягнецца да пачатку новага года.

Дарэчы, праект гэтыя рыхтаваўся тры гады, пасля сустрэчы дырэктараў двух музеяў — Уладзіміра Пракапцова і Арніса Радыньса ў Рызе, дзе ладзілася наша выстава "Шагал—Пэн". Цяпер жа ідзе праца над экспазіцыямі беларускіх мастакоў у Музеі гісторыі Латвіі. Дарэчы, ён заснаваны ў 1869 годзе, а месцяцца ў Рыжскім замку, пачатак будаўніцтва якога датуецца 1330 г. і часткy якога займае рэзідэнцыя Прэзідэнта Латвіі. Кантакты між нашымі народамі-суседзямі мацуюцца праз культуру.

Г.ФАТЫХАВА



***НА ЗДЫМКУ — І Херман. Партрэт прынцэсы Брандэнбургскай, курляндскай герцагіні Луізы Шарлоты. 1643 г. Па карціне М. ЦВІЧАКА.***

МЕРКАВАННЕ

***У кожнай мове існуюць групы слоў, вялікія ці не вельмі (гледзячы якая мова), ужыванне якіх абмежавана. У большай ступені – сацыяльна. Гэта залежыць ад маральных, этычных, асабістых якасцяў індывіда ды іншых аспектаў. На адным з першых месцаў знаходзіцца выхаванне, а таксама той асяродак, у якім фарміруецца чалавек. Як вы, напэўна, здагадаліся, гаворка ідзе пра так званую "забароненую", ці табуіраваную лексіку.***

# АТЫ-БАТЫ — ВАКОЛ... МАТЫ

Апошнім часам ледзь не кожны тыдзень мы можам чуць па радыё, бачыць па тэлебачанні сюжэты і прачытаць артыкулы ў газетах і часопісах на гэтую тэму. Але, на жаль, нічога наўкола па вялікім рахунку так і не мяняецца да лепшага. Як усё роўна гэта большасці з нас не датычыцца.

Я ўпэўнены, што не знойдзецца нават і адзінага чалавека, які б не чуў ці не выкарыстоўваў ненарматыўных слоў. Гэта адносіцца, зразумела, не да немаўлят. Яшчэ на самым пачатку свайго жыцця дзеці часта чуюць ад сваіх бацькоў, незнаёмых людзей на вуліцы "моцныя" словы, якія, пакуль бессэнсоўна, адкладваюцца ў іх падсвядомасці. А потым, дзесьці гады ў тры, хаця ў кожнага па-рознаму, на жах сваіх родных малыя пачынаюць актыўна выкарыстоўваць забароненую лексіку, ведаючы, што гэта "дрэнныя словы", але ў нечым і магічныя, бо забароны на дзеянне, учынак, вымаўленне – заўсёды прыцягальныя. Як і любое іншае "нельга" для несфармаванай асобы. Мабыць менавіта тады гэта лексіка і замацоўваецца ў памяці. Да месца будзе паставіць наступнае пытанне: што ж рабіць у такім выпадку?.. Адказ да банальнасці просты – выкрасліць нам, дарослым, са штодзённага ўжытку ганебныя словы і выразы. Калі гэта зробім, то і нашым дзецям ( сваім і чужым) не будзе ў каго вучыцца.

Калі ў большасці камунікатыўных сітуацый ужыванне матаў – гэта абраза, то пры некаторых умовах, калі і абмежаваных, адмова да іх ужывання сама па сабе лічыцца абразай. Для прыкладу: служба ў войску, турэмнае зняволенне, дзе мат і "бацанне па фені" – прыкмета іерархічнай лесвіцы. Але мы вядзём гаворку пра штодзённае жыццё ў сям'і, у грамадскім транспарце, на вуліцы і працы, дзе вельмі ж проста можна і неабходна абыходзіцца без збітай і намулелай вушы ненарматыўшчыны. Бо давайце не забываць: наша мова, гаворка заўсёды характарызуе нас, як чалавека, асобу...

Недарэмна ў слоўніку Ожэгава тлумачэнне слова "мат", як "непрыстойная лаянка", знаходзіцца на апошнім, пятым месцы. Раней пачуць лаянку дзе-небудзь было выключнасцю, нават надзвычайнасцю. А зараз? Так бы мовіць, рытарычнае пытанне.

Апошнім часам па тэлебачанні адну за другой паказваюць рэкламы розных гатункаў піва. Маўляў, гэта модна і так лепей "тусавацца". Вось падлеткі і збіраюцца папіць піва, папаліць. А размовы вядуць такія, што міжволі чырванее нават слуп. Але не трэба ўсю моладзь, агулам, вінаваціць у гэтым. Асабліва любяць часта параўноўваць нашчадкаў са старэйшымі пакаленнямі. Гэта звычайна не на карысць першым. Ды і раней, як і ва ўсе часы, заўсёды знаходзіўся той-сёй, хто не хадзіў толькі ў страі, але рабіў і крок-другі на ўзбочыну...

Што ж да розных малюнкаў і надпісаў, то маладое пакаленне і тут пераплюнула і пераадолела ўсе "перашкоды". Калі раней на плоце ці агароджы вока натыкалася ў асноўным на адно кароценькае слова, то зараз разнастайнасць словазлучэнняў і малюнкаў, а таксама іх месцазнаходжанне – проста шакіруе. "Творчасць" падрастаючага пакалення можна сустрэць дзе заўгодна, нават там, дзе, здавалася, на іх бы і не натыкнуцца. Асабліва ў ліфтах шматпавярховых дамоў, хоць пад'езды і зачынены на металічныя дзверы з кодавымі замкамі. Але і тут няўрымслівыя "творцы" ўмудраюцца напісаць цэлыя паэмы. Калі ж ліфт не працуе і трэба падымацца па лесвіцы, то можна прачытаць на сценах амаль усю лексіку, якая не сустракаецца ў звычайным слоўніку. Апошнім часам усё часцей трапляюцца выразы на англійскай мове, і звычайна з памылкамі. Адсюль вынікае, што наша будучая змена не ведае не толькі роднай мовы, але і азоў замежнай.

Для ўсяго гэтага, на мой погляд, існуе некалькі прычын, якія ўплываюць на неакрэплую псіхіку падлеткаў, а таксама некаторых дарослых.

Па-першае, тэлебачанне. У асноўным замежныя фільмы, ды і апошнім часам расійскі кінематограф робіць патугі для стварэння аднастайных серыялаў, якія толькі і можна, што назваць слабенькім перайманнем. Зрэдку сярод стужак трапляецца якасная прадукцыя. Гледзячы на які густ, і амаль з аднолькавым сюжэтам, трылеры, баевікі, дзе чуецца толькі страляніна, выкарыстоўваюцца для забойства ўсе магчымыя і немагчымыя рэчы і сродкі, паўсюдна кроў, выбухі. А галоўныя героі раз-пораз адсылаюць так званыя "факсы". І нават дзеці, размаўляючы з "дрэннымі" хлопцамі, не абмяжоўваюцца ў выразах.

Трэба яшчэ ўзгадаць розныя гульнявыя шоў. На кожным расійскім канале прысутнічаюць тыя ці іншыя глядзельныя забаўкі, а то і па некалькі запар. Тое, што раней звалася тактам, добрымі, спачувальнымі адносінамі паміж людзьмі, зараз знікла невядома куды. Усе згодны і здатны на ўсё, але каб перамагчы. Асабліва на гульні "Грошы не пахнуць" на расійскім муз. канале.

Па-другое, запісы. У Мінску можна набыць аўдыёкасеты з казкамі, пеcнямі, анекдотамі і рознымі байкамі на такой жаргоннай мове, што паслухаўшы іх, кажучы слэнгам, вушы вянуць не толькі ў юнай аўдыторыі, але і людзей, якія бачылі многае ў сваім жыцці. Сюды ж варта дадаць і Інтэрнет, так званую сусветную павуціну, разнастайныя камп'ютэрныя гульні і забавы.

І, нарэшце, важна закрануць літаратуру. Дастатковa прыгадаць "славутыя" творы, такія як "Русские заветные сказки" Афанасьева, вершы І. Баркова. Сярод сучасных, хто не падзяляе мову на "цэнзурную" і "нецэнзурную", можна вызначыць "Шмон" Крывуліна, "В холодном высшем смысле" Яўг. Харытонава, "Голубое сало" Сарокіна, Э. Лімонава, Ю. Аляшкоўскага і іншых.

З'явіліся і слоўнікі непрыстойных слоў. З аднаго боку, простым людзям яны непатрэбны, бо ў большасці такія слоўнікі ўжо існуюць, праўда, у галаве многіх і займаюць часам, да вялікага засмучэння, ледзь не палову ўсяго лексічнага запасу. З другога боку, такія слоўнікі, калі яны двухмоўныя, патрэбны студэнтам перакладчыцкіх факультэтаў. Таксама яны будуць зручнымі для спецыялістаў, што вывучаюць і даследуюць гісторыю мовы і фальклор.

Як вынікае з гісторыі, ніякія забароны вялікіх пазітыўных вынікаў не прыносяць. Вядома, трэба ведаць сваю родную мову з усімі яе лексічнымі пластамі. Але павінна быць павага да іншых, а найперш да самога сябе. Веданне і ўжыванне – розныя рэчы. І гэта залежыць толькі ад нас саміх, што мы і навакольныя людзі будзем чуць адзін ад аднаго, што прыўносіць у нашу агульную скарбонку культуры.

**Віктар КАВАЛЁЎ**



ПОШТА

# МОВА РОДНАЯ МАЯ

"Сваю" хімію і біялогію я заўсёды выкладаў на роднай беларускай мове. За 42-гадовую кар'еру педагога давялося паралельна весці ўрокі фізікі, геаграфіі, астраноміі, малявання, працы, гісторыі, матэматыкі — і толькі на беларускай мове. Нават урокі нямецкай мовы , якую вёў у 5 класе, імкнуўся "беларусаваць".

Працуючы 29 гадоў дырэктарам, у кожнага маладога настаўніка заўсёды цікавіўся, на якой мове педагог збіраецца выкладаць свой прадмет. Настойліва і пераканаўча прапаноўваў гаварыць з дзецьмі па-беларуску. Бо інакш атрымліваўся парадокс — прадметнік гаворыць па-руску, падручнік — беларускі, вучань жа адказвае на трасянцы.

У 1954 годзе, калі атрымаўшы атэстат я працаваў рахункаводам паляводчай брыгады калгаса "Савецкая Беларусь", у Пагосцкую сярэднюю школу прыехала выкладаць нямецкую мову Любоў Блумберг. Так сталася, што кватаравала яна ў нашай хаце. Вучэбная нагрузка ў школе па спецпрадмеце была няпоўнай і Блумберг даручылі весці яшчэ і геаграфію. Настаўніца так старалася, што да канца першай чвэрці ўжо няблага размаўляла па-беларуску. Кансультантам па "беларусізацыі" выступаў я.

Не толькі ў школьным жыцці карыстаўся я роднай мовай. На розных педагагічных, грамадскіх дэпутацкіх, камсамольскіх, партыйных, гаспадарчых нарадах выказваў свае думкі і меркаванні пабеларуску. Вёў на ёй сесіі Азяранскага сельсавета, дэпутатам якога выбіраўся амаль 40 гадоў. Ужываў сваю родную мілую мову, калі даводзілася мець слова на ўрачыстасцях альбо на хаўтурах.

На Усесаюзнай нарадзе лектараў і на рэспубліканскіх педагагічных чытаннях я адзіны сярод многіх удзельнікаў выступаў на роднай мове.

Амаль усе гады педагагічнага жыцця прымаў актыўны ўдзел у настаўніцкай і клубнай самадзейнасці, дзе чытаў творы беларускіх аўтараў, вёў канцэрты на беларускай мове. Гэта вельмі падабалася сялянам.

За 29 гадоў кіраўніцтва школаю тройчы пабываў на рэспубліканскіх курсах дырэктароў сярэдніх школ. Першы раз — здаваў экзаменацыйныя залікі па-беларуску, а выкладчыца размаўляла са мной па-руску. Другі раз — кіраваў секцыяй дырэктараў, вуснае і пісьмовае справаводства вёў на роднай мове. На трэці раз — давялося быць старастам патока. 165 чалавек былі пад маім кіраўніцтвам. Нездарма дырэктар Ведрыцкай СШ паэт Уладзімір Верамейчык у адным са сваіх артыкулаў назваў мяне "генеральным" дырэктарам. Мне даводзілася часта выступаць перад калегамі ў Літве. І там гучала толькі беларуская мова, што надта падабалася, шчыра кажу, літоўцам.

Нават, калі здаваў уступныя экзамены ў інстытут (у 1954 годзе, не прайшоў па конкурсе — 13 чалавек было на месцы, другі раз — у 1955 годзе) абодва разы па хіміі (5), фізіцы (4) гаварыў па-беларуску, чым выклікаў немалое здзіўленне ў абітурыентаў і выкладчыкаў. Гэта не азначае, што непрыхільна ставіўся да вялікай рускай мовы. Зусім не. Па сачыненні і першы, і другі раз меў цвёрдыя "чацвёркі" (адну памылку зрабіў), па рускай мове і літаратуры з практычнай работай (вусна) атрымаў "пяцёркі".

Падчас завочнай вучобы ў Гомельскім дзяржаўным педагагічным інстытуце здаваў экзамены і залікі амаль па ўсіх вучэбных дысцыплінах па-беларуску. Кантрольныя імкнуўся выконваць таксама нават па палеанталогіі, навуцы аб рэштках выкапнёвых жывёл і раслін. У рэцэнзіі было зазначана: "Напісана на сакавітай беларускай мове. Выкладчык Гаўрыла Лашкевіч".

Неяк мне даручылі прывітаць на жнівеньскай педагагічнай нарадзе настаўнікаў, якія першы раз самастойна пойдуць у клас. Тут жа перадалі тэкст звароту да маладых настаўнікаў на рускай мове. Зрабіў невялічкую паўзу, прабег вачыма па друкаваным тэксце і прачытаў яго па-беларуску. Казалі — ніводнай моўнай памылкі. Гэтым зрабіў шчырыя, дружныя воплескі. "Малайчына!" — выказаў сваё ўражанне мой сябра, старэйшы педагог раёна, выкладчык роднай мовы і літаратуры Мапамалешаўскай васьмігодкі Мікалай Паўлавіч Клімовіч. Ён, дарэчы болей за 50 гадоў свайго жыцця аддаў навучанню і выхаванню сельскай дзятвы.

Навошта, пацікавіцеся, гэты ліст напісаны, калі ў нас правы грамадзянства маюць у аднолькавай ступені беларуская і руская мовы? Дык ведайце мову вялікага рускага народа, але дасканала ведайце і любіце, паўсядзённа карыстайцеся роднай беларускай мовай! Неяк няёмка чуць, калі некаторыя бацькі (не-не ды і настаўнікі) неразумна працівяцца гэтаму. Жывеш у Беларусі — абавязкова карыстайся мовай сваіх шаноўных продкаў.

Мае ранейшыя вучні здавалі "маю" хімію на ўступных экзаменах у розныя навучальныя вышэйшыя ўстановы заўсёды на беларускай мове — атрымлівалі "выдатна" і "добра", рабіліся студэнтамі, потым спецыялістамі і ніколі ўжо не цураліся роднага слова.

**Васіль МАРКЕВІЧ,**
**заслужаны настаўнік РБ,**
**вёска Пагост Жыткавіцкага раёна.**



Анатоль СЫС

### ПЧАЛІНАЯ МАТКА

*Начаваў я ў вуллі*
*пад крылом*
*у пчалінае маткі*
*пчолы казкі гулі*
*трутні ноч*
*казыталі мне пяткі*

*а пад раніцу твар*
*спаласнуўшы пчаліным гавенцам*
*дзе мядовы аўтар*
*перад маткаю стаў на каленцы*

*каб дазволіла мне*
*пад крылом да вясны зімаваці*

*Маці ўмёрла ў мяне*
*Хоць на зімку пабудзь маёй маці*

13 лістапада, 2003
в. Гарошкаў

---

## НАЗВЫ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**У выдадзенай выдавецтвам "Тэхналогія" кнізе "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Мінская вобласць. Нарматыўны даведнік" сабраны, лінгвістычна апрацаваны, расклясіфікаваны існыя на 31 снежня 2002 г. усе 5276 найменняў паселішчаў (айконімаў) Мінскай вобласці, тэрыторыя якой складае 40,2 тысячы квадратных кіламетраў, што, напрыклад, амаль удвая большая, чым плошча такой краіны, як Славенія.**

**Інфармацыя пра назвы населеных пунктаў падаецца ў зручным для чытача выглядзе, — аформлена з дапамогай табліцы, дзе ёсць дадзеныя пра тып кожнага паселішча, яго назва на беларускай і рускай мовах, граматычныя паказчыкі (род, лік, парадыгма скланення), прыводзіцца транслітарацыя на лацінцы.**

**Спісу паселішчаў папярэднічае яшчэ адна вялікая табліца з назвамі раёнаў і раённых цэнтраў Мінскай вобласці, найменнямі бліжэйшых да гэтых цэнтраў чыгуначных станцый і ўказаннем адлегласці да яе ў кіламетрах, з пазначэннем тэрыторыі кожнага раёна (іх у вобласці 22) у тысячах км$^2$, колькасці ў гэтых раёнах гарадоў, пасёлкаў гарадского тыпу, пасялковых і сельскіх саветаў.**

**Назвы паселішчаў падаюцца ў алфавітным спісе па кожным раёне асобна; найменні раёнаў таксама прыводзяцца па алфавіце з выдзяленнем унутры кожнага з іх назваў сельскіх саветаў.**

**Слоўнік мае нарматыўны статус, бо ўзгоднены і з раённымі выканаўчымі камітэтамі Мінскай вобласці і з Тапанімічнай камісіяй пры Савеце Міністраў РБ.**

**Усе прыведзеныя назвы паселішчаў на беларускай мове пазначаны націскам, суправаджаюцца сваімі варыянтамі, зразумела, пры іх наяўнасці (параўн.: Любань, Любонь, Любонне, Любанія і да т.п.), пры гэтым, аднак, нарматыўнай прызнаецца адна з формаў, якая адлюстроўвае найбольш паказальна нацыянальную адметнасць свайго вымаўлення, а ў выпадках яго неадназначнасці перавага аддаецца форме, упершыню засведчанай у пісьмовых гістарычных помніках беларускай мовы.**

**Вартасць даведніка палягае і ў тым, што тут прыводзяцца страчаныя па розных прычынах назвы населеных пунктаў (спаленыя фашыстамі вёскі, ліквідаваныя так званыя "неперспектыўныя" населеныя пункты, перайменаваныя паселішчы і г.д.).**

**Аўтары кнігі звяртаюць увагу на даволі вялікую колькасць айконімаў, знявечаных руска-і польскамоўным уплывамі, бо падобныя назвы паселішчаў не ўпісваюцца ў беларускамоўны ландшафт нашай краіны, уяўляюцца чужароднымі ўкрапінамі (параўн.: Акцябр, Лучазарная, Дзвігацель, Красны Пахар, Залог Пяцілеткі і інш. – з рускай мовы; Бжэгі, Ацечызна, Дамброва, Забрэззе і інш. – з польскай мовы). Тым не менш большасць назваў населеных пунктаў з'яўляюцца і мілагучнымі, і матываванымі, і ўласнабеларускімі (параўн.: Арэшкавічы, Улессе, Ніўкі, Садоўшчына, Заазер'е, Дубнікі, Крывічы, Ласі, Лазовы Куст і г.д.).**

**Даведнік (аўтары В. Лемцюгова, І. Гапоненка, І. Капылоў і інш.) выразна сведчыць пра арыгінальны моўны краявід Бацькаўшчыны, які захоўвае ў сабе нашу этнаграфічную, культурную, гістарычную, нацыянальную спадчыну.**

**Б. ПЛОТНІКАЎ**

---

ДВА ПОГЛЯДЫ

***Канец XIX – пачатак XX ст. з'яўляецца пераломным перыядам у гістарычным і культурным развіцці беларускай супольнасці. Думаецца, трапна ахарактарызаваў сітуацыю, што склалася ў Беларусі на ТОЙ час, айчынны філосаф І.Канчэўскі: "Нашы часы – часы агульнай заблуджанасці, часы паўстання праменных быццам ідэалаў і іх канечнага знікання праз нядоўгі час... Тое, што раней здавалася чыстым і светлым, штодзённа аплятаецца жыццёвым брудам і пылам. Так знікаюць праменныя ідэалы, пакідаючы роспач і безнадзейнасць. У такія часы адзінокая чалавечая душа шукае, пераглядаючы ўсё тое, што здавалася каштоўным, святым і жаданым..."***

***Неабходна адзначыць, што праблемы, якія паўсталі ў адзначаны перыяд не толькі перад грамадствам, але і перад кожнай яго адзінкай, хвалявалі ў старажытнасці філосафа Эклезіяста, які свае разважанні выклаў на старонках біблейскай Кнігі Эклезіяст. У літаратуры да спадчыны старажытнаіудзейскага філосафа ў XIX ст. звярнуліся вялікія рамантыкі А.Міцкевіч, Ю.Славацкі. Пазней, на пачатку XX ст., экзістэнцыяльныя пошукі сэнсу быцця прадвызначылі паэтычную тэматыку аўтараў, што належалі да неарамантычнай плыні і, у прыватнасці, Я.Купалы.***

пачатку з агульнанародным. Таму не дзіўна, што душэўныя пакуты ў яго выкліканы не толькі незадаволенасцю ўласным лёсам, але і лёсам беларусаў. Закінутасць, абяздоленасць цэлага народа прыводзяць героя верша "Думы маркотныя..." да стану песімізму, калі

*У сэрцы ныецца,*
*Смех стогнам крыецца,*
*І плачуць жаласна вочы...*

Менавіта адчуванне болю свайго народа прадвызначае мастакоўскае крэда Я.Купалы, які бачыць прызначэнне паэта і паэзіі ў тым, каб праўдзіва паказваць нядолю і гора простага чалавека, выліваючы праз слова ўвесь жаль яго душы. У вершы "Не кляніце мяне" аўтар адкрыта заяўляе:

*Не магу маску ўздзець,*
*Крывіць роднай душой,*
*Песні весела пець,*
*Калі смуцен брат мой.*

Апошнія радкі твора яскрава сведчаць аб тым, што паэт пакуль не можа выйсці

# МАТЫВЫ КНІГІ ЭКЛЕЗІЯСТ У ПАЭЗІІ ЯНКІ КУПАЛЫ

Думаецца, зварот паэта да Кнігі Эклезіяст абумоўлены некалькімі важнымі прычынамі. Па-першае, даволі істотнае значэнне мае асобасны свет мастака. Як адзначаў у аўтабіяграфіі Я.Купала, паводле характару ён быў індывідуалістам, што ўжо само па сабе з'яўляецца яскравым паказчыкам схільнасці да рэфлексіі, звароту ва ўнутраны свет, даследавання ўласных перажыванняў. Апроч таго, неабходна ўлічваць той факт, што сямейныя няшчасці (смерць родных людзей), адарванасць на даволі працяглы час ад блізкага асяроддзя (праца на броварах, вучоба ў Пецярбургу, праца ў Вільні) значна паўплывалі на фарміраванне характару паэта, яго светапогляду. Аднак, думаецца, нельга абмяжоўвацца толькі біяграфіяй творцы. Як таленавіты прадстаўнік неарамантызму ў беларускай літаратуры пачатку стагоддзя, Я.Купала абвострана адчуваў агульныя тэндэнцыі свайго часу, што ўвасобілася ў паэтычнай спадчыне Песняра. Паводле слоў рускай даследчыцы А.Капцелавай, "неарамантыкі былі "чувствилищем" эпохі, валодалі вялікай адчувальнасцю да яе падземных штуршкоў і прыхаваных заканамернасцяў..." І сапраўды, назіраючы за тым, што адбываецца навокал, аналізуючы ўласныя пачуцці, паэт ужо ў ранніх творах прыходзіць да думкі Эклезіяста, які сцвярджаў: "Марнасць марнасцяў, сказаў Казаннік, марнасць марнасцяў, усё марнасць" (Экл 1:2). Так у вершы "Мая доля" лірычны герой адчувае наканаванасць жыцця, немагчымасць чалавека змяніць свой лёс:

*Куды толькі ні парвуся,*
*Каб хоць троха лепей жыць,*
*Дык калі не аглянуся,*
*Мая доля тут бяжыць.*

Згодна з філасофскай канцэпцыяй М.Гайдэгера быццё чалавека ў свеце ўяўляе сабой "закінутасць", прычым у пэўным канкрэтным месцы "вось тут", і якое асоба не можа выбіраць самастойна. Нібы па нечай злой волі чалавек з'яўляецца ў нейкай кропцы на мапе свету і самастойна павінен вызначыцца ў сваёй "закінутасці", што прыводзіць яго да душэўных пакутаў. Нешта падобнае перажывае і лірычны герой:

*І ўсё мне скруціць, змуціць,*
*Як хто дзе калом ваду.*
*І душу маю засмуціць,*
*І нашле злую бяду...*

Звяртае на сябе ўвагу тое, што ў творчасці Я.Купалы ад самага пачатку выявілася моцная знітаванасць асабістага за межы рэфлексіі, у аснове якой няшчасны лёс беларусаў, і гэта выклікае зусім нярадасныя пачуцці:

*Дый не смейся з мяне,*
*Што так смутна пяю,*
*Бо і так там на дне*
*Душу змучыў сваю...*

Аднак, пачуццё смутку абумоўлена не толькі простай канстатацыяй таго, як горка і пакутна жывецца народу, але і абыякавасцю людзей, няздольнасцю іх зразумець высокія парыванні Духу творцы. Гэта, у сваю чаргу, вядзе да абвастрэння праблемы экзістэнцыі: альбо зліцца з агульнай масай, пазбавіцца ў нейкай ступені індывідуальнасці, альбо працягваць барацьбу з несправядлівасцю, якая апанавала свет.

І ўсё ж у працэсе разважанняў герой твора "Замаўчыце думы..." прыходзіць да высновы, што нельга паддавацца ўплыву гаротных думак, следаваць за імі:

*Ой, хоць так балесне,*
*Гаротнік, крапіся,*
*К канцу з думкай-песняй,*
*Як птушка не рвіся...*

Нельга не заўважыць, што абранне падобнага шляху вядзе да адзіноты, якая часцей за ўсё суправаджае абраннікаў лёсу. Матыў адзіноты неадноўчы сустра-

# ЯНКА КУПАЛА



У купалазнаўстве з канца 80-х гадоў мінулага стагоддзя адбыўся прыкметны зрух у поглядзе на народнага песняра Беларусі Янку Купалу. Былі пераасэнсаваныя некаторыя яго творы. Больш стала шанавацца нацыяналістычная скіраванасць яго паэзіі, драматургіі дый публіцыстыкі. Шмат для каго ён стаў уяўляцца менавіта паэтам нацыянал-патрыятычнага кірунку. Нават адзін зборнік яго твораў названы "Жыве Беларусь!" Вядома, аспрэчваць такое значэнне класіка няма сэнсу: яно відавочнае. Але ёсць і іншыя моманты, не менш важныя ў купалаўскай спадчыне. Іх таксама вывучаюць купалазнаўцы. Вельмі актуальным стала такое выданне: Санюк Д. "Эстэтыка творчасці Янкі Купалы." Мн.,2000. Якое выйшла ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор".

Аўтар кнігі кідае выклік сваім апанентам і адмаўляе "нацыянальна-адраджэнскую дактрыну", што "прапаноўвала свой погляд на паэта, які рабіў яго толькі выключна нацыянальным паэтам". Вынікам, як заўважае Д. Санюк, стала замена адной ідэалогіі іншай, "сацыялістычны ідэал перамяжоўваўся з адраджэнскім". Гэтак сказана ва ўступе. Сапраўды, досыць смелыя, нечаканыя выказванні могуць шмат каго шакіраваць, у тым ліку і тых, што звыкліся да таго, пра што ім гаварылі ў школе, што здавалася непахісным вучэннем пра Янку Купалу. Ці кожны пагодзіцца, напрыклад, з такой думкай даследчыка: "Імкненне літаратуразнаўцаў, крэда якіх сістэматыка і эвалюцыя, зрабіць з Купалы ідала правільнага і ўнармаванага будзе заўсёды нагадваць спробу мерцвякоў, якія хочуць прывесці гвалтоўна ў стан мярцвячага ўсё жывое. Аўтар называе падобнае "труплянай логікай". Заінтрыгаваны чытач адразу задае пытанне: а што прапануе сам аўтар?

Д. Санюк у сваёй працы спрабуе даць навуковую карціну эстэтычнага свету Янкі Купалы, пра якога нават сцвярджае, што ён — "самы эстэтычны паэт у беларускай літаратуры. І гэта як ні парадаксальна гучыць насуперак таму, што першым эстэтам у нас лічыўся і лічыцца М. Багдановіч".

Што да аблічча купалавай эстэтыкі, дык яе навуковец бачыць як вельмі супярэчлівую паводле ўнутранай напоўненасці. Гэтак, напрыклад, рэлігійнасць у творчасці паэта разглядаецца ў розных "сістэмах каардынат" — у рамках павышанага індывідуалізму і эгацэнтрызму з вялікім месіянскім адценнем, у межах першабытнай паганскай (язычніцкай) рэлігійнасці, у кантэксце хрысціянства. Гэта залежыць ад лакалізацыі купалаўскага "я". Такая думка даследчыка мае падставу. Сапраўды мы ведаем падобны эстэтычны змест, такую разнастайнасць паэзіі Янкі Купалы.

Паводле думкі навукоўца, "існуе мноства розных Купалаў, у паэце існуе дваццаць паэтаў..." Вызначаецца Уласна Купала, Антыкупала і Некупала. Першы — паэт адраджэнскага кшталту; другі — індывідуаліст-эгацэнтрык; трэці — паэт савецкае эпохі. Апошняя іпастась, дакладная. Яе эстэтыка, не аналізуецца ў манаграфіі, бо гэта ж сапраўды зусім не той паэт.

У процівагу нацыянальна-адраджэнскай дактрыне Д. Санюк падае ў манаграфіі ўласную канцэпцыю пра касмічнасць, або касмацэнтрызм паэзіі Янкі Купалы. Гэта вынікае, напрыклад, з такой думкі: "Касмічнае мысленне Купалы ахоплівае ўсю драму Існага цалкам. Трагедыя чалавечага духу ёсць скарочаны варыянт трагедыі Сусвету, а сама, апошняя, уяўляе сабой распаўсюджанае падабенства першай."

Вядома ж, як адзначана вышэй, немагчыма адмаўляць уяўлення пра паэта як нацыяналістычнага. Д. Санюк разглядвае і такі момант у Янкі Купалы, але менавіта як момант, не лічачы гэта выключным у паэта. Хаця й заяўляе пра нацыянальнае: "Гэта самая магутная плынь купалаўскага панідэалагізму, калі нацыянальныя ідэалагемы ў перыяд катастрофы нацыі на пачатку свайго існавання<...>набываюць нібы абсалютны характар, падпарадкоўваючы сабе рэлігійнае і эстэтычнае".

Асобна спыняецца даследчык на параўнанні Янкі Купалы з Адамам Міцкевічам. Тут, відавочна, праз кампаратыўны аналіз даводзіцца, што наколькі А. Міцкевіч з'яўляецца нацыянальным місіянерам для палякаў, настолькі Янка Купала ёсць такім для беларусаў. Таксама параўноўваецца і "спецыфіка рэлігійнага" ў абодвух класікаў.

Такім чынам, даследчык далучаецца да тых, хто, не зважаючы на беларускую тэматыку паэзіі А. Міцкевіча, усё ж лічаць яго польскім пракорам. Калі б апошняга можна было разглядаць як адпаведна беларускага песняра-прарока, дык роля Янкі Купалы выглядала б нібы прыніжанай. Як

каецца ў ранняй паэзіі Я.Купалы. Да прыкладу ў вершах "Адзін", "З песень жыцця" паэт стварае вобраз героя, які паўсюль адчувае сваю адзіноту, нават знаходзячыся сярод людзей.

Яшчэ болей павялічвае смутак разуменне адсутнасці выйсця, немагчымасці разарваць ланцуг, які скоўвае чалавека, прызначаючы яму толькі адну дарогу:

*Дзе я не кінуся, з песняй ні вылету, —*
*Выхаду, сцежкі няма...*

Відавочна, як асоба не імкнецца змяніць сваё становішча, ёй гэта не ўдаецца, хаця яна і разумее, што нельга аддавацца сляпой волі лёсу. Аднак даводзіцца зноў і зноў упэўнівацца ў словах Эклезіяста, бо "што было, тое й будзе; і што дзеелася, тое й будзе дзеецца; і няма нічога новага пад сонцам..." (Экл 1:9). Таму Я.Купала ад імя героя верша "Рвуцца сілы..." не раіць "маладым сілам" праяўляць залішні імпэт у справе абнаўлення жыцця, бо часцей за ўсё пад уздзеяннем інертнасці масы, пад ціскам жыццёвых нягодаў губяцца сілы і воля да барацьбы:

*І так зробішся, як кожны,—*
*Будзеш спаці ў ковах,*
*Будзеш дужы і адважны,*
*Дый толькі на словах!..*

Спазнанне законаў, паводле якіх развіваецца жыццё пад сонцам, прыводзіць да расчаравання, цяжкіх хвілін адчаю, бо "ў шмат мудрасці, шмат і гневу, і хто павялічвае веды, павелічае боль..." (Экл 1:18). Вельмі эмацыянальна, пачуццёва перадае такі стан чалавека, які прыадчыніў таямніцу быцця, у творы "Бываюць хвілі..." Я.Купала:

*Пракляў бы свет, і быт, і долю,*
*Усё б на лес сухі паслаў*
*І даў бы думам спаць уволю*
*І сам бы спаў, навекі спаў.*

Смутак тым больш узмацняецца, калі чалавек разумее ўсю трагічнасць свайго жыцця, якое, праходзячы пэўныя ступені развіцця ў рэшце рэшт вядзе да смерці, пацвярджэннем чаму могуць быць словы Эклезіяста "ўсё йдзець у адно месца: усё паўстала з пылу, і ўсё абернецца ў пыл" (Экл 3:20). Падобная думка прасочваецца ў вершах беларускага паэта "Кругаварот", а таксама "За годам год". У апошнім аўтар сведчыць, што паводле ўстаноўленага закону адбываюцца змены ў прыродзе, у жыцці чалавека, якое мае як свой пачатак, так і заканчэнне:

*За годам год, за родам род,*
*Што хвалі хмар, што плесні вод,*
*Па зменах змен, на ўсход, на сход,*
*Ідзе-брыдзе на быт, на звод...*

Разуменне канчатковасці лёсу адзінкі, марнасці намаганняў, якія прыкладаюцца з мэтай змены невыносных умоў быцця, але не прыводзяць да жаданага выніку, скіроўваюць паэта да думкі, што толькі смерць можа прынесці збаўленне ад зямных пакутаў, прыкладам чаго з'яўляюцца радкі верша "На могілках":



*О, смерць!*
*Хто дзе цябе асіліў?*
*Не йшоў, не злег пад курганом?*
*Ідуць усе, і я за ўсімі*
*Сыду з нудой,*
*бядой сваёй.*
*Так цяжка жыць паміж жывымі!*
*У магіле будзе мо лягчэй ...*

На падставе ўсяго вышэй адзначанага, натуральна, узнікае пытанне, як чалавеку распараджацца сваім лёсам, на што скіраваць нерастрачаны духоўны патэнцыял, не зважаючы на тое, што гэта можа і не прывесці да пэўнага выніку. Адказ на гэта пытанне шукаў Я.Купала. Як трапна заўважае даследчык Ул.Гніламёдаў, "філасафічнасць пошукаў паэта абумоўлена імкненнем зазірнуць у таямніцу часу, зразумець рух гістарычнага працэсу. У некаторых вершах ён наследуе біблейскаму Эклезіясту, які канстатаваў бяссілле чалавека перад тварам Часу..." Біблейскі філосаф, як вядома, прапаноўваў выкарыстоўваць усе магчымасці дзеля задавальнення простых жыццёвых патрэб чалавека, заклікаў жыць у весялосці. Замірэнне з конам можна заўважыць і ў творы беларускага паэта "Увесь да дна..."

*Увесь да дна*
*выпівай чорны келіх жыцця,*
*Ці з вадой жыватворнай, ці з ядам;*
*З роўнай меркай*
*чакай вечнаты й небыцця,*
*Заадно абымайся з анёлам і гадам...*

Такім чынам, біблейскія матывы Кнігі Эклезіяст, якія раскрываюць роздум чалавека над сэнсам жыцця, знайшлі сваё ўвасабленне ў творчасці Я.Купалы. Варта адзначыць, што яны былі запатрабаваны самім часам, які адзначаны ў гісторыі многіх народаў, і беларускага ў прыватнасці, як пераломная эпоха, у якую давялося жыць і тварыць Я.Купалу. Ён не толькі назіраў, але і асабіста перажываў тыя змены, якім падвяргаўся ўнутраны свет беларуса.

**Алена ВАЛЬЧУК**

---

бачна, выбраная тут пазіцыя даволі зручная і выгадная для даследавання.

Цікава, што Янка Купала, на думку даследчыка, — "скептык вышэйшага гатунку, які сумняваецца сам у сабе"

Сапраўды, даволі слушна даецца тут цытата з М. Гарэцкага, які заклікаў і Янку Купалу, і Якуба Коласа стаць сапраўднымі прарокамі свайго народа, смялей гаварыць "сваё новае слова".

Магчыма, калі б паэт быў такім, якім хацеў яго бачыць наш вялікі празаік, філосаф М. Гарэцкі, дык мы не гаварылі б пра такую эстэтычную прывабнасць, разнастайнасць Янкі Купалы. Паэт ёсць паэт. М Гарэцкі не быў паэтам, а Янка Купала не стварыў нічога падобнага да філасофскай прозы М. Гарэцкага.

Даследчык заўважае знішчэнне "волі", паслабленне энергетыкі паэта праз разmaітасць і дэцэнтралізацыю яго тэксту. Хаця ў эстэтычным перажыванні Янка Купала — "фігура № 1". "У плане ж сілавой энергетыкі мастацкай прасторы, калі існуе вялікая сіла "волі тэксту", фігура самога М. Гарэцкага непераўзыдзеная. Яго значэнне тут першаступеннае, і ў "Скарбах жыцця" пісьменнік гэта квінтэсцэнтна выразіў. Тут ён флагман".

У дэцэнтралізацыі ўсяго тэксту, калі знікаюць суб'ект і аўтар як "адзінае сэнсавае цэлае", Д. Санюк заўважае "смерць аўтара"; тэрмін характэрны для постмадэрнісцкай філасофіі. Гэта прыклад наватарскага падыходу да праблемы. Янка Купала — рамантык. Але, як заўважыў Д. Санюк, ён — адзін з тых, каго нельга разглядваць з дапамогай тэрмінаў "класіцызм", "рамантызм", "гуманізм", "расізм". Маецца на ўвазе інтэлектуальны штамп. Сапраўды, на прыкладзе таго, што сам даследчык адзначае ў паэзіі Янкі Купалы "хаос", "смерць аўтара"... бачна, што паэта насуперак старым вызначэнням можна асэнсоўваць і праз прызму постмадэрнізму.

Янка Купала ў манаграфіі вызначаецца і ў вобразе "дэміурга ідэі Беларусі ў яе найвышэйшых праявах", і як "яўны фатальны анархіст" і г. д.

Галоўная "самая магутная дамінанта купалаўскай творчасці, што вызначае ход яго мастацкай думкі і рухае ўсю вобразнасць" — трагіка. Менавіта таму даследчык выяўляе ў паэта дыянісічна-трагічны геній.

Такі чынам, праца Д. Санюка вызначаецца навуковай навізной у купалазнаўстве.

Кніга, акрамя тэксту, уключае схемы, якія аўтар падае дзеля найбольшай яснасці, нагляднасці.

Уласны погляд Д. Санюка на праблему можна лічыць суб'ектыўным... Гэтак, В. Салееў — рэдактар кнігі — ва ўступным слове, крытыкуючы пазіцыю аўтара, заяўляе, што "месцамі ствараецца ілюзія, што гэтая манаграфія — вялікая ерась у купалазнаўстве, калі апантана аспрэчваецца нацыянальна-ідэалагічная іпастась класіка № 1 беларускай літаратуры".

Але ці варта ў гэтым выпадку ацэньваць манаграфію адназначна адмоўна? Тут падкрэсліваецца, што ўпершыню падаецца метафарычнае аблічча Янкі Купалы. Гэта заслуга самога аўтара, а што да вышэйцытаванай заўвагі, дык намі ўжо зазначалася: у манаграфіі паэт названы "дэміургам ідэі Беларусі". Аўтару закідаюць, што ён гіпертрафуе шмат якія бакі купалаўскай творчасці, але ён не робіць асновай тое, што рабілася ў купалазнаўстве раней.

Чытаючы працу, ствараецца думка пра магчымасць кампрамісу паміж навукоўцамі. Аўтар не аспрэчвае поўнасцю нацыяналістычнага значэння творчасці класіка, разам з тым, шырэй глядзіць на эстэтыку Янкі Купалы. Дык хіба нацыянал-патрыятычны змест замінае шукаць у паэта новае?

**Генадзь КАЖАМЯКІН**

---

## СТАСУНКІ

# БЕЛАРУСЫ ПА-БАЛГАРСКУ

***Не так даўно, у 2000 годзе, мне давялося трымаць у руках цудоўную грунтоўную анталогію беларускай паэзіі, у якую ўвайшлі творы 59 самых розных беларускіх паэтаў — ад сусветна вядомых класікаў да зусім маладых аўтараў. Кніга гэтая выдадзена ў Сафіі на дзвюх мовах — беларускай і балгарскай, у перакладзе лепшых балгарскіх паэтаў. Анталогія ўбачыла свет дзякуючы Пасольству Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Балгарыя на чале з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом спадаром Аляксандрам Герасіменкам.***

Але прыемныя сюрпрызы ад нашага дыпламатычнага корпуса ў Балгарыі на гэтым не скончыліся. У лютым 2002 года пераемнік Аляксандра Герасіменкі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Балгарыя спадар Аляксандр Пятроў паведамляе аб выданні нашым Пасольствам пры ўдзеле спонсараў кнігі Сяргея Законнікава "Шлях душы" на балгарскай мове. У тым жа годзе да 900-годдзя Еўфрасінні Полацкай адбываецца прэзентацыя кнігі Вольгі Іпатавай "Пятнаццаць вершаў і адна аповесць" у перакладзе на балгарскую Найдана Вылчава.

Але і гэта яшчэ не ўсё! За названымі кнігамі ў лістападзе 2002 года выходзіць па-балгарску лірычны зборнік трох легендарных беларускіх класікаў "Магутны трыпціх", а ў 2003 годзе — зборнік балгарскай паэзіі, прысвечаны Беларусі.

У згаданую кнігу "Могъщият триптих" ("Магутны трыпціх") сабраныя вершы трох беларускіх класікаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча ў перакладзе вядомых балгарскіх паэтаў і перакладчыкаў Андрэя Германава, Івана Давідкава, Найдана Вылчава, Зоі Васілевай, Хрыста Папова, Янкі Дзімава і Пырвана Стаянава.

Разам з перакладамі, вядомымі балгарскаму чытачу дзякуючы ранейшаму зборніку выбраных твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа, што быў выдадзены ў 1982 годзе ў Сафіі ў серыі "Бібліятэка сусветнай класікі", у новы зборнік увайшлі пераклады дагэтуль невядомай лірыкі гэтых двух паэтаў і Максіма Багдановіча ў выкананні Андрэя Германава, Івана Давідкава, Найдана Вылчава, якіх смела можна назваць класікамі балгарскай літаратуры. Да іх далучылася вельмі таленавітая паэтка Зоя Васілева, якая працяглы час гасціла ў Беларусі дзеля вывучэння беларускай мовы, знаёмства з беларускай паэзіяй і захавала гарачую любоў да нашага краю і шчырае захапленне нашай мовaю. Вершы ў яе перакладзе пры дакладнасці перадачы зместу набываюць адчувальную эмацыянальнасць і усхваляванасць, асабліва чароўная лірыка Максіма Багдановіча.

Укладальнік новага паэтычнага зборніка — вялікі сябра беларускай паэзіі, непараўнаны маэстра перакладу і проста вельмі шчыры чалавек Найдан Вылчаў. Дзякуючы яму балгарскі чытач атрымаў магчымасць не толькі перачытаць вядомую ўжо паэму Янкі Купалы "Курган", але і пазнаёміцца з яго "Бандароўнай", найлепшымі ўрыўкамі з коласаўскага "Сымона-музыкі". На жаль, аб'ём любога калектыўнага зборніка абмежаваны, і ў новую кнігу не ўвайшла купалаўская "Паўлінка", што калісьці ўбачыла свет у перакладзе Сімяона Уладзімірава.

Асабліва прыемна, што некаторыя творы беларускіх класікаў прыцягваюць увагу розных перакладчыкаў, як, напрыклад, сталася з вершам Максіма Багдановіча "Па-над белым пухам вішняў", што быў вядомы ў перакладзе Хрыста Папова (Анталогія беларускай паэзіі. Сафія, 2000, і атрымаў новае жыццё дзякуючы перакладу Найдана Вылчава.

Адзінае, што выклікае засмучэнне, — недакладная перадача гістарычных фактаў, якія маюць адлюстраванне ў некаторых вершах. Так, у вершы Максіма Багдановіча "Вулкі Вільні зіяюць і гулка грымяць!" у перакладзе Хрыста Папова беларуская Вільня заменена на Вільнюс:

"Булевардите вилнюски светят, гърмят!". А вось як выглядае гістарычны каментар да знакамітай "Пагоні" таго ж аўтара ў тым жа перакладзе: "Вострая Брама — брама старога Вільнюса. На ёй выяўленыя вершнікі, якія імчацца, — герб горада з часоў Вялікага княства Літоўскага, у склад якога ўваходзілі і беларускія землі". З такім каментарам балгарскаму чытачу, які наўрад ці добра знаёмы з беларускай гісторыяй, будзе проста незразумелы сэнс усяго гэтага верша. Безумоўна, варта было б крыху пашырыць каментар, напрыклад, хаця б так: "Вострая Брама — брама старажытнай Вільні. На ёй выяўлены вершнік, які імчыцца, — герб горада з часоў Вялікага княства Літоўскага — шматнацыянальнай дзяржавы, ядро якой складалі беларускія землі, а дзяржаўнай мовай была старабеларуская. Беларуская Вільня перайшла ў склад сучаснай Літвы і ў 1939 годзе перайменавана ў Вільнюс. Сучасных літоўцаў у часы Вялікага княства Літоўскага называлі паводле іх самага вялікага племені жмуддзю, а сучасных беларусаў — ліцвінамі".

І яшчэ адна кніга стала ўжо ў гэтым годзе цудоўным падарункам нашага Пасольства і беларусам, і балгарам. Гэта зборнік балгарскай паэзіі, прысвечаны нашай краіне, з назвай "Камбаните на свестта. Български поети за Беларус" ("Званы сумлення. Балгарскія паэты пра Беларусь". Гэтае выданне — даніна ўдзячнасці балгар беларусам і прымеркавана да 125-годдзя вызвалення Балгарыі ад асманскага ярма, за якое загінула шмат беларусаў, што ваявалі ў складзе расійскай царскай арміі. Сюды ўвайшлі вершы 31 аўтара — творы розныя па мастацкім узроўні, але аднолькава прасякнутыя любоўю да нашай краіны і болем за наш шматпакутны народ. Як вынікае з самой назвы зборніка, ключавая яго тэма — трагедыя Хатыні. З 63 вершаў, якія сабраў укладальнік кнігі, вядомы і любімы ў Беларусі Стэфан Паптонеў, 13 твораў цалкам прысвечаныя Хатыні, у большасці астатніх згадваецца хатынская трагедыя, якая, як сказаў у сваёй прадмове Стэфан Паптонеў, вельмі нагадвае балгарам іх уласную падобную трагедыю часоў асманскай няволі — Батак.

Акрамя таго, у зборніку ёсць прысвячэнні нашым паэтам Якубу Коласу, Янку Купалу, Нілу Гілевічу, Рыгору Барадуліну. Вершы, прысвечаныя беларускім гарадам Брэсту, Мінску, Віцебску, Гародні ў большасці маюць антываеннае гучанне. На жаль, адчуваецца, што ў Балгарыі не так шмат ведаюць пра нас. Беларусь у балгар атаясамліваецца з белымі бярозамі, у адных толькі назвах вершаў яны сустракаюцца тры разы ("Три брезички", "Белоруски брези", "Белоруски брезички"), а прыгадваюцца яны большасцю аўтараў і ў хатынскай тэме, і ў пейзажнай лірыцы.

Гісторыя нашай краіны для балгар — гэта перш за ўсё падзеі Вялікай Айчыннай вайны, але некаторыя аўтары асэнсоўваюць і іншыя старонкі беларускай гісторыі, спрабуючы знайсці беларуска-балгарскія гістарычныя паралелі. Георгі Драмбозаў піша пра тое, як і літоўскія князі, і прабалгарскія ханы спявалі песню пра явар і каліну, песню, якую, напэўна, данеслі да нас з тых далёкіх часоў беларус Янка Купала і балгар Пенча Славейкаў. Найдан Вылчаў асэнсоўвае беларускія назвы месяцаў, якія так нязвыкла гучаць для балгарына і адлюстроўваюць такую ж адрозную ад балгарскай беларускую прыроду. Хацелася б згадаць таксама прыгожыя філасофскія радкі Хрыста Папова, прысвечаныя Белай вежы; цэлую гаму думак і пачуццяў Зоі Васілевай у нашым Кафедральным саборы; уражанні Андрэя Германава ад беларускага снегу; цудоўнае і вельмі трапнае прысвячэнне Анастаса Стаянава знанаму і любімаму ў Балгарыі Нілу Гілевічу. Гэты паэтычны зборнік — шчырая балгарская малітва за Беларусь. Напэўна, не маюць патрэбы ў перакладзе словы Стэфана Паптонева з верша, прысвечанага абвяшчэнню незалежнасці нашай дзяржавы:

*Беларус...*
*Господи, Боже Всевишни,*
*благослови я!..*

Дзякуй нашым балгарскім сябрам! І дзякуй нашаму Пасольству ў гэтай краіне на чале са спадаром Аляксандрам Пятровым — людзям, якія складаюць за мяжой уражанне аб нашым народзе і якія робяць усё магчымае, каб пра нас ведалі.

**Марына АБРАГІМОВІЧ,**
**сябра рады т-ва "Беларусь-Балгарыя"**

# ШКОЛЕ — 140

Буйнейшай навучальнай установе Міншчыны — Дзераўнянскай сярэдняй школе Стаўбцоўскага раёна — споўнілася 140 гадоў. У сувязі з гэтым слаўным юбілеем 22 лістапада ў памяшканні школы ў пасёлку Дзераўное адбыўся цікавы ўрачысты вечар. На ім прысутнічала больш чым 450 чалавек.

Адкрыла ўрачыстасць змястоўным словам цяперашні дырэктар школы Марыя Мар'янаўна Шумчык. Пасля яе выступалі загадчыца музея "Літаратурная Стаўбцоўшчына", настаўніца беларускай мовы і літаратуры Софія Іосіфаўна Варатынцава, былыя дырэктары гэтай школы: Аляксандр Іванавіч Жарскі, Уладзімір Міхайлавіч Серы, Іван Іванавіч Абрамовіч. Таксама бралі слова загадчык аддзела рэанімацыі Стаўбцоўскай бальніцы Станіслаў Іосіфавіч Цвірко, беларускі пісьменнік Генрых Далідовіч, супрацоўніца Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь Рэгіна Іванаўна Бурак, урач Яніна Іосіфаўна Чэрнік, настаўнікі і былыя выпускнікі школы — цяпер кіраўнікі прадпрыемстваў, вучэбных устаноў і ведамстваў раёна, вобласці і рэспублікі. Усяго выступіла больш за 40 чалавек. Адначасова яны ўручылі школе каштоўныя сувеніры, падарункі, ганаровыя граматы і кветкі.

Шматлікія ўдзельнікі выказалі сардэчныя падзякі педагогам і кіраўніцтву школы за глыбокія веды выпускнікоў, за выхаванне ў іх нацыянальнай свядомасці і маральныя якасці, характэрныя для беларускага народа.

Прайшлі і іншыя святочныя мерапрыемствы. Каля 20 былым настаўнікам гэтай старэйшай навучальнай установы заснавалі алею памяці.

Прысутныя на канцэрце мелі магчымасць падзівіцца таленту вучняў малодшых і старэйшых класаў, педагогаў, якія прымалі ўдзел у выступленнях самадзейнасці школьнага калектыву.

Дарэчы, Дзераўнянская СШ адметна не толькі колькасцю, але і славаю сваіх здольных вучняў.

Трэба адзначыць, што ў памяшканні школы размяшчаецца музей "Літаратурная Стаўбцоўшчына", у экспазіцыі якога звыш 450 экспанатаў. Яна рэгулярна папаўняецца. Тут цікавыя ўспаміны пра народнага песняра Якуба Коласа. Ёсць і творы іншых знакамітых ураджэнцаў Стаўбцоўшчыны. Сярод іх — кнігі Генрыха Далідовіча, Алеся Рыбакова, Міколы Маляўкі, Казіміра Камейшы, Алеся Камароўскага, Яўгена Хвалея, Рышарда Недаводзіна і іншых паэтаў і пісьменнікаў Беларусі.

У музеі знаходзяцца і рэдкія кнігі, здымкі і каштоўныя дакументы, перыядычныя выданні (газеты, часопісы), якія не заўсёды знойдзеш у іншых музеях рэспублікі. Тут прадстаўлены і маляўнічыя вышывальныя ручнікі, шматлікія рэчы, зробленыя самімі вучнямі, матэрыялы з гісторыі роднай школы. Кожны дзень у музеі бывае нямала наведвальнікаў. Сярод іх — вучні, настаўнікі, былыя выпускнікі і педагогі школы, жыхары іншых раёнаў.

За 52 гады са школы выпушчаны 2682 вучні базавай школы і 21187 вучняў сярэдняй школы. 109 выпускнікоў закончылі школу з медалямі. У 2003 навучальным годзе ў школе займаецца 439 вучняў. Вучэбна-выхаваўчым працэсам займаюцца 50 педагогаў, з іх 27 выпускнікі гэтай школы.

У заключэнне трэба адзначыць, што гэта лепшая школа Міншчыны дае глыбокія сістэматызаваныя веды і навыкі, па-сапраўднаму адыгрывае вялікую ролю ў развіцці сучаснага грамадства і асобнага чалавека.

Шаноўныя педагогі, вучні і супрацоўнікі школы, прыміце ў гэты знамянальны дзень самыя шчырыя і сардэчныя віншаванні з юбілеем. Жадаем вам невычэрпнай энергіі, здароўя і новых поспехаў у працы і вучэнні на карысць роднай Беларусі!

**Іосіф ПАЖОГА**



**Вольга КУРТАНІЧ**

# "РАТУНКОВЫ ЗАЦЕПЛІЦЦА ДЗЕНЬ..."

## УНУК

*Ратункові зацепліцца дзень.*
*Адасоблена стане.*
*Паўзмежна.*
*Страпянецца цнатлівы бружмель,*
*скіне кветак пялёсткі дарэшты.*

*А затоены чмель скалыхне*
*позні ружы*
*чырвонае ўлонне.*
*Прадчуванне саспее*
*ўва мне,*
*запяе слова значнае*
*"сёння".*

*Шкло паб'ецца...*
*і зваліцца з рук*
*рукадзелле...*
*паблытаю дзверы...*
*І падасца,*
*што слодычны ўнук*
*праз стагоддзі пяройме манеры:*
*таямніча-затоены рух,*
*плыткасць крокаў*
*і стоенасць веяў.*
*Шкло паб'ецца...*
*і зваліцца з рук*
*рукадзелле...*
*паблытаю дзверы...*

*І палоннік забытых даўно,*
*каго нават і памяць*
*не помніць,*
*як і я, прадчувае адно:*
*галаслівы,*
*народзіцца*
*сёння.*

**1996**

## САД

*А ў садзе гэтым блукае вецер.*
*А ў садзе гэтым*
*пяюць шоўк.*
*Шасціць ашчадна ў зялёным веццi:*
*блукае нехта.*
*І чутны крок*

*таго, хто хоча суцешыць цела,*
*травой свавольнай суцішыць пал.*
*Імгненна прышлы*
*палоннік ценю*
*знайшоў ратунак —*
*і лёцьма ўпаў.*

*Ён дыхаў гучна, найпрэці, роўна,*
*кароткачасна, нібы ў пакон.*
*Звярам і птушкам адзінакроўнік,*
*і толькі дрэвам належаў ён.*

*Сад быў звычайны; ліпнёва-млосны,*
*вецер чулліва згінаў галлё.*
*І я згадала, што гэтак помсцяць —*
*і прашаптала імя сваё.*

**1996**

## МОЙ ПРЫТУЛАК. ІНТЭРНАТ

*Дзе слоў пакора,*
*дзе рухаў марнасць,*
*дзе прышлых бачыць,*
*дзе сон — як смерць,*
*начы — ўзварванне —*
*атрадам карным:*
*у тым затулку*
*мне жыць-гібець.*

*Як збойца, ціха*
*сябе цікуеш...*
*У бледасць раннія —*
*мацней супор:*
*ідзе змаганне за хвілю*
*тую,*
*калі галубіш*
*душы згавор*

*з адчайным ценем,*
*стамлёным целам;*
*шыпшыннік-пурпур*
*са шчокаў трэш.*
*А гукаў крыгі*
*ўрастаюць смела*
*у цішыню,*
*дзе канае верш...*

*Мой кут у дзевяць*
*адсутных метраў,*
*прытулак болю,*
*ратунак мрой.*
*Няма тут волі...*
*няма паветра...*
*Гаршэй нічога...*
*Адно — пакой:*

*спакою марнасць,*
*ганьбення слодыч,*
*тулякаў плыннасць,*
*цнатлівасць слёз.*
*...А побач —*
*гэткія ж ціха ходзяць*
*і наракаюць*
*на згубны лёс.*

**1996**

•

*За сум,*
*падобны на каханне,*
*за горыч несапраўдных*
*слёз*
*і за раптоўнае выгнанне*
*на нелюбоў, як на мароз...*

*За недарэчныя аб'явы*
*пра з'явы,*
*пра забыты шлюб,*
*за надвячорныя выявы*
*дамоў,*
*царквы,*
*заводскіх труб...*

*За горад,*
*кінуты на іншых,*
*за недаснёны*
*ўцешны сон,*
*адкуль знянацку*
*ў морак выйшлі,*
*у руйнавальны,*
*доўгі схон...*

*За ўздых,*
*што лучыць самадайных*
*і абяцае ім працяг...*
*Перажагну цябе спатайна,*
*каб выправіцца*
*ў новы шлях...*

**1996**

## НОЧ

*Гарыць ліхтарня мірная ўначы,*
*ствараючы наіўныя санеты,*
*і мой радок забыты,*
*недапеты*
*з таго, што ты адчужана*
*маўчыш.*

*Вылежвае на схіле неба гром,*
*зацята азіраюцца на хмары*
*ў чаканні бліскавічнага*
*удару*
*і вуліца,*
*і мой панылы дом.*

*У торганні язмінавых галін,*
*у тахканні спалоханага сэрца*
*жаданне невычэрпнае —*
*сагрэцца*
*хоць водарам венгерскіх*
*тонкіх він.*

*І бавіць час.*
*Стаіцца ў гамане,*
*у пошуме дажджу*
*і навальніцы,*
*і шкадаваць ліхтарню,*
*бы сястрыцу,*
*якую ноч карае*
*праз мяне.*

**1996**

## НАЗВІШЧА

*Палоннік ты*
*закончаных гасцін,*
*заўсёдашні наведнік*
*успамінаў,*
*праз незваротны адыход — адзіны*
*наследак скрухі,*
*немасці,*
*вясцін...*

*Калішні госць*
*імгненных гадавін,*
*паўзмежнік чуйны,*
*відавочца ценяў*
*між аканіц,*
*між словаў*
*і каленяў,*
*чый стан смутлівы сёння:*
*сам-адзін...*

*Дапытнік,*
*руйнавальнік,*
*напамін*
*пранозлівы*
*аб безнадзейных марах.*
*Імя здымаю: **"вечны уладар мой"**.*
*Кладу імя: **"зацяты запамін"**...*

**1996**

## ВЕЧАР

*Бліскучы тронак,*
*прамянёваслеплы,*
*жыгучае лязо —*
*за небакрай,*
*за выш-вышынь —*
*у неба —*
*хмары-рэбры:*
*без боязі —*
*іх крэмзаць і караць;*
*іх насычаць пурпурам,*
*і жывіцай —*
*іх;*
*варушыць*
*зляжалае гумно.*
*Аж покуль*
*сонца-сэрца*
*з іх не вымкне,*
*і не ўпадзе*
*на гарызонт яно.*

**1997**

# ДАРОГА ДА СЯБРА

Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

Калі б у мяне раней спыталіся, хто пасадзіў гэтыя бярозы, што растуць паабапал дарогі, па якой я езджу і хаджу мо сто разоў, я не сказаў бы. Яны яшчэ даволі маладыя, недзе ім па гадоў трыццаць... А пасадзіў іх мой сябра Драгун, настаўнік, са сваімі вучнямі. З Драгуном мы разам канчалі Клецкую дзесяцігодку, а потым нашы дарогі разышліся.

Праўда, мы былі з розных вёсак, яму амаль напалову было бліжэй да Клецка, чымся мне, і мой шлях, як я лічыў, быў даўжэйшы і цяжэйшы. Мяне дзівіла, што яго бацька ў нядзелю па чыгунцы нёс у Клецак вялікі бохан хлеба і кавалак сала сыну на кватэру, а потым, праз пэўны час, прыходзіў і сам Драгун-малодшы, але ішоў вольна, толькі з партфелем, у якім ляжала некалькі сшыткаў і кніжак. Быў ён добра апрануты ў параўнанні са мною. Насіў зімою спраўнае паліто з цёплым мяккім каўняром, наглянцаваныя да бляску боты з доўгімі халявамі, штаны-галіфэ з кантам на калена; карычневы суконны пінжак сядзеў на ім, як уліты. Гэта гаварыла за тое, што Драгуновы бацькі рабілі ўсё, каб іх старэйшы сын выйшаў у людзі і каб выглядаў не горш за іншых, а мо яшчэ нават і лепш. Да таго ж яго родны дзядзька быў добрым краўцом, і ўсё, што насіў яго пляменнік, шыў менавіта ён. І сам Драгун-малодшы меў ахвоту да жыцця, днямі прападаў у дзядзькі, памагаў яму па ўсякіх дробязях, а потым перайшоў і на больш цяжкае, адказнае: крой, прымерка, ушыванне рукавоў, у штанах — кішэні, крэсла, кліны. Усё гэта Драгун за некалькі гадоў, ходзячы да дзядзькі Антося, пераняў і сам навучыўся. Таму і выглядаў ён заўсёды франтам, а калі ўлічыць, што ён быў стройны, моцна складзены, хоць і невялікі ростам, але затое добры спартсмен, і з твару даволі прыгожы хлопец — насаты, з рэзка акрэсленымі прыпухлымі губамі, з нейкаю вясёлаю, трохі ўздыбленаю русаю чупрынаю, з белазубаю ўсмешкаю і звонкім раскацістым смехам, — дык у дзяўчат ён карыстаўся поспехам.

Праўда, пра дзяўчат не хапала часу, надта калі думаць — трэба было вучыцца, каб не есці дарма бацькоўскі хлеб. Часцей за ўсё заставаліся толькі мары ды лёгкі флірт-заляцанне — і не больш таго. Хоць казалі, што ў Драгуна ў сваёй весцы мелася дзяўчына, з якою ў яго меўся сур'ёзны раманчык, але калі я аднойчы спытаўся пра тое, дык ён толькі разрагатаўся: пайшлі плёткі ад цёткі да цёткі! Можа, і так, але канчалі мы школу з рознымі атэстатамі: у мяне чацвёркі і пяцёркі, а ён меў нямала траякоў, хоць па здольнасцях ён мне, здаецца, не саступаў. Хто мог паўплываць на такі вынік, як не дзяўчына?

Яшчэ ён меў адну перавагу нада мною: умеў маляваць, ды так прыгожа, праўдападобна, — ці які пейзаж, ці звер, ці партрэт, ці птушка — усё ў яго ажывала на паперы. І рабіў Драгун гэта лёгка, спрытна, хутка, здавалася, без аніякіх намаганняў, як гуляючы.

Мы неяк больш пасябравалі, як жылі разам на кватэры ў Клецку ў дзядзькі Міколы Панкратовіча на Калгаснай вуліцы. Гаспадыня цётка Марыя варыла нам сняданкі і абеды, мы адраблялі ўрокі, часам выходзілі ў горад, часам займаліся школьнаю газетай — ён рабіў афармленне, я выступаў у ролі рэдактара. Часам зазіралі да дзяўчат, але гэта здаралася рэдка і не займала ў нас шмат часу. У мяне засталася недзе фатаграфія, зробленая нашым запісным фатографам Лёнем Шпакоўскім, на якой стаяць дзяўчаты з нашага класа: Вера Ляшчынская, Вольга Цімавец, Жэня Касцюкевіч, Таіса Лобка, Галя Русак, Аня Адарын, з імі мы сябравалі, а да Жэні Касцюкевіч і Волькі Цімавец я нават заляцаўся. Да каго гарнуўся Драгун, не магу сказаць, бо ён вучыўся ў паралельным класе.

Ну і вось, мы скончылі школу, атрымалі атэстаты, радасці нашай не было канца. Аднак — што далей? Кожны думаў і выбіраў сабе дарогу сам. Я збіраўся ісці ў войска, але ваенрук Дудзіч угаварыў мяне паступаць у інстытут, здаваць экзамены, а потым ужо ісці ў войска. А як адслужу, мяне прымуць у той жа інстытут без экзаменаў. Бацькі неяк мала ўмешваліся ў мае планы: хочаш — ідзі ў войска, мо станеш афіцэрам, тады і нам чым паможаш. А паступіш у інстытут — таксама добра было б. Глядзі сам...

Я паехаў у Мінск — адзін, першы раз, да гэтага наведваў толькі Баранавічы. У дарозе пазнаёміўся з дзяўчынай, яна таксама ехала паступаць. Яна ўжо ведала — куды: ва універсітэт, на гістарычны факультэт. І была сястрой вядомага ў Беларусі чалавека — Сяргея Прытыцкага. Універсітэцкі гарадок размяшчаўся пры самым вакзале, яго не трэба шукаць, і я пайшоў разам з Ірынаю Прытыцкай. Мы здалі дакументы — фактычна, адзін атэстат. На філфаку якраз адкрывалася беларускае аддзяленне, і сакратар прыёмнай камісіі Капітонаў угаварыў мяне ісці сюды: вясковы хлопец, мову добра ведаеш, атэстат з чацвёркамі і пяцёркамі... Я пагадзіўся. А недзе праз месяц паехаў здаваць уступныя экзамены. Убачыў шмат сваіх хлопцаў з Клецкай школы: Яраша, Мамчыца, Рамашку, Куліка, старэйшага Александровіча. Шмат хто, асабліва дзяўчаты, паступалі ў педінстытут, хлопцы — у політэхнічны, у наргас. Тады ў нас быў багаты выпуск — больш за сорак чалавек, і можа, палавіна паступіла ў ВНУ. Надарыўся шчаслівы год...

Я здаў добра — дзве чацвёркі і тры пяцёркі, мяне залічылі студэнтам на беларускае аддзяленне, бацькі і сёстры абяцалі мне дапамогу — вучыся, хлопча!

А Драгун недзе прапаў з поля зроку. Потым, ужо студэнтам, я пачуў, што ён паступаў у мастацкі інстытут у Вільнюсе, але не прайшоў і вярнуўся дадому. А восенню яго забралі ў войска. Служыў недзе на Балтыцы, здаецца, у марской авіяцыі.

Праз некалькі гадоў мы выпадкова сустрэліся з ім у Мінску, ён ужо вучыўся на завочным у інстытуце фізкультуры, а сам працаваў настаўнікам у школе у суседняй з нашай вёсцы, вёў фізкультуру. Я падумаў, што гэта яму падыходзіць — на ўсякіх гімнастычных снарадах Драгун глядзеўся сапраўдным майстрам. Падрабязнасцей не расказваў, мы спяшаліся, ён здаваў сесію, трэба рыхтавацца. Засталося шмат недагаворанага, нераспытанага...

Потым, прыязджаючы да бацькоў з Мінска, дзе я застаўся працаваць у выдавецтве, іншы раз сустракаў Драгуна, але каб пагаварыць, пасядзець за сталом — нешта не даводзілася. Толькі абменьваліся навінамі-перамёнамі: ён ажаніўся, а ажаніўся, у яго — дзве дачкі, у мяне — таксама.

А час ішоў сваім ходам. Гады ляцелі. Мы не паспелі азірнуцца, як сталі пенсіянерамі. І здарылася так, што я апынуўся ў Клецку.

Мая жонка — ужо другая, атрымала ў спадчыну ад бацькоў хату ў Клецку, агарод і сад. Тут яе бацька нарадзіўся яшчэ ў 19-м стагоддзі, тут нарадзілася яна сама ў першай трэці 20-га стагоддзя, а цяпер вось з Мінска перабралася жыць на зямлю бацькоў і дзядоў. А я, як бы нехаця, таксама згадзіўся тут жыць, хоць мо і часова, хто ведае...

Цяпер з Драгуном аднавілі перарваныя кантакты. Сяды-тады сустракаемся, але больш езджу я да яго: сяду на ровар — і пакаціў. Усяго нейкія чатыры ці пяць кіламетраў. Якраз у Шчапічах жыве мая малодшая сястра Ніна, так што я часам бываю там і там, бо Драгун таксама цяпер у Шчапічах, яго жонка Інеса працуе ў медпункце. Драгунам далі добры цагляны дамок побач з медпунктам. Ля дома шумяць вялікія прыгожыя бярозы, на двары растуць нават грыбы. Тут жа, за домам — вялізны калгасны сад, які за ўраджайны год ломіцца ад яблык. А трохі далей — копанкі-сажалкі, у якіх разведзена рыба. Так што Драгунам жывецца тут як на добрай дачы. Яны трымаюць да таго ж шмат курэй, качак і гусей. Ёсць нават авечкі. Гаспадарка як мае быць. І пра фізкультуру Драгун не забывае: ля бярозы ўкапаны два слупы, на іх — перакладзіна, побач звісаюць кольцы. Драгун па-ранейшаму стройны, паходка хуткая, хоць валасоў трохі паменшала, яны пасівелі, лоб палобшаў, з'явіліся маршчыны на шчоках і ля вачэй, на ілбе таксама, але і не паменшаў, і старым яго назваць неяк не выпадае.

Мы вось так аднойчы пахадзілі па яго сядзібе, па калгасным садзе, які абяцаў неблагі ўраджай, палюбаваліся на бярозы, на ўвесь такі святочны і проста нават райскі пейзаж, а потым Драгун сказаў, што трэба нашу сустрэчу адзначыць, бо даўно не бачыліся. Гэта недзе апоўдні, пад канец рабочага дня — хто працаваў, вядома. А нам што? Мы вольныя птушкі і нам закон ужо не пісаны.

Драгун паставіў на стол у кухні вялікую патэльню смажанай рыбы, талерку наскрылянае паляндвіцы і сала, добры кавалак смажанай качкі, кіслых гуркоў, цыбулі, слоік памідораў: ёсць на што паглядзець!

Селі за стол удвух. Яго жонка яшчэ працуе, хоць па гадах і на пенсіі: не можа сядзець дома. А дочкі іх замужам, жывуць асобна. Драгун ужо даўно дзед, мае некалькі ўнукаў.

— Дык накладвай сабе ў талерку ўсё, што бачыш, — кажа да мяне Драгун. — нешта ты апошнім часам рэдка зазіраеш да нас.

— Ды ўсё нейкія клопаты, — пачынаю я апраўдвацца.

— Клопаты ёсць і будуць. Трэба часам іх адкінуць, — кажа Драгун і ставіць на стол пляшку "Сталічнай", круціць за "вуха" і адкаркоўвае, потым налівае ў чаркі-гранёнкі. — Давай па адзінай, як казаў той бацюшка. За сустрэчу.

— Хай за сустрэчу, — згаджаюся я. — І за тваё здароўе... Мо кепска, што мы тут адны, без твае Інесы?

— Нічога, пабудзем трохі без яе, — адказвае спакойна Драгун. — Дык да дна!

Выпілі, сталі закусваць хто чым. Я напаў на рыбу.

— Сам лавіў рыбку? — пытаюся ў яго.

— Дзе там! Няма часу! Тут прынёс адзін хлопец, мой былы вучань. Інеса там яго нешта лячыла, паправіўся, дык кажа — вось гэта рыба майму доктару. Як тут не возьмеш?

— А кажуць, што нашы медыкі гасцінцаў не бяруць, — пажартаваў я — трохі мо і не да месца.

— Хто кажа? Усе бяруць! Абы толькі давалі, — зарагатаў весела Драгун. — Дык па адзінай, як кажа бацюшка, — наліў яшчэ па адной гаспадар.

Пілі, закусвалі, гаварылі. У галаве ўжо трохі разыходзіўся хмель.

— Ты вось мне скажы, браце, — звярнуўся я да Драгуна, — чаго цябе пагнала ў Вільнюс, а не ў Мінск?

Драгун перастаў есці, паглядзеў на мяне — нібы я выцяў яму ў грудзі.

— Як цяпер, ды і сам не ведаю, чаму ў Вільнюс. Мо таму, што паехалі разам з Лёнем Шпакоўскім, ён паступаў ва універсітэт, на гісторыка-філалагічны, а я ў мастацкі інстытут. Ён прайшоў, а я зрэзаўся. Не за малюнак, не за тэхніку, а так, мо па якіх іншых меркаваннях. Не хацелі яны пускаць да сябе чужакоў. Хапала і сваіх — і яны іх бралі.

— Правільна рабілі, — пацвердзіў і я, — кадры павінны быць свае, нацыянальныя.

Драгун паглядзеў на мяне падазрона і сказаў:

— Давай вып'ем. Нешта мяне зусім не бярэ.

Наліў, мы выпілі, трохі прыкусілі. Закускі яшчэ заставалася шмат, а ў пляшцы ўжо амаль нічога.

— Зараз я вярнуся, — прамовіў Драгун і ўстаў. Пайшоў да каморы ў канцы доўгай, на ўсю сцяну, веранды. Ён вярнуўся і паставіў на стол бутэльку белай. Адкруціў закрутку, наліў у чаркі: — Гэтая мне лепш падабаецца. Свае работы. Як ты?

— Паспрабую — скажу, — пасміхнуўся я. — Давай вып'ем за свае кадры.

— Ну, ты нацыяналіст, як тыя літоўцы. Я вунь у Эстоніі служыў. Там процьма рускіх, беларусаў, украінцаў, узбекаў — каго хочаш.

— А што ім там трэба? Чаго яны з роднай зямлі паўцякалі?

— Дык людзі шукаюць, дзе лепш, — адказаў Драгун. — Многіх пасылаюць...

— Трэба рабіць, каб дома было добра. Каб людзі не шукалі шчасця за морам. Каб яго дома можна было знайсці... Давай за гэта вып'ем.

Мы чокнуліся чаркамі, не спяшаючыся выпілі. І праўда, самагонка падалася прыемнай на смак, ачышчанай ад сівушнага масла, моцная. Мяне і так ужо добра разабрала, а тут яшчэ гэтая порцыя... Але неяк не думалася, што будзе потым. Мы гаварылі далей, закусвалі ўсё менш.

— А ты ведаеш, што ў цябе прозвішча ўкраў? — спытаўся я ў Драгуна.

— Як гэта — украў? Не даходзіць.

— Проста... Украў — і даў свайму галоўнаму герою. Вось у гэтай кніжцы, якую я табе даю — з аўтографам і падзякай за прозвішча. — І я дастаў кніжку з сумкі, якая ляжала на табурэтцы, аддаў Драгуну. — Добрае ў цябе прозвішча: кароткае, звонкае, нейкае кавалерыйскае. Няйначай, прадзед у вашым родзе служыў у драгунскім палку, а пасля асеў у вашых мясцінах, ажаніўся — і пайшлі Драгуны. З мянушкі стала прозвішча...

— Можа, й так... Ну, дзякую. Буду чытаць... Пра самога сябе...

— Ну, там тваё адно прозвішча, а жыццё апісана — амаль што маё. Толькі канцоўка прыдумана... нерэальная. У тым сэнсе, што такога не было. Не магло здарыцца... А ўсё тое, што магло быць, гэта прадмет літаратуры. Як бы матэрыял для літаратара, калі гаварыць папулярна.

Мы зрабілі перадышку, выйшлі з-за стала, пахадзілі. Для курцоў ледзь што — перакур, а мы абодва не курылі, але асвяжыць галовы варта, праверыць ногі, ці ходзяць па адной лініі — таксама. Здаецца, усё яшчэ было нармалёва — не ацяжэлі ногі, не запляталіся языкі.

Пахадзіўшы, зноў вярнуліся да стала. У мяне ў галаве круцілася пытанне да Драгуна, добра, што я яго ўспомніў: пра армейскую службу, пра тое, як служыў пры самалётах, ды не лятаў, а толькі любаваўся, як лётаюць іншыя.

І як толькі мы ўзялі па новай чарцы, я так адразу і спытаўся ў Драгуна:

— А скажы ты мне, хто цябе ссадзіў з неба на зямлю?

Ён адразу зразумеў — без лішніх пытанняў.

— Былі зенітчыкі... Былі... Іх хапала... на нашу галаву...

— Раскажы, раскажы, — папрасіў я яго. — А то чуў нейкімі ўрыўкамі, з чужых слоў. Нават не верылася...

Драгун неяк крыва ўсміхнуўся, а потым стаў сур'ёзны, устрапянуў галавою, нібы прыводзячы ў парадак думкі.

— Гэта, брат, цэлая гісторыя. Хоць пішы аповесць.

— Хопіць на аповесць? — здзівіўся я.

— А што? Каб усё падрабязна... падаць... перадаць на паперы, як ты кажаш, дык была б павучальная рэч.



І пачаў расказваць, як ён ехаў у Ленінград, у экіпаж, як там сабралася цэлая каманда такіх маладых дужых хлопцаў з розных канцоў Саюза, але тут пераважна згрупаваліся з заходніх рэгіёнаў. Яны адбылі карацін, ім выдалі марскую форму, бесказыркі, і потым у адзін дзень адправілі ў Новую Ладагу ў школу малодшых авіяспецыялістаў. Прабыў там некалькі месяцаў, вывучалі матэрыяльную часць самалётаў. Яго потым з дзесяццю хлопцамі забралі на эстонскі востраў, на аэрадром. Праслужыў там больш за год, усё рваўся ў якое вучылішча, пісаў рапарты. І вось шчасце, Драгуна адпраўляюць у Ейск, на Азоўскае мора, у лётнае вучылішча.

Паехаў адзін. Па дарозе завярнуў да бацькоў, даўно іх не бачыў. Пакінуў ім адрас. Бацькі і рады, і ў трывозе — сын едзе за свет... Але і ганарова — стане лётчыкам.

— Як цяпер разумею, не трэба было мне заязджаць... Ды што зробіш? Не паправіш... Прыехаў у Ейск. Жылі ў палатках на беразе мора. Лета — гарачыня, духата. Два тыдні экзаменаў, медкамісія. З дзвюх тысяч адабралі дзвесце чалавек. Я здаў добра, камісію прайшоў нармальна. Залічылі ў курсанты. Адразу ўзяліся за навуку: матэрыяльная часць самалётаў, розныя тыпы, мадэлі... Усё цікава! А ў неба цягне: хутчэй бы ўжо туды прарвацца, хоць бы з інструктарам! Зірнуць на ўсё з вышыні птушынага палёту... Адчуць штурвал у руках... Паспытаць хоць бы прыблізна тое, што давялося французу Сент Экзюперы ў сваіх палётах...

Драгун запыніўся, раптоўна замоўк. Я глянуў на яго і заўважыў, як дзве цяжкія слязіны скаціліся па шчоках уніз, да падбародка.

Я не падганяў, не прыспешваў. Няхай супакоіцца, хай адгоніць чуллівасць, якая раптоўна нахлынула на яго. Бываюць моманты, калі з ёю цяжка справіцца, і мужчына

**(Заканчэнне на стар.14-15)**

# БУДЗЕ ЛЯЛЬКАМ НОВЫ ДОМ

22 кастрычніка ў Гарадскім цэнтры культуры свой юбілейны саракавы сезон адкрыў Гомельскі тэатр лялек. Прэм'ера спектакля "Начны госць" сталася і прэзентацыяй п'есы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі РБ, галоўнага рэдактара студыі "Беларусьфільм", вядомага пісьменніка і драматурга Георгія Марчука. Спецыяльна для Гомельскага тэатра лялек ён напісаў цудоўную добрую казку.



Мышка Шушу (Т. Палевіч), галоўная гераіня прэм'еры — той самы начны госць, які спачатку крадзе пад уплывам Пацучыхі Мацільды (Г. Гарачава), а потым з дапамогай новых сяброў — Ката Кузьмы Кузьміча (Я. Хромаў), Сабакі Сцяпана Сцяпанавіча (Л. Зорына) і Папугая Ламбады (Ю. Лахмакоў) — пазбаўляецца стасункаў са злоснай Пацучыхай. Несумненна, малечы падабаецца гэтая вясёлая музычная гісторыя, аб барацьбе дабра і зла, пра моцнае сяброўства, якую паставіў галоўны рэжысёр тэатра лялек, заслужаны артыст Беларусі Уладзімір Матрос (з 1966 года — артыст тэатра, а з 1986 — галоўны рэжысёр). Вельмі пасуюць сцэнічнаму дзеянню мелодыі з папулярнага беларускага альбома "Крамбамбуля", а таксама арыгінальная частка музыкі, дапісаная самім У. Матросам.

Хочацца прыгадаць, што менавіта Гомель — радзіма беларускіх лялечных тэатраў. Тут з 1938 года да пераезду ў Мінск адкрыўся і працаваў першы ў рэспубліцы прафесійны лялечны тэатр, які зрабіўся Дзяржаўным тэатрам лялек Беларусі. Сёння ў новым доме Гомельскага тэатра лялек — вядомым будынку па вуліцы Пушкіна, 14, ідзе рамонт, пасля якога сцэна зробіцца большай, а колькасць месцаў для гледачоў зменшыцца да 200.

"Мару пра Тэатр-Казку... з фантанамі, зімовым садам, акварыумам, "жывым кутком"... Думаю, усё гэта будзе, — расказвае дырэктар тэатра Дзмітрый Гарэлік. — Раней з-за адсутнасці залы мы шмат гастралявалі. Намі нават быў пастаўлены своеасаблівы рэкорд на Беларусі: у 2001 годзе спектаклі тэатра паглядзелі 39 тысяч жыхароў вёсак і паселішчаў — гэта больш за ўсе астатнія сем лялечных тэатраў рэспублікі, разам узятыя. "У 2002 годзе наш тэатр са спектаклем "Чырвоны Каптурок" стаў лаўрэатам І абласнога агляду-конкурсу малодых тэатральных выканаўцаў, граматамі і грашовымі прызамі адзначылі артыстак Надзею Нікіціну і Кацярыну Карчэўскую, а акцёра Віктара Марозава — за лепшую мужчынскую ролю сярод дзіцячых калектываў, — дадае галоўны рэжысёр тэатра У. Матрос. — Мы ўсе вельмі любім актрысу Тамару Гарачаву — 38 гадоў таму ў 1966 годзе яна прыйшла працаваць яшчэ ў гурт пры Гомельскім абласным тэатры. Даўно і плённа працуюць у нас акцёры Вікторыя Шведава і Юрый Лахмакоў. Ёсць у нас і свой глядач. Многія дарослыя "дзеці" выраслі з намі і водзяць у тэатр ужо сваіх дзяцей і нават унукаў. А мой самы галоўны глядач і крытык — мая маці Валянціна Іванаўна Матрос, якая амаль 50 гадоў кіравала ансамблем танца Палаца піянераў. Яе творчыя парады люблю і цаню з дзяцінства, бо я дагэтуль гуляюся ў лялькі, я — вялікае дзіця".

Застаецца дадаць, што ў тэатры рэпеціруюць наступную прэм'еру. Падчас навагодніх канікулаў усе артысты і супрацоўнікі Гомельскага тэатра лялек чакаюць дзяцей і бацькоў у госці да Снежнай Каралевы.

**Леся ПАРФІЯНОВІЧ**
**г. Гомель**

***НА ЗДЫМКУ: лялькі і акцёры — удзельнікі спектакля "Начны госць".***

***ФОТА АЎТАРА***



***Аднойчы дажджлівым чэрвеньскім днём я завітала ў Беларускі дзяржаўны харэаграфічны каледж. І хаця калідоры яго былі пустыя і маўклівыя, паўсюль панавала атмасфера ўзнёсласці і ўрачыстасці: ішлі экзамены. Навучэнцы трэцяга курса — вучні Ніны Мікалаеўны Дзячэнкі — трымалі ў той дзень іспыт па народна-сцэнічным танцы. І, ведаеце, што цікава: хваля танца настолькі захапіла мяне, што адразу ж забыўся і дождж, і халодны вецер, якія літаральна дзве хвіліны таму так бязлітасна сапсавалі мне настрой. Рускія, венгерскія, іспанскія танцы змянялі адно аднаго, а я час-почас адводзіла вочы ад юных танцораў, каб паназіраць за іх педагогам.***

***Што адчувае настаўнік? Вучні здаюць экзамен, паказваюць тое, над чым ён так доўга з імі працаваў: ці не саб'юцца з рытму, ці данясуць да гледачоў настрой танца? Ніна Мікалаеўна стаяла крыху ўбаку, але здавалася, што яна і вучні — адно цэлае, што педагог запальвае ў іх полымя натхнення і ўжо нішто не перашкодзіць святу прыгажосці. Выступілі дастойна, атрымалі добрыя адзнакі і водгукі экзаменатараў. А пасля абступілі Ніну Мікалаеўну, і нават мне, чужому чалавеку, было відаць, як любяць яе вучні. Як, дарэчы, і артысты балета Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра, дзе Ніна Дзячэнка — галоўны балетмайстар.***

# СВЕТ ІМКНЕЦЦА ДА КЛАСІКІ



**— Ніна Мікалаеўна, ці даўно вы ў балеце?**

— Я танцую з пяці гадоў. Помню, танцавала паўсюль: і дома, і на вуліцы. Чула музыку і імправізавала. Да таго ж для кожнага танца я імкнулася знайсці адпаведны "касцюм": выкарыстоўвала нават капу і падушкі. Мой тата быў вайсковец, і сям'я заўсёды вандравала следам за ім. Доўгі час мы жылі ў Есентуках, дзе я і пайшла ў гурток самадзейнасці Дома піянераў: маме надакучыла, што дачка ўвесь час скача па кватэры. Нас вучыла цудоўны педагог Марыя Лукіна. Яна вельмі любіла балет, сама была салісткай тэатра аперэты. Хаця мы, вучні, былі зусім маленькія, яна ставіла з намі сапраўдныя балеты. Першай маёй вядучай партыяй была Чырвоная Шапачка ў аднайменным балеце. І, ведаеце, я вельмі ўдзячная сваёй маці, якая адпусціла мяне потым вучыцца ў Пермскае харэаграфічнае вучылішча. Яна разумела, што на Каўказе атрымаць балетную адукацыю я не змагу, там няма адпаведных вучэбных устаноў. Мне было 11 гадоў, але ж я добра ўсведамляла, што хачу стаць менавіта балерынай. Тады пачалося маё самастойнае жыццё. А пасля заканчэння вучылішча я прыйшла працаваць у Пермскі оперны тэатр.

**— Былі іншыя прапановы?**

— Так, але добра, што я трапіла менавіта ў Пермскі тэатр. Там працавалі мае педагогі. Да таго ж, гэты тэатр — адзін са старэйшых у былым СССР. У час вайны з Ленінграда эвакуіравалі Кіраўскі тэатр, і частка артыстаў засталася ў Пермі. Знакамітая вучаніца Агрыпіны Ваганавай Кацярына Гейдэнрэйх была арганізатарам харэаграфічнага вучылішча ў гэтым горадзе. Яго выпускнікі — цудоўныя танцоўшчыкі — працуюць сёння па ўсім свеце.

**— Якія партыі вы выконвалі?**

— Я танцавала ўвесь характарны і сучасны рэпертуар. А таксама такія класічныя партыі, як Фея Бэзу ("Спячая прыгажуня"), Эгіна ("Спартак"), Зарэма ("Бахчысарайскі фантан"), Кармэн ("Кармэнсюіта"). Лёс звёў мяне з выдатным балетмайстрам Мікалаем Баярчыкавым. У той час адной з маіх улюбёных партый была Фартуна ў балеце "Арфей і Эўрыдыка" на музыку Аляксандра Журбіна. У свой час гэты спектакль нарабіў многа шуму — і ў Пермі, і ў Санкт-Пецярбургу. За аснову была ўзята рок-опера з Ірынай Панароўскай і Альбертам Асадуліным у галоўных ролях: балет быў пастаўлены пад іх галасы і сімфанічны аркестр. Спектакль карыстаўся велізарным поспехам у гледачоў. Харэаграфія была вельмі цікавая: класіка перамяжоўвалася з мадэрнам, калі артысты танцуюць басанож. Я мару, што трупа і нашага тэатра калісьці дакранецца да гэтага цудоўнага твора.

**— Ніна Мікалаеўна, як вы апынуліся ў Мінску?**

— Мой муж — тэнар, народны артыст Расіі Эдуард Пелагейчанка. Яго запрасілі працаваць у Мінск. Мы прыехалі, і я трапіла ў Вялікі тэатр Беларусі: Валянцін Елізар'еў паверыў у мяне, і я пачала працаваць рэпетытарам. У той час, калі ў тэатры ішла змена пакаленняў, мне даверылі моладзь. З моладдзю я многа працавала і, здаецца, недарэмна: Святлана Раманава, Кацярына Фадзеева, Веніямін Захараў першыя свае крокі на сцэне рабілі пад маім кіраўніцтвам. Затым склалася так, што Дзяржаўнаму тэатру музычнай камедыі Беларусі быў патрэбны балетмайстар, і мяне запрасілі на гэту пасаду. Тагачасны дырэктар тэатра Сяргей Косцін жадаў узняць культуру тэатра, лічыў, што кожны творчы цэх мусіць мець сваю праграму — і я думаю, гэта правільна, бо дазваляе калектыву ўдасканальвацца і павышаць прафесіяналізм. Была арганізавана трупа, мы назвалі яе "Мінск-балет", каб на афішы была наша ўласная назва. Іспанія, Партугалія, Англія, Шатландыя... Дзе толькі ні пабывалі мы з гастролямі! Трупе нашай ужо дзесяць з лішкам гадоў (24 снежня 1992 года быў пастаўлены балет "Штраусіяна, або Іспанскі дывертысмент"), і, дарэчы, свой юбілей мы адзначылі на гастролях у Швейцарыі.

**— Калі ласка, крыху пра вашых артыстаў.**

— У нашай трупе ёсць цудоўныя танцоўшчыкі, якіх ведае ўвесь свет: Юлія Дзятко і Канстанцін Кузняцоў. Дзесяць гадоў яны працуюць тут, маюць высокія ўзнагароды: столькі разоў станавіліся лаўрэатамі самых прэстыжных міжнародных конкурсаў! І, уявіце сабе, дагэтуль яны не маюць званняў заслужаных артыстаў. А як магла б ганарыцца краіна, калі б далёка за яе межамі гледачы ведалі, што Дзятко і Кузняцоў не проста лаўрэаты, а лепшыя прадстаўнікі беларускага мастацтва! Жыццё артыста балета такое кароткае, а гэтая пара якраз у самым росквіце! У тэатры ёсць таксама іншыя таленавітыя танцоўшчыкі, — дублёры славутага дуэта: Віталь Краснаглазаў, Рына Івакіры, Людміла Кісялёва, Максім Кілееў, Рыгор Крукоўскі, Вольга Лядская. Яны ўжо таксама заслугоўваюць званняў, бо глядач іх ведае і любіць.

На жаль, балеты ў нас ідуць вельмі рэдка: чатыры спектаклі на месяц. Раней было 5—6, але ў свой час трупа наша паменшылася, бо кардэбалет пачаў шукаць больш грашовую працу. Праўда, сарцавіна трупы захавалася, і гэта дало магчымасць нам выжыць. Зараз маглі б даваць нават па 6—7 балетных спектакляў у месяц, улічваючы, што танцоўшчыкі занятыя таксама ў кожнай аперэце ці ў мюзікле. Спадзяёмся, што дырэкцыя тэатра дапаможа нам зрабіць так, каб балеты ішлі часцей: нікому ж ужо не трэба даказваць, што публіка любіць нас. Да таго ж, статус тэатра змяніўся, і на яго сцэне мусяць ісці не толькі музычныя камедыі, аперэты або мюзіклы, ён абавязаны мець у рэпертуары балеты.

**— Што вам больш даспадобы: сучасны або класічны рэпертуар?**

— Класіка — гэта аснова ўсяго. Калі яе няма ў рэпертуары, прафесійны ўзровень тэатра можа значна панізіцца. Класіка — штодзённая школа для артыста. Росквіт маёй уласнай балетнай кар'еры прыпаў на час працы балетмайстра, які добра валодаў якраз сучаснай харэаграфіяй. Але я лічу, што класіка дадзена звыш, яна ачышчае душу. Сёння ўсе захапляюцца мюзікламі, а, дарэчы, каб добра ў іх танцаваць, трэба мець выдатную класічную школу.

**— Акрамя балета, якія віды мастацтва блізкія вам?**

— Больш за ўсё я люблю оперу. Менавіта з ёй былі звязаны мае першыя крокі па сцэне ў дзяцінстве. Мы — дзеці — удзельнічалі ў многіх спектаклях: напрыклад, у "Яўгеніі Анегіне" перад балем у Ларыных нам паказвалі салістку хору і гаварылі: "Гэта ваша маці", а мы павінны былі выходзіць на сцэну і іграць яе дачку

або сына. У мяне тады стварылася ўражанне, што спевакі оперы — ідэальныя людзі: я надзяляла іх рысамі герояў. Менавіта опера ўзгадавала ўва мне здольнасць сур'ёзна пранікаць у складаныя характарныя ролі. А яшчэ ў дзяцінстве мы часта слухалі сімфанічныя канцэрты — класіка была са мной побач ужо тады. Мы не бадзяліся вечарамі па вуліцах —у нас быў занятак для душы. На жаль, сённяшняя моладзь дрэнна ведае і оперу, і класіку увогуле. Новае пакаленне выхоўваецца на іншай музыцы, якая спустошвае душу, таму я не разумею нашу эстраду. Мне здаецца, што там мала прафесіяналаў. Я б хацела, каб узровень спевакоў набліжаўся да італьянскай спявачкі Рафаэлы Кара, якая валодае высокай музычнай культурай і цудоўнай танцавальнай тэхнікай.

**— На ваш погляд, як можна далучыць моладзь да класікі?**

— Бацькам трэба вадзіць дзяцей у тэатры, на канцэрты. Яны павінны атрымліваць урокі музычнай граматы. Калі я гадавала дачку, ставіла ёй пласцінкі з музычна-драматычнымі кампазіцыямі паводле балетаў "Лебядзінае возера", "Спячая прыгажуня". Ужо ў сем гадоў яна добра ведала гэтыя творы.

**— Ці можна сказаць, што ваша жыццё — балет?**

— Канечне, я ж з дзяцінства ў ім. З танцоўшчыкамі тэатра ў нас добрыя адносіны, мы паважаем адно аднаго. Нават у вельмі складаныя для нашай трупы часы яны верылі, што ўсё будзе добра, і падтрымлівалі мой энтузіязм. Сёння яны таксама стараюцца рабіць усё па максімуму. Мне хочацца супрацоўнічаць з Раду Паклітару — гэта найярчэйшы малады мастак у галіне балета на сённяшні дзень. Цяпер ён ставіць "Рамэо і Джульету" ў Вялікім тэатры ў Маскве. Памятаеце творчы вечар Юліі Дзятко і Канстанціна Кузняцова? Балет "In pivo veritas" таксама паставіў Раду Паклітару. Шкада, што гэты цікавы спектакль не ўвайшоў у рэпертуар нашага тэатра. Ён будзе ісці ў Адэсе. Мы не цэнім таго, што маем...

**— А якая праблема самая вострая для вашай трупы?**

— Харэаграфічны каледж сёння выпускае вельмі мала танцоўшчыкаў: іх не хапае на два тэатры. Да таго ж, Нацыянальны тэатр балета звычайна "забірае" ўсіх лепшых. Да нас прыходзяць калі тры, калі два, а калі — і ніводнага выпускніка. Дарэчы, яны недастаткова добра падрыхтаваныя. Помню, калі мы заканчвалі вучыцца, маглі танцаваць вядучыя партыі. Сёння ж многія юныя танцоўшчыкі — не могуць. Добра, што ў нашай трупе ёсць майстры, у якіх можна вучыцца!

**— А што важна ў прафесіі балетмайстра?**

— Галоўнае — талент і мэтанакіраванасць. Можна навучыць неталенавітага чалавека, напрыклад, пісаць карціны, але гэта будзе не мастацтва. Гэтак жа і з балетам. Дарэчы, сёння ўжо ёсць маладыя таленавітыя балетмайстры — выхаванцы беларускай школы: Наталля Фурман, Раду Паклітару, Вольга Рэпіна.

**— І, калі ласка, пра замежныя гастролі...**

— Калі я танцавала сама, аб'ездзіла амаль увесь свет: Аўстралія, Новая Зеландыя, Амерыка, Галандыя, Францыя, Швейцарыя, Германія і г.д. З нашай трупай мы выязджаем прыкладна раз на год: часцей не ўдаецца, бо ў кожным спектаклі Музычнага тэатра патрэбны балет. Шэсць разоў мы былі ў Іспаніі, шмат паездзілі па Германіі і Швейцарыі. У снежні зноў нас запрасілі ў Швейцарыю. Пакажам там "Жызэль" і "Шчаўкунчыка". Дарэчы, на Захадзе сёння людзі імкнуцца менавіта да класікі. На кожным нашым спектаклі — аншлаг. Замежныя гастролі даюць нам штуршок для прафесійнага росту.

**Вольга НАВАЖЫЛАВА**

***Фота аўтара***

**ВІНШУЕМ!**

# РУПЛІВЫ СЕЙБІТ СЛОВА

Сёння мне хацелася б нагадаць пра аднаго з многіх тысяч сумленных і самаадданых працаўнікоў на ніве нашай філалогіі, які гэтымі лістападаўскімі днямі адзначае свой дзевяностагод нараджэння.

Нарадзіўся Іосіф Мартынавіч Гайдукевіч 17 лістапада 1913 года ў вёсцы Любонічы Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля заканчэння сямігодкі вучыўся ў школе ФЗВ пры Бабруйскім лесакамбінаце, год працаваў электраманцёрам. Аднак хутка неадольная прага да навукі прывяла маладога здольнага юнака на літаратурна-лінгвістычны факультэт Мінскага дзяржаўнага педінстытута імя М. Горкага скончыўшы які, выкладаў беларускую мову ў Гомельскім настаўніцкім інстытуце.

Але любімая выкладчыцкая праца доўжылася мала: у лютым 1939 года І. Гайдукевіча прызвалі на вайсковую службу ў Чырвоную Армію, і неўзабаве яму давялося ўдзельнічаць у баях савецка-фінскай вайны. Звольніўшыся з дзеючай арміі ў лістападзе 1940 года, вярнуўся да сваёй галоўнай у жыцці справы, выкладчыцкай працы: пачаў вучыць рускай мове і літаратуры дзетак Самахвалавіцкай сярэдняй школы Мінскага раёна. І зноў нядоўга. Пачалася страшная Вялікая Айчынная.

У час вайны Іосіф Гайдукевіч быў падпольшчыкам, партызанам. Пасля вызвалення Беларусі служыў у Савецкай Арміі, удзельнічаў у вызваленні ад фашыстаў гарадоў і вёсак на тэрыторыі Польшчы і Германіі.

Са снежня 1945 года І. Гайдукевіч зноў на педагагічнай ніве ў Брэсцкім педвучылішчы. Праца захапляла, але і адчувалася патрэба ў павышэнні сваёй кваліфікацыі. У 1950 годзе ён паступае ў аспірантуру Мінскага дзяржаўнага педінстытута імя М. Горкага па спецыяльнасці "беларуская мова" і адзін з першых на Беларусі пасля вайны актыўна і плённа даследуе дыялектную мову. Вынік — паспяховая абарона кандыдацкай дысертацыі "Гаворкі Дрысенскага раёна Віцебскай вобласці" (1954). Між іншым, падчас вучобы ў аспірантуры жыў у інтэрнаце ў адным пакоі з такімі вядомымі беларускімі навукоўцамі, як Уладзімір Калеснік, Фёдар Янкоўскі, Міхась Яўневіч.

Пасля аспірантуры — выкладчык беларускай мовы Брэсцкага дзяржаўнага педінстытута імя А. Пушкіна. У сакавіку 1957 года І. Гайдукевіч пераязджае ў Мінск, паступае на працу старшым навуковым супрацоўнікам сектара лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР, удзельнічае ў падрыхтоўцы "Беларуска-рускага слоўніка" (1962) і "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (у 5-ці тамах, 1977—1984).

У снежні 1966 года І. Гайдукевіч у чарговы раз вяртаецца да педагагічнай працы. Як дацэнт кафедры агульнага і рускага мовазнаўства (тагачасная назва) і адзін з найбольш кваліфікаваных выкладчыкаў чытае студэнтам складаныя тэарэтычныя курсы старaславянскай мовы, параўнальнай граматыкі беларускай і рускай моў, рускай дыялекталогіі. З ліпеня 1979 года — на пенсіі.

Колькасна за час працы створана нібыта і няшмат. Затое кожнае выданне адметнае ў лінгвістычнай навуцы: значнае па аб'ёме і выканана на высокім навукова-тэарэтычным узроўні. І. Гайдукевіч — аўтар не толькі згаданых вышэй прац, але і адзін з сааўтараў першых тлумачальных слоўнікаў беларускай і рускай мовы для сярэдняй школы (разам з А. Баханьковым і П. Шубам), а таксама "Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы" (1963).

Баявыя і працоўныя заслугі І. Гайдукевіча радзіма адзначыла больш як дзесяццю ордэнамі і медалямі.

Хачу ў гэтыя юбілейныя дні ад імя сваіх калег па Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Максіма Танка шчыра і сардэчна павіншаваць Вас, дарагі Іосіф Мартынавіч, са слаўным юбілеем, пажадаць Вам здароўя яшчэ на многія-многія гады, паболей добрых цёплых успамінаў, такіх надзейных і верных людзей навокал, як Вы самі. Заўсёды памятаю і буду памятаць Вашу бязмежную дабрыню, чалавечнасць, спагадлівасць. Няхай Бог дорыць Вам толькі светлыя і прыемныя дні!

**Павел МІХАЙЛАЎ,**
**кандыдат філалагічных навук,**
**загадчык кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка**

**ПЕРАКЛАДЫ**

**Генрых БЁЛЬ**



## МЁРТВЫЯ БОЛЬШ НЕ ПАДПАРАДКОЎВАЮЦЦА

Лейтэнант сказаў, што мы павінны прыпыніцца, і мы прыпыніліся. Гэта адбылося на ўскрайку лесу. Свяціла сонца, буяла вясна, навокал ціха, а мы ведалі, што вайне хутка канец. Хто меў тытунь, пачалі паліць, астатнія спрабавалі заснуць, бо стаміліся, паўгаладалі апошнія тры дні, але ўдзельнічалі ў сутычках. Было заміравана ціха, недзе спявалі птушкі, і ўсё паветра напаўнялася сакавітай, вільготнай пяшчотай.

Раптам лейтэнант пачаў гарлапаніць. "Гэй!" — гукнуў ён шалёна: "Гэй вы, там!" Затым ён зрабіўся зусім іншым, яго голас збіваўся: "Гэй вы, гэй вы там!"

Потым мы ўбачылі, каго ён меў на ўвазе. На другім баку лясной дарогі нехта сядзеў. Гэта быў просты, шараговы салдат, які прытуліўся да дрэва і спаў; ён салодка ўсміхаўся ўсім сваім рабаціністым тварам, мы думалі, што лейтэнант цяпер яго разбудзіць. Нам падалося таксама, што звар'яцее і салдат, які спаў, бо лейтэнант усё больш крычаў, а салдат спакойна ўсміхаўся...

Хто пачаў курыць, слухалі і курылі, хто хацеў падрамаць, абудзіліся, а некаторыя з нас таксама ўсміхаліся. Была вясна, пяшчотная і салодкая, і мы ведалі, што вайне хутка канец. Раптам лейтэнант перастаў крычаць, ён ускочыў, за пару крокаў перабег лясную дарогу і ўдарыў салдата, які спаў пад дрэвам, у твар.

Толькі зараз мы ўбачылі — салдат пад дрэвам мёртвы. Ён упаў і больш не ўсміхаўся: на яго ным твары была жудасная грымаса, а лейтэнант, калі вярнуўся збялднелым назад, не выклікаў у нас шкадобы, бо не было радасці ад сонца, ніякага настрою ад сакавітага вясенняга паветра, і нам зрабілася ўсё роўна, ці надыходзіць канец вайне ці не. Мы раптоўна адчулі, што мы ўсе мёртвыя, нават лейтэнант, які аслабіўся і быў без уніформы.

## АМЕРЫКА

Губерт ляжаў у сваім ложку, пасунуўшы яго бліжэй да печкі, у якой распаліў невялічкі агонь са старых рам. Канечне, у вялізным пакоі не магло стаць цяплей. Навокал цепліўся астравок нейкай чалавечай тэмпературы, уся астатняя прастора з карцінамі, мальбертам, шафамі, заставалася халоднай і зачаравана-пакінутай. У Губерта на каленях ляжаў накід... але ён над ім не працаваў, а глядзеў на нейкую пляму карычневага пледа. Губерт павітаў мяне ўсмешкай, адклаў у бок малюнак. У няшчасных вялікіх, шэрых вачах я прачытаў перш за ўсё голад і безнадзейнасць.

Я вырашыў не зацягваць ягоных пакут і дастаў свежы, духмяны, белы бохан... Вочы Губерта заблішчэлі. "Ты звар'яцеў, — прамовіў ён, — альбо я звар'яцеў... ці ты яго скраў... ці я трызню... ці ах...", — ён працёр вочы: "Проста не верыцца". "Калі ласка", — прагаварыў я і патрымаўшы пад яго носам акраец са смачнай корачкай, паклаў яму ў руку. "Ну цяпер ты адчуў?.. Павер дзеля мяне, што ты не вар'ят, але ў любым выпадку, я яго не краў... дзялі хлеб". Губерт нарэшце паверыў сваім пачуццям, смела ўзяў хлеб, быццам баяўся, што нічога не атрымае, усвядоміўшы рэальнасць, ён выцягнуў з камода нож. Тым часам я дастаў з кішэні тытунь і пачаў драбніць на малюпасенькія кавалачкі сцізорыкам, а затым высыпаў на разагрэтую печку. Гэта завецца сушкай, так здаецца. Губерт пранізліва паглядзеў на мяне, прагна ўздыхнуўшы, прамовіў: "Ты стаў чыстым злодзеем..."

Цяпер мы разам ляжалі ў ложку і з асалодай умолвалі кожны сваю палову бохана, ад якога адшчыпвалі маленькія кавалачкі і клалі сабе ў рот... Водарным быў хлеб, свежым і яшчэ цёплым, белым і смачным — ...хлеб — самае лепшае, што ёсць на свеце. Ганьба людзям, якія не ядуць яго з-за сытасці... Ганьба!..

Які я быў шчаслівы, што Губерт забыўся, не настойваў з пытаннем, адкуль узяўся хлеб... о, Божа, калі б ён не суняўся. Хто ведае, што прыйдзе мастаку ў галаву! Але ён еў моўчкі і задаволена. Эх, шчаслівы чалавек, у якога ёсць трохі хлеба.

"Ведаеш, пра што я падумаў, калі ты ўваходзіў сюды?"

Я адказаў, што не. Бо не псіхолаг, дзякуй Богу!

"Я падумаў, ці не вылічылі ў амерыканскіх універсітэтах, колькі калорый дастаткова генію... напрыклад, Рэмбранту. Сучасная навука ведае выключна ўсё. Што ты пра гэта думаеш? Можа, прыйдуць да думкі, што геній жыве неяк па-за нормамі. Што празмерна жарэ альбо галадае... і што ягоныя дасягненні не залежаць — скажам — ад так званага харчавання..."

"Але ў генія таксама ёсць свая мяжа голаду... Можна прасядзець восем дзён няеўшы і няпіўшы ў склепе і напісаць аб гэтым цудоўны санет... але, калі ўсё сваё жыццё правесці ў халодным склепе, пісанне санетаў скончыцца... яно скончыцца, бо ў чалавека проста не будзе больш моцы занатоўваць свае санеты агрызкам алоўка на нейкай бруднай паперчыне..."

Я заўважыў, што ён шмат, шмат прыгожых санетаў не напісаў, але стварыўшы, мог утрымаць у галаве. Яны ніколі не пабачаць свету, але яны засталіся там... магчыма, санеты, якія б зрабіліся бессмяротнымі, калі б сталі вядомымі.

Мы даелі апошнія кавалачкі хлеба... я сабраў з печкі падсохлы тытунь, набіў нашы люлькі, а Губерт працягнуў скручаны кавалак малюнка... запаліў яго ад вогніка. Цяпер мы курылі. У гэты час змрок насунуўся на мансарду... Прыцемак, прабраўшыся, ахінуў усё навокал...

"Я напішу ў Амерыку, — сказаў Губерт, — яны павінны яшчэ раз пашукаць, колькі калорый было дастаткова Рэмбранту... — Ён занепакоена зірнуў на мяне — У мяне адчуванне непаўнавартасці, бо я не магу столькі працаваць, як раней... і я вычытаў у газеце, што пры нашай колькасці калорый нельга больш працаваць духоўна... у любым выпадку не два гады. Магчыма, гэтая надзвычайная навіна навукі так прынізіла, што я не магу больш маляваць."

Раптам ён ускочыў, як дзікун, з ложка, і пабег да мальберта, прымацаваў аркуш на дошцы і пачаў маляваць, нібы вар'ят... ён нанёс лёгкі накід... адчыніў акварэльныя фарбы, і пачалося: рэзкімі, смелымі мазкамі... адскокваў назад, каб паглядзець на зробленае. Скончыў невялікую карціну, якую я не мог бачыць, бо ў пакоі станавілася ўсё цямней... але праз імгненне ён павярнуўся да мяне і выпаліў: "Адкуль у цябе хлеб, сукін ты сын?"

"Вымяняў сваю пер'евую асадку, — адказаў я баязліва, — у аднаго амерыканскага салдата... тут — і я выцягнуў з кішэні два белыя стрыжні — кожнаму па цыгарэце".

Мы адклалі нашы люлькі і з вялікай асалодай зацягнуліся тытунём амерыканскіх цыгарэт!

Губерт з упэўненасцю працягваў маляваць далей... ён запаліў святло.

"Лепшае ва ўсёй Амерыцы... самае найлепшае, акрамя хлеба, яшчэ цыгарэты...", — дадаў ён з усмешкай.

**З нямецкай пераклаў**
**Арцём АРАШОНАК**

## ЛІТАРАТУРНАЯ УЗДЗЕНШЧЫНА

16 лістапада ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна адбылося сапраўднае вялікае Свята. У госці да мінчан завітала творчае літаратурнае аб'яднанне "Нёманец" з Узды са сваімі новымі творамі, дзе адбылася прэзентацыя кнігі кіраўніка літаратурнага аб'яднання "Нёманец" Віктара Сабалеўскага "Пра бабу Маню, дзеда Васіля і іншых" (сатыра, гумар, пераклады, інтэрпрэтацыі). Уступную прадмову да кнігі напісаў намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Эдуард Акулін.

Віктар Вацлававіч Сабалеўскі нарадзіўся ў 1961 годзе ў вёсцы Марозавічы Стаўбцоўскага раёна. Скончыў Рубяжэвіцкую СШ, факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у Стаўбцоўскай райгазеце "Прамень", цяпер — узначальвае калектыў уздзенскай газеты "Чырвоная Зорка". Член Саюза журналістаў Беларусі. Аўтар кніг паэзіі "Чабаровая паляна" (1994 г.) і "Абраніца" (1997 г.).

Свята доўжылася чатыры гадзіны, і людзі пасля яго заканчэння доўга не разыходзіліся. Выказвалася думка, каб такія творчыя сустрэчы-агледзіны літаб'яднанняў праводзіліся ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна найчасцей.

Віктар ЯГОРЧАНКА

## "НЁМАН" № 11

Выйшаў з друку чарговы нумар часопіса "Нёман". Раздзел паэзіі ў ім адкрываецца падборкай вершаў К. Камейшы "Тайны откровения". Публікацыя прымеркавана да 60-годдзя з дня нараджэння паэта. Пераклаў творы на рускую мову А. Стрыгалёў.

"Под небом Родины святой" — так называецца падборка вершаў А. Скарынкіна. Чакае аматараў высокага паэтычнага слова і сустрэча з нізкай санетаў паэта з Баранавіч М. Бусько. Вершы пераклаў Ф. Яфімаў. Ёсць у нумары і два паэтычныя дэбюты. Упершыню ў "Нёмане" друкуюцца М. Бардзыка з Мінска і Л. Мацюхін з Віцебска.

Проза ў часопісе прадстаўлена аповесцю В. Кадзетавай "Жертвы". У цэнтры ўвагі пісьменніцы — жахлівая сацыяльная праблема алкагалізм, тое, як гэтая страшная хвароба шкодзіць грамадству, атручвае людзям жыццё... Прапануецца таксама навела Н. Пракопчык "Мама Эроса" і заканчэнне аповесці Ф. Конева "Страстей обитель".

У рубрыцы «Время. Литература» змешчаны артыкулы Э. Скобелева «О новейших задачах художественной литературы» і М. Сердзюкова "Два романа эпохи перемен". Калі ў першым з іх размова ідзе аб агульных пытаннях і задачах сучаснага мастацкага слова, то ў другім увага акцэнтуецца на раманах А. Праханава "Господин Гексоген" і М. Герчыка "Оружие для убийцы". Як вядома, абодва творы (часопісныя варыянты) нядаўна надрукаваны ў "Нёмане".

У рубрыцы "Общество. Идеология. Государство" публікуецца артыкул юрыста з дзяржаўна-прававой спецыялізацыяй А. Власава "Идеология гражданского общества Республики Беларусь". Публіцыстыка прадстаўлена вострым, пабудаваным на канкрэтных фактах артыкулам Г. Сахарава "Малый бизнес как зеркало национальной идеи". Аўтар гэтага матэрыялу, беларускі прадпрымальнік, уздымае пытанні, звязаныя з малым бізнесам у Беларусі.

У рубрыцы «Искусство» чытачы прачытаюць артыкул В. Маслюкова "Звуки лиры и трубы, или Балет как формула чувства". Размова ў ім ідзе пра Беларускі тэатр балета, пра творчасць знакамітага В. Елізар'ева, яго калег і салістаў балета, якія дораць гледачам найвялікую асалоду, а беларускаму балету прыносяць сусветную славу.

Літаратуразнаўства і літаратурная крытыка прадстаўлены ў нумары (апрача згаданых ужо артыкулаў Э. Скобелева і М. Сердзюкова) артыкуламі доктара філасофскіх навук П. Каракі "А. П. Чехов — певец русской природы" і В. Макарэвіча "И обходя моря и земли". У апошнім разглядаецца творчасць паэта А. Лук'янава, вядомага палітычнага дзеяча СССР і Расіі. Змешчаны і артыкул Я. Каршукова "Дебют", у якім пісьменнік рэцэнзуе першыя паэтычныя зборнікі Я. Лайкова, Т. Сівец, В. Вабішчэвіча. Адзначаючы пэўныя мастацкія асаблівасці і вартасці твораў маладых аўтараў, Я. Каршукоў слушна згадвае словы К. Сіманава аб неабходнасці беражлівых адносін да твораў. Таму ў працяг гэтай важнай думкі варта зазначыць, што ўсе тры рэцэнзуемыя кнігі маладых паэтаў выдадзены дзякуючы Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва.

Міхась ПАЗНЯКОЎ

ВІНШУЕМ!

# ПАМЯЦЬ І БОЛЬ НАЛІБОЦКАЙ ПУШЧЫ

## КАЗІМІРУ КАМЕЙШУ — 60!

Калі «залатую валюту» родных бароў і гаёў перавесці на ўмоўныя адзінкі нечаканых метафар і алітэрацый, свежых эпітэтаў і іншых мастацкіх тропаў, то Налібоцкая пушча, далібог жа, па праве належыць аднаму толькі паэту Казіміру Камейшу. У каго верасовая палянка, у каго лапік чабору, а тут — цэлая пушча! Разам з казачнай прыгажосцю возера Кромань, песенным бацькам-Нёманам і недалёкай срэбразвоннай рэчкай Сулой. Сярод працавітых людзей налібоцкага краю: аратаяў, ганчароў, дрывасекаў і рыбакоў, у дзікіх пушчанскіх нетрах прабілася магутная крыніца паэзіі знакамітага беларускага творцы, сапраўднага мастака слова, менавіта на гэтых маляўнічых пагорках і нізінах пралегла ягоная галоўная жыццёвая вярста.

Усё тая ж Налібоцкая пушча смолкімі барамі ды цяністымі гаямі, быццам зялёнымі крыламі, з усіх бакоў атуліла прыгожую вёсачку Малыя Навікі, дзе ў галодны і халодны час, акурат у фашысцкую блакаду, на пачатку снежня 1943 года нарадзіўся равеснік вайны Казімір Камейша. Пройдзе, міне шмат балючых гадоў і нават дзесяцігоддзяў, пакуль паэт зразумее, "якім ён страшным быў, той страшны вораг".

*Шчымела сэрца, калі я гартаў*
*Далёкія паходныя старонкі.*
*Клубком агню кацілася вярста,*
*Ад выбухаў трашчалі перапонкі.*

*Клубок пякельны... Чую твой апёк,*
*Бяды маёй маланка шаравая.*
*Не, памяць анічога не хавае,*
*За памяццю услед ступае зрок.*

*Усюды чорны ды чырвоны снег.*
*Няўжо, няўжо ён быў калісьці белым?*
*Няўжо і я быў сам на той вайне?*
*Чаму і мне так страшна забалела?*

Зразумела, калі нічога "страшна не баліць", то і не трэба брацца за пяро. У лепшым выпадку ад халоднага сэрца вырасце зялёны і калючы куст ядлоўцу, які ніколі не дасягне вышыні стогадовай сасны. Працяты наскрозь людской "бяды маланкай шаравою", Казімір Камейша з першымі вершамі выступіў у друку досыць рана, будучы яшчэ школьнікам, а потым і студэнтам філфака Белдзяржуніверсітэта. Праўда, асабісты паэтычны зборнік давялося чакаць ці не восем гадоў, але ў далейшым выдавецкая ўдача і прыхільнасць крытыкі не абміналі самабытны налібоцка-пушчанскі талент. Сягоння яго паэтычны набытак даволі багаты: кнігі паэзіі "Восеньскія позвы", "Мембрана", "Нектар", "Тут мае вёсны прычалены", "Сябрына", "Плёс", "Галоўная вярста", "Пярэймы дня", "Кубак блакіту", "Я з пушчы" і іншыя. Некалькі зборнікаў вершаў паэт выдаў для дзяцей, а ў цэлым колькасць кніг набліжаецца ўжо да двух дзесяткаў.

Паэзія Казіміра Камейшы, як для дарослых, так і для дзетак-малалетак, вызначаецца пластычнасцю пісьма, незвычайнай вобразнасцю, свежасцю думкі і мастацкіх дэталяў. Звярніце ўвагу: нават самі назвы большасці ягоных кніг уяўляюць сабой яркую, свежую, незацяганую метафару. Возьмем, напрыклад, зборнік "Пярэймы дня", адзначаны Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова. Філасофія паэта тут вельмі чалавечная і жыццесцвярджальная, не адзін раз аздобленая ёмкім беларускім гумарам:

*Я на купіне сяду.*
*І гэта мой трон.*
*Будзе сонца паліць няшчадна.*
*І на гэтай пасадзе*
*Хопіць месца нам тром —*
*Прашчуру, мне і нашчадку.*

Творчасць уладальніка такога незвычайнага "трона" наогул не абмінута ўвагай беларускай грамадскасці, але ў чытацкіх колах надзвычай высока была ацэнена кніга паэзіі "Лінія лёсу", якая яшчэ ў 1996 годзе пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". Назва кнігі, вядома, нічога агульнага не мае з малаплённай варажбой па абрысах, складках, бугарках далоні. Прадказаць заўтрашні дзень, вызначыць у ім паводзіны і наканаванні нейкага канкрэтнага чалавека ўвогуле складана, але тым не менш хірамантыя, тое ж самае гаданне на руках, узнікшы стагоддзі таму, карыстаецца нязменным поспехам і ў наш дынамічна-электронны час.

Паэт, а тым болей паэт таленавіты, па абрысах сваіх далоняў не варожыць: у яго ёсць уражлівая, ранімая душа, здольная ўмомант адчуць уласны і чужы боль, адгукнуцца на чыюсьці гаркоту, заплакаць, засмяяцца ад шчасця і радасці, а іншы раз, што, зрэшты, здараецца не часта, напрарочыць і нешта апакаліпсічнае ў Богам дадзенай Айчыне. Усё гэта — жыццё, суровае, непрадказальнае, ды сапраўды ягоную сарцавіну, ці штрыхом, ці пункцірам, альбо наогул толькі вобразным уяўленнем, наскрозь працінае няроўная, вузлаватая лінія лёсу, дакладней — ход падзей, якія непадуладны волі і жаданню чалавека.

*На лініі лёсу майго*
*Вузлы ўсё часцей праступаюць,*
*Што сціснуты туга тугой*
*І мне, і нашчадку на памяць.*

*Яна — з каляін і кругоў,*
*Сам час яе раскаляініў.*
*На лініі лёсу майго*
*Так многа сплялося ліній.*

*Чыясьці вілася змяёй,*
*Чыясьці сцяжынкай у лузе.*
*Там нават і грэшнай тваёй*
*Завязаны гордзіеў вузел.*

Што яшчэ характэрна для гэтай цікавай і арыгінальнай кнігі? Па-ранейшаму ўсё тая ж яркая метафарычнасць, свежасць мастацкіх вобразаў, шматпланавасць, шырокі выбар тэм. Не абыходзячы вострых вуглоў сучаснага жыцця, аўтар засяроджвае ўвагу чытача на спрадвечных чалавечых каштоўнасцях: любові, дабрыні, высакароднасці. У "Лініі лёсу" закрануты самыя розныя пласты быцця і рэчаіснасці, беларускай гісторыі, як блізкай, так і далёкай. Крыху раней святую праўду сказаў паэт: "За памяццю ўслед ступае зрок", а паэтычны зрок у юбіляра сапраўды востры, нечаканы, мова сакавітая, жывая, самі вершы багатыя шчырым, непадробным пачуццём, арыгінальнымі мастацкімі знаходкамі. У зборніку шмат вершаў пра каханне, Казімір Камейша як сапраўдны патрыёт роднага краю стаў верным песняром Панямоння, роднай Налібоцкай пушчы. І гэта не дзіўна: іменна ж там з пустаты і нематы аднойчы выпстрыкнула ягоная лінія лёсу.

*Піў раніц рамонкавы ром*
*І слухаў галовы сівыя,*
*Трапляў у сіло гушчароў,*
*У кіпці яго сілавыя.*

*На лініі лёсу майго*
*Круцей і круцей павароты.*
*Гады не губляюць разгон,*
*Ляцяць не губляюць ахвоты.*

*Распальвае восень агонь*
*На ўсіх вечаровых паўстанках,*
*І хітра глядзіць на далонь,*
*Як некалі ў лузе, цыганка.*

Павароты жыцця сапраўды былі розныя — крутыя і не вельмі, але сёння паэт у самым росквіце творчых сіл, піша новыя вершы і паэмы, цікавыя, займальныя творы для дзяцей. І вось яшчэ адна характэрная дэталь: працуючы на адказных пасадах у часопісах "Полымя" і "Маладосць", будучы кіраўніком секцыі паэзіі Саюза беларускіх пісьменнікаў, ён асабіста выхаваў нямала, як кажуць, маладых дараванняў. Задоўга да таго павароту, дзе "распальвае восень агонь", Казімір Камейша ўвайшоў у дзесятак мацнейшых паэтаў Беларусі. Між тым лінія лёсу, яго галоўная вярста бяжыць, як і бегла, цераз родную Налібоцкую пушчу. Пералік вершаў і паэм, прысвечаных бацькоўскаму краю і напісаных мускулістым, каларытным радком, вядзецца, бадай што, на добрыя сотні, аднак і сярод іх ёсць адзін з самых першых, які з "Восеньскіх позваў" пераскочыў у падагульняючую кнігу ці, дакладней, у кнігу выбраных твораў "Я з пушчы":

*Лясы, знаёмыя паляны,*
*Барадамі звісае мох,*
*І трубіць зноў марозны ранак*
*У паляўнічы рог.*
*Я свой тут кожнае галінцы.*
*Мае тут дні і вечары.*
*Як на вясковай вечарынцы,*
*Завея кружыць да зары.*

Памяць не адзін раз вернецца ў "цішу знаёмых сосен і бяроз", калі рукою паэта напішуцца вось такія шчырыя аўтабіяграфічныя радкі: "Пацішэлі мае бары, пalыселі палянамі лесасек ды выжарын, хоць яшчэ ўсё шчодрыя на грыбы ды ягаду... З узгорка бачыцца далёка і святліста. А там, справа і ніжэй, усё яшчэ шуміць, зялёнымі хвалістымі аблокамі разбягаецца Налібоцкая пушча. Бяжыць і галоўная вярста лёсу, бяжыць з-пад мінскіх гмахаў, загібаецца за койданаўскім Крутагор'ем, потым яшчэ раз робіць калена ў Рубяжэвічах, агінае родную хату ў Малых Навіках і рассякаючы пушчу, знікае недзе там, ля возера Кромань!" Так, Казімір Камейша — цікавы, самабытны празаік. Для дзяцей ён выдаў зборнік апавяданняў "Духмянае дзіва", для дарослых працягвае пісаць даўно задуманую кнігу мініяцюр "Паміж кубкам і вуснамі", дзе сабраны крупінкі праўды — "часам горкія, часам вясёлыя, карацей тое, што бывае і ёсць у жыцці". Апошнія гады пісьменнік шмат друкаваўся ў часопісах "Полымя", "Маладосць", у штотыднёвіку "ЛіМ", займеўшы па ўсёй Беларусі тысячы прыхільнікаў сваёй таленавітай паэзіі. Што ж да вузлоў на лініі лёсу, то яны, ды і той самы "гордзіеў вузел", будуць праступаць часцей і часцей, бо ў дзяцей вайны, да якіх адносіцца і Казімір Камейша, жыццё не магло быць лёгкім і бясхмарным.

Віктар ГАРДЗЕЙ



На лецішчы. 1998 год.



В. Мыслівец, Ю. Свірка, М. Маляўка і К. Камейша. 70-я гады.

***Мяне, аўтара рамана "Кліч роднага звона" — твора-версіі пра пачатак утварэння ў XIII ст. на нашых землях Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ), — не магла не зацікавіць адна з інтрыгуючых публікацый у польскім часопісе "Polityka" (№ 39, 2002 г.) публікацыя да таго цікавая для нас, што, каб яе не было, то вазьмі ды выдумай, яна — надзвычай яркі аргумент у многіх былых і сённяшніх спрэчках наконт ВКЛ. Але нічога выдумляць не трэба, тым больш, што апанентны бок прызнаў тое, што некаторыя нашы даследчыкі сцвярджалі яшчэ да XIX ст...***

# ГІСТОРЫЯ НІ Ў ЧЫМ НЕВІНАВАТАЯ...

Але, як кажуць, па чарзе і спакойна. Аўтар апублікаванага матэрыялу — прафесар інстытута гісторыі ПАН П. Ласоўскі. Ён напісаў шмат гістарычных прац, у тым ліку і пра польска-літоўскія варункі на працягу многіх стагоддзяў. Адлаведна, дасведчаны ў гэтай справе і пра беларускія нюансы, але ў новай публікацыі калі і ўзгадвае іх, то толькі ўскосным чынам.

Публікацыя, сапраўды, інтрыгуючая ўжо з загалоўка: "Ягайла не ёсць ужо здрайца" (тут і далей пераклад з польскай мовы мой. — **Г. Д.**). Нельга не зацікавіцца: а каму ж Ягайла здраджваў ці, наадварот, убярогся ад такой заганы?

Аказваецца (чаго я дагэтуль не ведаў), у 1930 годзе ў Літве, у той, як пісалі ў савецкі час, у буржуазнай, адбыўся сімвалічны суд, дзе Ягайлу абвінавацілі за Крэўскую унію, за правядзенне прапольскай, антылітоўскай палітыкі, з-за чаго, маўляў, Літва пацярпела ад Польшчы — тады ў памяці яшчэ быў свежы польска-літоўскі канфлікт 1918—1920 гадоў, саднеў боль па страчанай, занятай палякамі Вільні. Вось Ягайлу дасталося за апошняе, як за цяжкае наступства ягонай дзейнасці ў XIV—XV стагоддзях.

Нам, беларусам, аніяк не староннеяе тое, што і як рабілася ў ВКЛ да Ягайлы і пасля яго: і нашы ж продкі непасрэдна ўтваралі тую дзяржаву, што пазней стала адной з буйнейшых у Еўропе і якая дала Еўропе адну з першых Канстытуцый — Статут. Ды ў нас і сёння (з-за застарэлых фальсіфікацый і іншых прычын) у падручніках па гісторыі не сцверджана пэўная думка пра ВКЛ, пра вышэйпамянёны акт Ягайлы, у выніку чаго люд ВКЛ і Польшчы знайшоў паратунак найперш ад крыжакоў, ад Залатой Арды, пачаў будаваць тагачасную саюзную дзяржаву, на чале якой з 1386 года станавіўся наш зямляк і быў уладаром да 1434-га (48 гадоў, да сваёй смерці ў глыбокай старасці!). Зразумела, не ўсе князі, феадалы адобрылі Крэўскую унію і пазнейшыя акты пры яго жыцці. Асабліва ярым праціўнікам быў яго стрыечны брат Вітаўт, які не толькі дабіваўся і дабіўся сваёй улады над ВКЛ, але і самастойнасці краіны са сваімі казной, войскам, са сваім судовым і ўпраўленчым апаратам, са сваёй палітыкай урэшце.

Вышэйзгаданы суд 1930 года і прызнаў яго, Вітаўта, героем літоўскага народа, які, адзначылі, неймавернымі намаганнямі, стратамі і ўласнымі ахвярамі супрацьстаяў паланізацыі і быў блізкі, да таго, каб у 1430 годзе стаць каралём ВКЛ і цалкам анезалежніць яго. Але асвечаную ў Рыме карону перахапілі па дарозе і пагвалціліся над ёю.

Наконт Ягайлы, трэба прызнацца дасведчанаму і дылетанту, сапраўды, было, ёсць і будзе нямала загадак, пытанняў і спрэчак. Ужо з-за таго таксама, што ён неардынарнае ўчыніў. У паводзінах, учынках вялікіх людзей — ды яшчэ ва ўзаемадачыненні з іншымі дзяржавамі, калі не на кантыненце, то ў рэгіёне — было, ёсць і будзе шмат за што ўхваляць ці зганіць. Уладары не заўсёды вызначалі сваю палітыку, яшчэ далёка да Ягайлы і Вітаўта, многіх польскіх каралёў і маскоўскіх вялікіх князёў палітыка ўжо вырашалася ў вузкім коле, пошаптам і змовай. Хоць і раней такое было.

У прынцыпе ў зводзе "Летапіс вялікіх князёў літоўскіх", у "Хроніцы Быхаўца" патлумачана, чаму і як Ягайла стаў польскім каралём. Ягоны магутны бацька ў цесным саюзе з магутным братам Кейстутам, як два раўнапраўныя вялікія князі ВКЛ, годна працягвалі справу папярэднікаў, надзвычай мудра падзялялі ўладу і свае абавязкі па захаванні, умацаванні ВКЛ; Альгерд адным з першых на усходнеславянскіх абшарах у 1362 годзе разграміў вялікія сілы Залатой Арды, намагаўся аслабіць Маскоўскае княства, хадзіў на яго паходамі, сілай і дамовамі павялічыў ВКЛ удвая і пакінуў у спадчыну не разбітае карыта, а, як казалася ўжо, адну з самых буйных краін у Еўропе (ясна, усе грахі яму даруюцца, як і ягонаму брату Кейстуту); Альгердаў сын, Ягайла, быў па законе не самы першы на пасад вялікага князя ВКЛ, але стаўшы ім, павёў новы вектар палітыкі — задыпламатнічаў з нядаўнімі ворагамі — татарамі, крыжакамі (з апошнімі заключыў сепаратныя дагаворы, ахвяраваў ім Жмудзь — частку сённяшняй Літвы, чым, такім ахвяраваннем, карысталіся і да яго) — і скіраваў позірк на Польшчу. Вялікіх войнаў, нават бітваў не адбылося, але яе нападам даў рашучы адпор, а пасля сам рушыў туды, лёгка перайшоў Віслу і меў сілы пайсці далей. Як кажуць, сядзеў на кані і з-пад рукі пазіраў углыб. Ва ўмовах, калі навісла пагроза ад саюзнікаў-суседзяў (канечне, часовых) — нашы заходнія суседзі ва ўмовах бескаралеўя замітусіліся, а то, можа, і разгубіліся. У выніку звыклых у такіх выпадках спрэчак прыйшлі да згоды — шукаць паратунку, падмогі ў Ягайлы — балазе, ён у свае сталыя ўжо гады быў халасцяк. Дасюляшняму пасягальніку на польскую карону, сыну аўстрыйскага караля, выплацілі водкуп: дзякуй, што прыбыў да нас, але выбачай, цяпер патрэбен не ты, еўрапейскі арыстакрат, а ўсходні варвар! Можа, яму і не казалі, што такім ходам трэба найперш разарваць небяспечны саюз Ягайлы і крыжакоў.

Польская каралеўна Ядвіга (дарэчы, не дачка караля польскага, як і цяпер пішуць у беларускіх энцыклапедыях, а вугорскага — венгерскага), як запісана ў летапісах, са слязьмі ў адны вароты праводзіла шыкоўнага малойца, а ў другія гарадскія паехала сустракаць ці не ўдвая старэйшага пушчанца з усходу! Ягайла мірна ўехаў у польскую сталіцу, сеў на польскі трон і размаўляў на тагачаснай беларускай мове.

Несумненна, быў тэкст пагаднення паміж Ягайлам і польскімі феадаламі, святарамі. Каб яно было цяпер ва ўжытку, то шматлікія загадкі, пытанні адпалі б самі па сабе, мы глыбей і праўдзівей ведалі б: хто і якія мэты меў на ўвазе. Відаць, польскаму боку было не зусім выгадна захоўваць, усім паказваць той складзены ў дыскусіях тэкст. Пазнейшыя "ўстаўкі", тлумачэнні іх, выбачайце, выклікаюць сумненне. Часамі нават з-за здаровай, цвярозай чалавечапісьменніцкай развагі: магутны Ягайла падаўся ў Польшчу... з-за найміцтва, службы? Вы — што? М. Ермаловіч выказаў іншыя думкі наконт Ягайлавага лёсаноснага ўчынку: саюзам з Польшчай ён ратаваў славянскасць у яе блізкім анклаве, а як мудры палітык, палкаводзец, разлічваў з цягам часу падпарадкаваць Польшчу, дзеля чаго часамі і ішоў на ўступкі (каталіцызм і іншае), дзеля чаго шмат зведаў, выцерпеў нападаў з усіх бакоў (падыгрываў польскаму боку — успыхвала незадавальненне ў ВКЛ, падтрымліваў ВКЛ — негадаваў Кракаў). Назіркі адно за адным працягваліся стагоддзі, хоць польскі бок саступіў вяршэнства ў ВКЛ Вітаўту і паабяцаў не ўмешвацца ў ягоныя палітыка-дзяржаўныя справы. Можа, тое было і зусім іначай, асабліва пасля перамогі войскаў Ягайлы і Вітаўта над крыжакамі ў 1410 годзе, калі тыя, крыжакі, ужо сур'ёзна не маглі пагражаць ім і Вялікаму Ноўгараду, Пскову, маладой Маскоўскай Русі. Пачаўся перыяд іншай палітыкі, у тым ліку і сярод самых блізкіх суседзяў-саюзнікаў і сапернікаў; яе, тую палітыку, пазней А. Пушкін акрэсліць "домашним спором" славян, але гэтая "хатняя" сутычка была жорсткая з усіх бакоў: вырашалася, хто будзе верхаводны, а хто залежны. Нашы продкі не жадалі быць некаму "крэсамі", ці "ветвью", хацелі быць самімі сабою і не пазбягалі, як казалася ўжо ў сувязі з Альгердам, хадзіць у баявыя паходы — прасцей, заваёўваць суседнія ўсходнія і паўднёвыя землі. Як і ўсе, дзе з мячом, а дзе з пернікам, скажам, шукалі там саюзнікаў, тыя ж Цвер, Разань ды і Вялікі Ноўгарад, што не хацелі траціць сваю самастойнасць і быць правінцыяй у новай цэнтралізаванай дзяржаве. Але ёсць і яркія прыклады высакародных адносін паміж ВКЛ і Маскоўскім вялікім княствам: у 1380 годзе Ягайла, тады яшчэ вялікі князь ВКЛ, саюзнік Мамая, не напаў у Кулікоўскай бітве на Д. Данскога, які (з братамі Ягайлы) атрымаў перамогу, але знямогся, а ў 1410-м Масковія не пакарысталася момантам, не напала на Ягайлу і Вітаўта, якія таксама былі пераможцы вельмі дарагой цаною.

Пасля Грунвальдскай бітвы аўтарытэт Вітаўта ў Еўропе вельмі ўзрос (яго нават запрашалі на каралеўства ў Чэхію), але ён ужо не задавальняўся сваім пажыццёвым княжаннем; ён пачаў распрацоўваць план акаралеўлівання ВКЛ, каб тут вярхоўная ўлада перадавалася карэнным і каб ставіць галоўную стаўку не толькі на розныя уніі (саюзы), што не толькі ратуюць, але і падначальваюць. Не выйшла. Ад няспраўджаных надзей Вітаўта-чалавека скасіла смерць, а лёс ВКЛ завагаўся, пачаў выпрабоўвацца ў цісках з розных бакоў, у войнах у 1500—1503, 1507—1508, 1512—1522, 1534—1537 гадах і, мабыць, асабліва разбуральназнішчальна ў Лівонскай вайне 1583—1588 гадоў. Аслабелае ад няспынных войнаў, разрухаў, ад пагрозаў з поўдня, ад Крымскага ханства, ВКЛ мусіла пайсці на цяснейшы саюз з Польшчай і пасля доўгіх перамоў, спрэчак, саступак заключыла з ёю ў 1569 г. Люблінскую унію, па якой яно (Княства ці Літва) і Польшча (Карона) аб'ядноўваліся ў Рэч Паспалітую — не ў "Вельку Польску", а ў федэратыўнай дзяржаве, дзе абодва бакі захавалі сваю адміністрацыю, казну, армію, свае законы і судовы апарат і да 1766-га сваю мытную сістэму. Кожная з іх мела сваю дзяржаўную мову: Польшча — лацінскую (за гэта яе нават некаторыя палякі называлі, мякка кажучы, заложніцай Рыма), ВКЛ — тагачасную беларускую, з 1696-га пасля яе забароны — польскую, што (апошняе) бясспрэчна, было своеасаблівым паражэннем. І Рэч Паспалітая не вытрымала супрацьстаяння з іншымі краінамі, найперш з Расійскай імперыяй, напрыканцы XVIII стагоддзя была падзеленая, і беларускія землі трапілі пад скіпетр Кацярыны II як "исконно русские", дзе ўжо з 1772 года па ўказе царыцы "все дела" трэба было "производить на российском языке", а пазней, у 1840-ым, сама назва Беларусь, беларуская мова будуць забароненыя, увойдуць у сілу распрацаваныя Мураўёвым меры па далейшай няспыннай русіфікацыі Паўночна-Заходняга краю (гэта пры тым, што пасля Люблінскай уніі, перажываючы націск польскіх кіруючых колаў па ўсіх накірунках (моўным, рэлігійным, тэрытарыяльным), значныя сілы ў ВКЛ самі падаліся да суседніх цароў, шукаючы ў іх паратунку). Зусім невыпадкова пасля развалу Расійскай імперыі ў выніку першай сусветнай вайны і рэвалюцый у Петраградзе "хатняя" спрэчка славян не толькі прадоўжылася, але і ўспыхнула з новай сілай. Найперш з-за накопленай несправядлівасці, з-за прагі волі, самастойнасці, развіцця, а не знікнення. Паўстала з небыцця Літва, што некалі была Аўкштайцыяй і Жмуддзю, у форме УССР і БССР здолелі рэалізавацца ўкраінцы і беларусы з прадстаўнікамі іншых народнасцей, сцвердзілася Рэч Паспалітая са значнай часткай украінскіх, беларускіх і літоўскіх зямель. Але яна не шмат выйграла, калі яе новыя кіраўнікі спачатку абяцалі нацменшасцям нацыянальна-культурна-рэлігійнае развіццё, неўзабаве разгарнулі шырокую паланізацыю. Калі ў 1939-ым адбыўся новы перагрус, перадзел у Еўропе, то не ўсе ўкраінцы, беларусы і літоўцы засмуціліся, што зноў не стала "Вялікай Польскі", у выніку гэтага яны злучаліся са сваімі братамі, маглі разам і ва ўмовах таталітарызму больш зрабіць для сваёй Бацькаўшчыны, для самазахавання. І пасля распаду СССР працэс пайшоў у такім накірунку. І нічога дзіўнага ды страшнага тут для здаровага розуму, высакароднага сэрца няма: як пісаў Ф. Дастаеўскі, нацыянальнае — не нечая прыдумка, а дадзена Богам, перадаецца з роду ў род, з памяці ў памяць, з душы ў душу, таму для свядомага чалавека гэта было, ёсць і будзе вялікім дарам і багаццем, наказам для нашчадкаў.

Ды — пра... Ягайлу. Чаму ён цяпер, зрабіўшы ці, наадварот, не споўніўшы сваё больш чым 560 гадоў таму, ужо не здраднік для ўсіх ці некаторых сённяшніх літоўцаў?

Названы на пачатку артыкула польскі вучоны П. Ласоўскі зазначае, што ў Літве погляд на Ягайлу пачаў мяняцца пасля 1989-га, калі Прыбалтыка законна, мірна вярнула сабе былую дзяржаўнасць. Спачатку, падкрэсліваецца, у многіх новых публікацыях гісторыкаў, літаратараў (называюцца іхнія імёны) пачалі ламаць "стэрэатыпы" — мяняць інтанацыю пра сэнс Крэўскай уніі, разбураць арэол Вітаўта, усталёўваць думку, што абодва стрыечныя браты, Ягайла і Вітаўт, былі не столькі сапернікамі, колькі саюзнікамі, што палякі "не адвечныя ворагі Літвы". Далей П. Ласоўскі асаблівую ўвагу засяроджвае на "opinie" (поглядзе) М. Юцаса "Унія Літвы і Польшчы ад паловы XIV ст. да пачатку XIX ст." Згодна з гэтай працай літоўскага даследчыка, як можна зразумець, Ягайлаву справу цяпер трэба пераацаніць, разглядаць як "рацыянальную і перспектыўную". "З пункту гледжання інтарэсаў дзяржавы і народа літоўскага".

І вось уласна тое, што і натхніла напісаць гэтае слова: "Зблізіў ён (Ягайла. — **Г. Д.**) Літву праз Польшчу з Захадам, узмацніў абарону Літвы ад экспансіі нямецкай на захадзе і **ахаваў ад згубнай перавагі элемента рускага ў жыцці дзяржаўным і культурным**".

Апошняя частка сказа выдзелена мною. Безагаворачная ўхвала Ягайлы за "збліжэнне Літвы праз Польшчу з Захадам" — безумоўна ж, "рацыянальная і перспектыўная" даніна сённяшнім еўрапейскім, посткамуністычным рэаліям, адкрытая арыентацыя на НАТА і г. д. Няма ніякага намеру з гэтым спрачацца, аўтар мае права на свой асабісты погляд. Але вось на падкрэсленае ў ягонай заключнай думцы давайце звернем большую ўвагу.

Што гэта азначае? "Перавага элемента рускага ў жыцці дзяржаўным і культурным?" Ды тое, што літоўскі гісторык сам прызнаў, тое, чаго яшчэ многія не прызнаюць у нас. Той "рускі" (славянскі) элемент, з чым згодны, бадай, усе, у ВКЛ у асноўным складаўся на нашых беларускіх землях, якія ў складак новай дзяржавы прынеслі сваю высакаразвітую навуку, культуру, эканоміку, дзяржаўную мову, мелі перавагу. Значыць, не былі другарадныя, залежныя, як сцвярджалася і яшчэ сцвярджаецца сёння, а фармавалі ВКЛ на свой лад. А што да той нашай "згубнасці" для тагачасных Аўкштайціі і Жмудзі, то тут не столькі ісціна, колькі эмоцыі і, яшчэ раз паўторым, сённяшнія "рацыянальнасць і перспектыўнасць", бо тады, здаецца, на гэтай глебе сутычак паміж беларусамі і літоўцамі не было. Як і пазней. Як не павінна быць і сёння.

П. Ласоўскі адзначае, што цяпер многія літоўскія даследчыкі станоўча ацэньваюць і Люблінскую унію 1569 года як унікальную, трывалую, моцную "model państwa" — мадэль дзяржавы. З гэтым поглядам можна і трэба спрачацца: тая мадэль вельмі ж урэзала абсягі, моц, развіццё ВКЛ, выклікала зацяжны канфлікт паміж Польшчай і Украінай і г. д. Яшчэ польскі вучоны па-свойму разглядвае клопат "сваіх" і "чужых" у сённяшняй Літве, але гэта ўжо іншая рэч. Яна патрабуе асобнай дасведчанай гаворкі. Я сканцэнтраваў увагу на тым, што ў нас яшчэ падкрэслівалася ў XIX ст., а цяпер вось паўтарыў-пацвердзіў літоўскі гісторык, за што мы павінны быць яму ўдзячныя. А што да ролі Ягайлы і Вітаўта для нашых і іншых народаў, то яна была і застаецца вялікай і неацэннай...

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

**Historia**

## Jagiełło nie jest już zdrajcą

W 1930 r. odbył się na Litwie symboliczny sąd nad królem Jagiełłą. Oskarżono go o przyłączenie Litwy do Polski i utratę Wilna. Społeczny oskarżyciel zażądał dla Jagiełły najwyższej kary i skreślenia go z historii Litwy. Jagielle przeciwstawiono postać Witolda jako bohaterskiego, pozytywnego władcy



PIOTR ŁOSSOWSKI

W stosunkach polsko-litewskich zawsze wielką rolę odgrywały odniesienia do historii. Nie może to dziwić – przez kilka wieków losy Polski i Litwy

sobie błyskotliwością i dowcipem: „Pamiętam, jak w czasach świętej pamięci socjalizmu społeczeństwo litewskie wzburzył film »Krzyżacy«. Litwini bowiem byli tam ukazani jako odważne, lecz półnagie, okryte skórami zwierząt dzikusy (...). Gniewało to, że w filmie pomniejszono rolę Witolda, a za

# ЮБІЛЕЙ СВЯТОГО ХРАМА

**25 кастрычніка г. г. у Камайскім касцёле ладзілася вялікае набажэнства — урачыстая імша з нагоды 400-гадовага юбілею святога храма. Пра Камайскі**






**касцёл у энцыклапедычным даведніку "Беларусь" (1995 г.) ёсць наступныя звесткі: "Камайскі касцёл, помнік архітэктуры пачатку XVII—XVIII ст. Пабудаваны ў 1603—1606 гадах у вёсцы Камаі (Пастаўскі раён). Спалучае прыёмы і формы абарончага дойлідства, архітэктуры готыкі і рэнесансу. У 1778 годзе прыбудавана капліца. Касцёл — двухвежавы, квадратны ў плане храм з вялікай паўцыркульнай апсідай і сакрысціяй, накрыты 2-схільным дахам, які над апсідай пераходзіць у конусападобны. Галоўны фасад асноўнага аб'ёму завершаны трохвугольным шчытом. У інтэр'еры скляпенні размаляваны арнаментамі ў тэхніцы грызайль. Зберагліся арган, 4 разныя драўляныя алтары".**

**У юбілейных урачыстасцях прынялі ўдзел пасол рымскага Папы арцыбіскуп Ян Юркавіч, біскуп з польскага горада Сандаміра Анджэй Дзеньга, кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі біскуп Уладзіслаў Блін, прадстаўнік праваслаўнай царквы айцец Аляксандр Шымбалёў (мінскі Свята-Духавы сабор), прадстаўнікі раённай і мясцовай улад, кіраўнікі сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў, інтэлігенцыя. Усяго ж у Камаі ў сувязі з юбілейнай датай касцёла прыбыло каля 80 ксяндзоў і 50 манашак (законных сясцёр) з Віцебскай дыяцэзіі.**

**Чатыры стагоддзі служыць людзям касцёл святога Яна Хрысціцеля ў Камаях — адзін з самых старажытных храмаў у Беларусі. Ён ніколі не прыпыняў сваёй дзейнасці. Сюды спяшаліся тыя, хто імкнуўся ачысціць душу, паспавядацца і прыняць Хрыста да сэрца. Уражвае і тое, што святыня на працягу чатырох вякоў захавала сваю гістарычную аснову.**

**Дзякуючы ксяндзу-пробашчу Камайскага касцёла, Яцэку Хутману выканана шмат работы па рамонце і рэстаўрацыі святога храма. Гэтая работа, дарэчы, выканана польскімі рабочымі, прытым на высокім, сапраўды еўрапейскім узроўні. Дапамогу ў гэтай важнай справе аказалі Пастаўскі райвыканкам, старшыня СВК "Камайскі" Б. Шылько, ляснічы Камайскага лясніцтва В. Гарбуль.**

**Летам пры Камайскім касцёле працуе аздараўленчы лагер, у якім штогод адпачываюць і праводзяць канікулы з Богам дзеці з гомельскіх парафій.**

**У Польшчы на адным з прадпрыемстваў адліваецца звон вагой у 600 кілаграмаў для Камайскага касцёла. На ім будзе выява рымскага Папы Яна Паўла II і рэльефны надпіс (на польскай і беларускай мовах): "Гэты звон адліты ў знак 400-годдзя касцёла св. Яна Хрысціцеля. 1603—1606 гг." Меркавалася сёлета даставіць звон з Польшчы ў Камаі. Але работы па яго вырабе зацягнуліся. Звон будзе ўстаноўлены на левай вежы касцёла ў 2004 годзе.**

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

ДАТЫ

***Сёння, 5 снежня выдатнаму рускаму паэту Фёдару Цютчаву споўнілася 200 гадоў з дня нараджэння. Прапануем увазе чытачоў вершы Ф. Цютчава ў перакладзе на беларускую мову.***

**Фёдар ЦЮТЧАЎ**



•

*Яркі снег, што ззяў на доле,*
*Зноў растаў і адышоў,*
*Як адыдзе злак міжволі,*
*Што блішчыць*
*сярод палёў.*

*Ды які там век бялее*
*На вяршынях снегавых?*
*А зара і зараз сее*
*Ружы свежыя на іх!*

•

*Ёсць хвілі першапачатковай*
*Бясконца дзіўнай*
*восеньскай пары —*
*І дзень нібыта крышталёвы,*
*І залатыя вечары.*

*Дзе рупны серп гуляў*
*і падаў колас —*
*Там пуста ўсё,*
*прастора ў тумане.*
*І павуціны тонкі волас*
*Здалёк блішчыць на баразне.*

*Пусцее лес,*
*не бачна птушак болей,*
*Яшчэ далёка сіверныя дні,*
*І льецца сінь,*
*як водбліск цеплыні*
*На затуманенае поле.*

•

*Стаю на беразе Нявы*
*І зноў, як у гады былыя,*
*Гляджу,*
*нібыта я жывы,*
*На хвалі гэтыя нямыя.*

*Няма ні іскры ў сіняве,*
*Як быццам сціхла*
*ўсё ў чаканні,*
*І толькі з плынню*
*па Няве*
*Струменіць месячнае ззянне.*

*Ці гэта сон апошні мой*
*Ці не, ды гэтак і тады я*
*Глядзеў пры месяцы*
*з табой,*
*Як мы былі яшчэ жывыя.*

**Пераклаў Яўген МІКЛАШЭЎСКІ**

## НЁМАН

*Ці гэта, Нёман, ты, рухавы?*
*Ці твой струмень паміж травы?*
*Ты столькі год, з такою славай*
*Расіі верны вартавы...*
*Ты супастата нам падаў —*
*І ўсё-ткі нашага парога*
*Ты непарушнасць захаваў.*

*Ці помніш ты былое, Нёман?*
*Той дзень, авеяны журбой,*
*Калі стаяў Ён над табой,*
*З пранонсам чуў ты яго гоман.*
*І ты, як сёння, порстка бег,*
*Бурліў пад цёмнымі мастамі,*
*І лашчыў Ён тады цябе*
*Сваімі дзіўнымі вачамі...*

*Наперад вёў свае палкі,*
*Харугвы весела шумелі,*
*На сонцы бліскалі штыкі,*
*Гарматы, быццам гром,*
*грымелі —*
*І ў вышыні, як нейкі Бог,*
*Лунаў Ён днямі і начамі,*
*Глядзеў удаль, усіх бярог*
*Сваімі дзіўнымі вачамі...*

*Ды толькі аднаго не знаў,*
*Не да канца Ён ведаў сутнасць,*
*Што там, на беразе насупраць,*
*Стаяў Другі — стаяў, чакаў...*

*Ішла наперад войска раць —*
*Скрозь грозна-баявыя твары,*
*Яны былі яго ахвяры,*
*Не зналі, з кім ім ваяваць!..*

*Ішлі з надзеяю палкі,*
*Харугвы ў небе шлях прасілі,*
*Маланкай бліскалі штыкі,*
*І барабаны гучна білі...*
*Ваякаў безліч тут было...*
*Але пасля ў зваротным гуле*
*Ці хоць дзесятае чало*
*Кляйма ганебнага мінула?..*

**1853 г.**

**Пераклаў Яўген ХВАЛЕЙ**

# ДАРОГА ДА СЯБРА

**(Працяг. Пачатак на стар.9)**

можа плакаць, як дзіця. Ведаю сам па сабе...

Тут якраз прыйшла з працы Драгунова Інеса, падазрона агледзела нас, павіталася і трохі іранічна спыталася ў мужа, чаму ён яе не паклікаў.

— Дык мы нядаўна пачалі, — заўсміхаўся Драгун. — Вось бачыш, — паказаў на пляшку, якая была яшчэ толькі пачата. — Далучайся, просім, — і падміргнуў мне.

Жонка крутнула галавою, усміхнулася сама сабе і пайшла па нейкіх сваіх справах. Была яна сярэдняга росту, мажная, трохі павольная. Адзінае, чаго ёй бракавала, як я лічыў, дык гэта тое, што мала ўсміхалася. А мо мужу яна і ўсміхалася, хто ведае?

Драгун, паглядзеўшы, што жонка не хоча далучацца да іх кампаніі, сказаў:

— Ну, а мы працягнем... І пацягнем. Давай па адной. А то кабета падумае, што мы слабакі, не можам аднае пляшкі на дваіх адолець... — І гаспадар напоўніў чаркі, узняў сваю. — Дык за неба, каб яно не пуставала! Каб у ім лёталі птушкі і самалёты!

— Вельмі добры тост! Згодзен, — падхапіў я.

Цікава, што мы, не згаворваючыся, пілі па поўнай. Такое са мною здаралася рэдка. Але сёння быў нейкі лёгкі дзень: чарка ляцела ў рот дробнаю пташачкаю. Выпілі, пачалі закусваць. Я пакаштаваў качкі: смачная, нічога не скажаш!

— Будзем есці качку, а ты расказвай, — папрасіў Драгуна. — Цікава, што было далей.

Драгун прыгладзіў валасы, якія спадалі яму на лоб, пачаў зноў:

— Ну, мы чакалі з нецярпеннем, калі сядзем у самалёт, хоць бы з інструктарам. І тут час надышоў. Мы адзін за адным узніміліся ў неба, выраблялі там розныя штучкі — не мы, праўда, а інструктары, нас ледзь не выкідвала з кабіны, але мы не прызнаваліся, што страшна... Ну вось... Праходзіць месяц, другі... Як раптам мяне выклікаюць у штаб вучылішча. Што такое, чаго? Мне ўручаюць нейкі засургучаны пакет — з адрасам той часці, у якой служыў. Камандзіроўка? "Не, Драгун, вы звальняецеся з вучылішча". Я вушам не паверыў: чаму, якая прычына? Нічога не кажуць. "Не ведаем, вам там паведамяць", — адзін адказ. Забраў я свой рукзак і паехаў. Усю дарогу плакаў па начах, каб ніхто не бачыў. Так душа балела, што воўкам выць хацелася. Галоўнае — не ведаю прычыны. А потым дайшло: мой жа бацька ў вайну, пад акупацыяй, быў солтысам, гэтую сабачую пасаду давалі па чарзе, яму давялося быць апошнім... Ужо ў часці, як здаў засургучаныя дакументы, мне сказалі, што мой бацька арыштаваны за супрацоўніцтва з акупацыйным рэжымам. Вось цяпер мне стала ясна. Я падумаў, што мяне зараз жа адправяць дадому — сын ледзь не ворага народа! Ажно не, служыў і далей на Эзэлі. Ведаеш, ёсць два вялікія астравы на эстонскім узбярэжжы — Эззэль і Дага.

— А яшчэ — Саарэма і Хіума, — дадаў я.

— Правільна. Гэта іх мясцовая назва. Вось на гэтым Эззэлі-Саарэме і размяшчаўся вялізны аэрадром, там мне і давялося служыць некалькі гадоў. Пазіраў, як узлятаюць, як садзяцца самалёты, зайздросціў у душы тым хлопцам, што сядзелі там за штурвалам... Сніў нават, што лётаю... А колькі разбівалася самалётаў — пры ўзлёце, асабліва пры пасадцы... Тады думаў: добра, што не лётаю, а так бы мог... Але гэта турбавала не доўга, усё роўна неба цягнула... Тады мы пераходзілі на рэактыўную тэхніку, было цяжка — вялікія хуткасці, непамерная рызыка. Памятаеш Бахчыванджы, які першы асвоіў рэактыўны і загінуў? Гінула шмат. Але што зробіш? Новае заўсёды даецца нялёгка... Так вось і даслужыў, задраўшы галаву ў неба — калі вобразна сказаць...

Драгун замоўк, задумаўся, пазіраючы ў акно. На дварэ, мне здалося, ужо сутонела. Нічога сабе засядзеліся!

— Ну, дык дзякую за прыём, дарагі сябра. За апавяданне, якое можна разгарнуць у аповесць, — сказаў я Драгуну. — Трэба брацца дадому.

Драгун як ачнуўся. Працёр вочы, зварухнуў плячыма.

— А й праўда, ужо шарэ. То давай аглаблёвую — ды па конях, — падахвоціў ён і выліў апошнія запасы з пляшкі.

Мы выпілі аглаблёвую, трохі прыкусілі. А Драгун нібы падвёў вынік усяму сказанаму — і як бы ўсяму свайму жыццю:

— Вось так, браце... Не стаў я мастаком. Па чыёй віне — не ведаю. Мо што час быў такі... Не стаў лётчыкам. Па чыёй віне? Зноў на час спіхнуць-звярнуць? Думаю, што не час вінаваты, а людзі... Затое я быў настаўнікам фізкультуры. Ужо, з вышыні свайго ўзросту, магу прызнаць, што быў нядрэнным настаўнікам. Ты ж сам ведаеш, як у школе адносіцца да фізкультуры. Абы-як! А ў мяне вучні фізкультуру любілі, ішлі ахвотна на ўрок. Галоўнае, стараліся зрабіць тое, што я ім паказваў. А я мог паказаць, ты гэта ведаеш. Яшчэ і цяпер магу... Але хай... Яны стараліся, хоць і не маглі гэтак, як я. А гэта ўжо добра... Так што не лічу сябе нейкім там пакрыўджаным у жыцці... Мог бы зрабіць і больш, і лепш, каб не... Каб не нештачка... Як і кожны з нас. Мо не так, дружа? Вось ты... Ці ўсё ты зрабіў — тое, што мог? Што павінен быў зрабіць?

— Можа, палавінку... І то меншую....

— Палавінак не бывае большых і меншых, — не згадзіўся Драгун.

— А вось і бывае! Давай гэты бохан хлеба разрэжам на дзве паловы. Адна можа стацца большай, другая — меншай. Тэарэтычна палавіны павінны быць роўнымі, а практычна — адна большая, другая — меншая. Памятаеш, як гаварыў стары Каліна Іванавіч з "Педагагічнай паэмы" Макаранкі? "Теорехтически она лошадь, а прахтически она падает".

— Хай будзе па-твойму. Але хто за нас наша даробіць?

— Нашы дзеці... Унукі ўрэшце...

— Дык яны так і будуць даробліваць недаробленае намі? А сваё калі?

— Па начах... Хай менш спяць, — параіў я жартам.

— Ну, парады даваць лягчэй за ўсё... Але мне здаецца, трэба яшчэ па чарцы.

— Дык мы ж выпілі аглаблёвую. Усё! Даволі! Па конях!

Я ўстаў, рушыў да дзвярэй цяжкаватым крокам. Драгун — за мною следам.

На цагляным ганку абняліся, пацалаваліся, як родныя браты перад ростанню, я ўзяў свой ровар, які стаяў пры сцяне ве-

ДАНІНА ПАВАГІ

# АСОБА. ТВОРЦА. НАСТАЎНІК

Трыццатая "Беларуская музычная восень", прысвечаная 70-годдзю Саюза кампазітараў, у сталіцы пачалася з канцэрта-мемарыяла. 20 лістапада ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета гучалі творы народнага артыста краіны, лаўрэата Дзяржаўных прэмій, патрыярха айчыннай кампазітарскай школы Анатоля Багатырова.

Праграму падрыхтаваў Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі з маэстра Міхалам Казінцом. Менавіта яму прафесар А. Багатыроў давяраў правесці свой аўтарскі канцэрт. Аднак адбыўся гэты канцэрт, прымеркаваны да 90-годдзя кампазітара, якое ён адзначыў у жніўні, ужо, на жаль, пад знакам "памяці юбіляра".



Вечаровай імпрэзе папярэднічала навуковая канферэнцыя пад назвай "Анатоль Багатыроў: Асоба. Творца. Настаўнік". У Беларускай акадэміі музыкі з раніцы распачалася грунтоўная (і шмат у чым цікавая не толькі для навукоўцаў) гаворка, змест і кірунак якой вызначылі каля паўтара дзесятка дакладаў, паведамленняў, падрыхтаваных мастацтвазнаўцамі, музыкантамі-практыкамі, кампазітарамі. Дастаткова зірнуць на праграму канферэнцыі, каб пераканацца ў нефармальным стаўленні саміх удзельнікаў да нагоды яе правядзення. "Час кампазітара А. В. Багатырова" — тэма даклада

Т. Шчарбаковай. "Месца фальклору ў педагагічнай працы А. В. Багатырова" — тэма даследавання В. Войціка. "Оперная паэтыка А. В. Багатырова: міфалагема "Роднага Дома" — такі напрамак разваг прапанавала Р. Аладава. Станаўленне творчай асобы маладых музыкантаў у сувязі з фартэпіяннымі опусамі кампазітара — гэты аспект прафесійнай адукацыі зацікавіў В. Шаўчэнку; сваім успрыманнем асобы А. Багатырова як Настаўніка падзялілася Л. Мурашка; старонкі невядомай спадчыны кампазітара — Санату для фагота і фартэпіяна праанілізаваў А. Фралоў...

Жывы голас нашага легендарнага класіка прагучаў у запісе ягонага інтэрв'ю, зробленага два гады таму.

Жывым голасам ягонага часу сталіся і фрагменты унікальнай эпісталярнай спадчыны А. Багатырова, з якімі пазнаёміла прысутных А. Саламаха. Дарэчы, у планах "ЛіМа" — эксклюзіўная публікацыя гэтага матэрыялу, які дадае істотныя штрыхі да псіхалагічнага партрэта Анатоля Васільевіча Багатырова — Асобы, Творцы, Настаўніка. Постаці, знакавай для беларускай культуры.

**С. ВЕТКА**
***Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА***

ранды, разгледзеўся. Ужо добра сшарэла, да вечара заставалася якой паўгадзіны.

— Як ты пачуваешся? Мо пераначуеш? — спытаў Драгун.

— Ды што ты? Колькі тут тае язды? — не згадзіўся я. — Будзь здароў, браце. Прывітанне Інесе.

Сеў на ровар і паехаў. Здаецца, ён слухаўся мяне, як належыць, і не рабіў вялікіх зігзагаў. Па дарозе я рашыў зазірнуць да сястры. Якраз яна была на дварэ, убачыла мяне і спалохалася:

— Куды ты такі паедзеш? Зусім жа п'яны!

Хай бы яна гэтага не гаварыла!

— Які п'яны? Я магу ехаць — значыць, не п'яны, — пачаў апраўдвацца.

— Не, я цябе такога не пушчу! — выгукнула сястра.

Яна кінулася да мяне, каб забраць ровар, але і я не драмаў; ускочыў на ровар і паехаў.

Вось тыя бярозы абапал дарогі, што садзіў Драгун са сваімі школьнікамі. Колькі гадоў яны іх садзілі? Гады тры, не менш, бо тут які кіламетр шляху. Справа могілкі, заснаваныя нядаўна. Тут дарога спускаецца ўніз, ровар сам набірае хуткасць, трэба прытарможваць. Ужо даволі сцямнела, на асфальце не бачна выбоін, ён здаецца роўны. Але часам ровар калоціць — значыць, трапіў на калдобіну. Так нядоўга і загрымець... І толькі я так падумаў, як мяне кінула ўбок і я паляцеў на асфальт. Ударыўся галавою, але не надта забалела, нават не аглушыла — так, як лёгкая аплявуха. Падняў ровар, выраўняў руль, бо яго збіла набок, дастаў хусцінку і выцер кроў з ілба. Лаяў сябе апошнімі словамі. Ужо не ехаў, а вёў ровар і мяне ўсё цягнула на яго, я некалькі разоў падаў...

Потым у маёй памяці ўтварыўся правал — нібы растварыўся у Сусвеце. "Знайшоў" я сябе толькі дома, у Клецку, ужо ў самых весніцах: укаціў ровар, прычыніў весніцы, закінуў на слупок гумовае кольца. Тут мяне спаткала спалоханая жонка Галіна. Яна прастаяла дзве ці тры гадзіны і ўсё чакала. За гэты час некалькі разоў званіла маёй сястры, яны абедзве плакалі і сварыліся адна на адну, што не дагледзелі — адна брата, другая — мужа, што невядома, дзе я і што са мною.

Жонка і цяпер расплакалася, што я хачу загубіць сябе і яе, што я сякі, такі і гэтакі. Усё гэта прызнаваў, трохі каяўся, трохі апраўдваўся, але каб вельмі шкадаваў аб тым, што адбылося, дык не надта. Бо які гэта мужчына не рыў носам зямлі, не спрабаваў прабіць асфальт лабацінаю? Што я, горшы ці лепшы за іншых? *Такі самы, як і ўсе... З аднаго цеста...*

Але назаўтра раніцою, як зірнуў на сябе ў люстэрка, дык нават спалохаўся, а потым ледзь не разрагатаўся: было на што паглядзець! Твар распісаны як мае быць! Не, не твар, а морда! Сінякоў-чырнякоў яшчэ не бачылася, яны паявяцца пазней, а цяпер выпіналі толькі пухліны і цёмныя каструбаватыя скарынкі на месцы збітай скуры на ілбе, на носе, на шчацэ, на падбародку.

Такія знакі-адзнакі насіў тыдні два, не паказваўся на людзі, хоць ад людзей не схаваешся, усё яны бачаць і ведаюць. Праз якіх дзесятак дзён усё з мяне сышло, ніякіх слядоў не засталося — як карова языком злізала. Проста ўдала падаў — як у анёлавы рукі...

Казалі потым, што мяне нехта на дарозе перастрэў, што нейкія хлопцы аддубасілі па ўсіх правілах і насадзілі ліхтароў, але духоў не выбілі — пашкадавалі старога. Цікава, за што мяне білі, а яшчэ цікавей — чаму пашкадавалі? Усё гэта не ўкладвалася ў галаве. А потым прыйшоў да высновы, што нічога гэтага не было, бо які б п'яны ні быў, а памятаў бы хоць пачатак нейкай там сутычкі. Аднак мая памяць гэтага не зафіксавала. І яшчэ. Назаўтра, калі аглядаў сваю вопратку, яна аказалася ўся цэлая. А на мне была далікатная, на падшэўцы, кароткая куртка з абкладным каўняром — і яна ўся цэлая, ніводнай дзіркі ці драпіны-разрыву, толькі на каўняры некалькі кропель засохлай крыві. Былі сляды крыві і на рукавах курткі, але невялікія, і хусцінка мая ў крыві, я выціраў ёю лоб і твар. Вось і ўсё! Калі б мяне там нехта біў, усё выглядала б інакш, я ў гэтым упэўнены.

Потым не раз і не два я зноў ездзіў да свайго сябра Драгуна, мы разам успаміналі той памятны вечар і разам смяяліся, што былі такія безаглядныя, бесклапотна-вясёлыя і забыліся, што мы ўжо старыя людзі, і з гэтым трэба лічыцца, а не выкідваць конікі.

А бярозы паабапал дарогі ўсё раслі, усё таўсцелі, шапацелі сваім густым лісцем — то далікатна-зялёным, то залацістым, то заставаліся зусім голыя і бялелі галінамі і камлямі, мерзнучы ад вятроў і маразоў, марачы аб цяпле, дажджы і сонцы, аб вясне. Яны ўжо рабіліся неадымнаю часткаю нашага пейзажу, нашага побыту, нашага жыцця. Яны ўпрыгожвалі, аздаблялі мне дарогу да сябра.

Ды чаму толькі мне? Усім, хто па ёй ездзіць і ходзіць — на доўгія, доўгія гады!

МАЛАВЯДОМАЕ ІМЯ

***У пачатку XIX стагоддзя на Слонімшчыне жыў цікавы і таленавіты чалавек. Быў ён спачатку уніяцкім, пасля праваслаўным святаром. А яшчэ пісаў на польскай і рускай мовах аповесці, апавяданні, вершы, успаміны, нататкі. Імя гэтага чалавека — Плакід (Яўстафій) Янкоўскі. На вялікі жаль, пра яго ў Беларусі ведаюць хіба толькі літаратуразнаўцы, ды і твораў Плакіда Янкоўскага на беларускую мову перакладалася даволі мала. Некалькі абразкоў пераклаў і апублікаваў навуковец Мікола Хаўстовіч і верш "Шчыпцы і свечка" ў перакладзе Віктара Шніпа быў надрукаваны ў анталогіі беларускай польскамоўнай паэзіі XIX стагоддзя "Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай" (Мн., 1998). Вось, бадай, і ўсё.***

# ПРА АЎТАРА "КАРЭСПАНДЭНЦЫЙ СА СЛОНІМА"

Плакід Янкоўскі нарадзіўся ў 1810 годзе ў вёсцы Вайская Камянецкага раёна ў сям'і уніяцкага духоўнага святара. Ён быў наймалодшым з чацвярых дзяцей. Таму і імя бацькі выбралі Плакід ад лацінскага слова "лагодны". Праўда, лагодзілі і песцілі хлопчыка нядоўга, бо ў 8-гадовым узросце ён ужо пачаў навуку ў Свіслацкай гімназіі, а пасля працягваў у базыліянскай школе ў Брэсце. У 1826 годзе, нягледзячы на свой малады ўзрост, Плакід Янкоўскі паступае ў Віленскую уніяцкую семінарыю пры мясцовым універсітэце і заканчвае яе са званнем магістра святога багаслоўя. Добрага студэнта прызначаюць на пасаду прафесара ў Жыровіцкую духоўную семінарыю, што на Слонімшчыне.

Прыехаўшы ў Жыровічы, дваццацігадовы выкладчык вырашае свой лёс і жыццё звязаць з гэтым мястэчкам, бо вельмі яму яно спадабалася. Але ў той час на Беларусі пачынаецца нацыянальна-вызваленчае паўстанне і семінарыя часова спыняе сваю дзейнасць. Тады Плакід пакідае Жыровічы і вяртаецца ў Вільню, дзе збірае матэрыялы на званне доктара багаслоўя і шукае сабе працу. У пошуках працы дапамагае прафесар Анёл Доўгірд. Ён уладкоўвае Плакіда хатнім настаўнікам дзяцей маршалка Тадэвуша Чудоўскага на Магілёўшчыне. Янкоўскі не толькі вучыць дзяцей, але і сам рыхтуецца да абароны доктарскай дысертацыі і вывучае мовы. На польскую наш зямляк перакладае з італьянскай мовы кнігу Сільвіа Пеліко аб абавязках людзей і ў 1835 годзе асобнаю кнігаю выдае яе ў Вільні.

У 1832 годзе Плакід Янкоўскі зноў вяртаецца ў Жыровічы. Але гэтае вяртанне было азмрочана смерцю бацькі, які яму шмат даваў парад і дапамагаў. Тым не менш, жыццё працягвалася і ў дадзенай сітуацыі трэба было неяк выжываць. Наш зямляк па-ранейшаму шмат працуе і піша. А праз два гады пасля вяртання ў Жыровічы, вырашае скончыць сваё халасцяцкае жыццё і жэніцца на 16-гадовай Алене Тупальскай — адной з пяці дачок сябра кансісторыі Антона Тупальскага.

Самым пераломным і нялёгкім момантам у жыцці нашага земляка быў той, калі ён паставіў свой подпіс у падтрымку пераходу уніі ў праваслаўе. Найперш, відаць, Плакід Янкоўскі гэта зрабіў дзеля будучай кар'еры. Ён пачынае пісаць на рускай мове, хаця яе дрэнна ведаў , навуковыя багаслоўскія працы і выступленні. А ў маі 1838 года яго павышаюць да звання малодшага саборнага протаіерэя і ўзнагароджваюць залатым крыжам. Тым не менш, заробак Плакід меў малы. А ў сям'і гадавалася пяць дзяцей. І калі памірае яго сястра і сястрын муж, ён забірае на выхаванне яшчэ шасцёра дзяцей. У такой складанай сітуацыі Плакід Янкоўскі просіць перавесці яго на пенсію. І каб неяк адцягнуць увагу ад жыццёвай складанасці і праблем, па-ранейшаму шмат піша і друкуецца. А ў 1842 годзе ў Вільні выходзіць яго першая кніга "Chaos" пад псеўданімам Джон Оф Дыкалп.

У 1845 годзе наш зямляк разам з Жыровіцкай семінарыяй, кансісторыяй і епіскапам пераязджае ў Вільню. Яго прызначаюць настаяцелем праваслаўнай Свята-Мікалаеўскай царквы. У Вільні Плакід Янкоўскі падтрымлівае моцныя літаратурныя кантакты з літаратарамі, краязнаўцамі і навукоўцамі, у тым ліку з Юзэфам Ігнатам Крашэўскім. Ён робіцца папулярным літаратарам, які друкаваўся пад псеўданімам Джон Оф Дыкалп. У Вільні, Пецярбургу, Лейпцыгу выходзяць з друку яго кнігі. Найперш гэта "Засценак"(1841 г.), "Хвіля" (1842 г.), "Апавяданні" (1843 г.), "Складзеная аповесць" (1843 г. разам з Крашэўскім) і многія іншыя. Але разумовая праца адмоўна адбіваецца на здароўі. Яму неабходны былі спакой і цішыня. Таму ў 1847 годзе Плакід вяртаецца на Слонімшчыну, атрымлівае невялікі прыход каля Жыровічаў. А праз дзесяць гадоў спыняе літаратурную працу, купляе ў Жыровічах хату і з сям'ёй тут спакойна пражывае. Тым не менш, у пачатку 60-х гадоў супрацоўнікі рускіх выданняў "Литовские епархиальные ведомости" і "Виленский вестник" прапаноўваюць яму вярнуцца да літаратурнай дзейнасці на рускай мове.



Плакід Янкоўскі пагаджаецца і на працягу шасці гадоў (з 1863 да 1868 гг.) друкуецца па-руску. Яго публіцыстыку ў гэты час можна падзяліць на дзве тэмы — праваслаўная царкоўная і ліквідацыя уніі, а таксама — вясковыя замалёўкі пра жыццё вёскі і некралогі па тых, хто памёр. У друку з'яўляюцца яго артыкулы "Мясцовыя забабоны і прымхі"(1863 г.), "Сялянская праўда"( 1865 г.), "Карэспандэнцыі са Слоніма"(1867 г.) і многія іншыя.

У 1867 годзе ў Жыровічы да Янкоўскіх з Расіі прыходзіць сумная вестка — памірае іх сын, які там вучыўся. Ад гэтага гора не вытрымлівае сэрца ў жонкі Плакіда і яна хутка памірае. З гэтага часу пісьменнік пакідае пісаць творы і нават не ходзіць у царкву. Уцехай яго становяцца кніжкі і агарод пры хаце. А 11 сакавіка 1872 года ў Жыровічах памірае і Плакід Янкоўскі. Яго пахавалі дзеці і землякі на жыровіцкіх могілках у падзямеллі царквы святога Георгія побач з жонкаю. На сцяне царквы дзеці ўстанавілі мемарыяльную шыльду на рускай мове. Гэтая шыльда зберагаецца да сённяшніх дзён. Праз год пасля смерці Плакіда Янкоўскага з друку выйшла яго кніга "Фанабэрыя пана старосты Канёўскага". А ў 1928 годзе слонімскі паэт і краязнавец Валяр'ян Харкевіч у Вільні выдае невялікую кніжачку "Плакід Янкоўскі (Джон Оф Дыкалп): жыццё і творчасць". Дарэчы, Валяр'ян Харкевіч у Слоніме і Вільні выдаў некалькі гісторыка-краязнаўчых кніг. Гэта "Гібель касцельнай уніі на Літве і Беларусі"(1929 г.), Zyrowice — lask krynice..." (1930), "Bez steru i busoli" (1929 г.) і іншыя.

Нядаўна сябры з Польшчы прыслалі мне кнігу Плакіда Янкоўскага "Доктар Пантэвуш у пераменах і іншыя творы". Кніга выйшла ў Варшаве ў 1985 годзе. Яна яшчэ раз нагадала пра нашага малавядомага і забытага земляка.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

**Калектыў Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" выказвае шчырае спачуванне пісьменніку Івану ЧАРОТУ ў сувязі з вялікім горам, якое яго напаткала — смерцю маці.**

**Калектыў Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне паэтцы Людміле КЕБІЧ з прычыны смерці брата Расціслава.**

